Ф. ЯНКОЎСКІ

# ГІСТАРЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 1 ЧАСТКА

### УВОДЗІНЫ. ФАНЕТЫКА

Дапушчана Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР як вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў БССР

ВЫДАВЕЦТВА «ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА»

МІНСК 1974

**Янкоўскі Ф.**

Я60 Гістарычная граматыка беларускай мовы. 1 частка. Уводзіны. Фанетыка. Мінск, «Вышэйш. школа», 1974.

144 с.

Вучэбны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў ВНУ рэспублікі па курсу «Гістарычная граматыка беларускай мовы». Асвятляюцца гістарычныя ўмовы ўзнікнення і развіцця беларускай мовы, характарызуюцца помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці, даецца аналіз важнейшых фанетычных змяненняў, якія адбываліся ў розныя перыяды развіцця мовы.

**Я $\frac{0713-081}{М304(05)-74}$ 94—74** **4Бел**

## АД АЎТАРА

Асновай гэтага дапаможніка з'яўляецца курс лекцый, створаны ў 1951—1956 гг. Курс дапрацоўваўся і чытаўся і ў наступныя гады на стацыянарным і завочным аддзяленнях Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Рыхтуючы дапаможнік да выдання, я замяніў значную частку прыкладаў (слоў, словазлучэнняў, сказаў, кароткіх урыўкаў з тэкстаў) новымі, узятымі з «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (ч. 1. Мінск, 1961), каштоўнага і кваліфікавана складзенага супрацоўнікамі АН БССР дапаможніка; прыметна скараціў частку параграфаў, асобныя пашырыў. Скарачэнне часткі параграфаў і замена прыкладаў новымі не выпадковыя: на курс гістарычнай граматыкі беларускай мовы навучальным планам адводзілася ў папярэднія гады 136 гадзін, у апошнія ж — 90, а на філфаку шырокага профілю (пасля пяцігадовага навучання выпускніку прысвойваецца кваліфікацыя выкладчыка беларускай мовы і літаратуры і рускай мовы і літаратуры) — 50 гадзін (30 гадзін лекцыйных і 20 практычных). Скарачэнне колькасці гадзін выклікала неабходнасць і скарачэння крыніц, на якія робяцца на занятках спасылкі; лічу, дарэчы, мэтазгодным спасылацца на адносна абмежаваную колькасць тэкстаў і старацца выкарыстоўваць адны і тыя тэксты і на лекцыйных і на практычных занятках па гістарычнай граматыцы бела-

рускай мовы, у такім выпадку ствараецца магчымасць забяспечыць азнаямленне студэнтаў з пэўнымі старажытнымі тэкстамі.

Выказваю сваю шчырую падзяку кафедры беларускай мовы Брэсцкага педагагічнага інстытута, членам кафедры беларускай мовы Мінскага педагагічнага інстытута В. Бекішу, Э. Блінавай, Н. Гаўрош, М. Гуліцкаму, М. Кавалёвай, Д. Музычэнцы, К. Панюціч, Я. Трушкевіч, А. Юрэвіч за ўдзел у абмеркаванні рукапісу і падрыхтоўцы яго да выдання. Шчыра дзякую дактарам філалагічных навук У. Анічэнку, А. Жураўскаму, Л. Шакуну за тое, што яны знайшлі час прачытаць рукапіс і выказалі свае пажаданні, каб палепшыць тэкст дапаможніка. Буду ўдзячны ўсім, ад каго атрымаю заўвагі і папраўкі да гэтай кнігі, а таксама пажаданні наконт яе зместу, структуры, аб'ёму. Мой адрас: 220004, Мінск-4, Паркавая магістраль, д. 5, кв. 6.

# УВОДЗІНЫ

## ГІСТАРЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

§ 1. **Пра змены ў мове.** Мова — грамадская з'ява. Мова знаходзіцца ў няспынным развіцці, перажывала і перажывае змяненні. Адны змяненні, напрыклад пераход асобных слоў у пасіўны запас лексікі, адбываюцца за кароткі час. Гадоў дваццаць назад слова *кок-сагыз* у беларускай мове было жывым і часта ўжывалася, яго ведалі ўсюды: у калгасах, дзе вырошчвалі гэтую расліну, у рэдакцыях перыядычных выданняў і радыёперадач, у кіраўнічых савецкіх і партыйных органах, на прыёмных пунктах, на заводах апрацоўкі гэтай дарагой тады культуры. Потым знайшлі лягчэйшы і зручнейшы спосаб здабывання, выпрацоўкі каўчуку, спынілася вырошчванне гэтай расліны, і слова *кок-сагыз* сёння не пачуеш, хіба толькі дзе-небудзь у вузкім коле спецыялістаў. Перайшлі ў пасіўны запас за гады Савецкай улады словы *жорны* (ручны млынок) і *млён* (ручка, пры дапамозе якой прыводзілі ў рух жорны). З другога боку, у мове ўзнікаюць новыя словы; так, зусім нядаўна, на нашых вачах, увайшло ў актыўны зварот слова *сянаж.*

Другія змяненні ў мове адбываюцца вельмі павольна, працягам доўгага часу. Так, напрыклад, пераход *ѣ* у *э (е)* адлюстроўваюць смаленскія і полацкія помнікі XIII ст. У гаворках жа Слуцкага, Слонімскага, Глускага і іншых раёнаў на месцы былога *ѣ (лѣсъ)* вымаўляецца гук *э* — «закрыты» галосны, набліжаны да *і*, г. зн. у часткі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак працэс змянення *ѣ*→*э*(*е*) яшчэ і сёння не закончыўся.

§ 2. **Прадмет і задачы курса гістарычнай граматыкі.** Гістарычная граматыка беларускай мовы толькі першая частка гісторыі беларускай мовы; другая частка — гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Кожная з гэтых частак — асобная навуковая дысцыпліна; абедзве яны

вывучаюцца на філалагічных факультэтах педагагічных інстытутаў і універсітэтаў, маюць свае мэты і задачы.

Мэта і задачы курса гістарычнай граматыкі беларускай мовы — паказаць, як ішло развіццё беларускай мовы, як складвалася яе фанетычная сістэма, яе граматычны лад — марфалогія, сінтаксіс[1]. Мэта і задачы курса гісторыі беларускай літаратурнай мовы — паказаць, раскрыць, як складвалася, выяўляючыся ў розных жанрах, беларуская (галоўным чынам пісьмовая) літаратурная мова, як развіваліся яе стылёвыя разнавіднасці і выяўленчыя сродкі, як яна паступова ўдасканальвалася і ўзбагачалася.

Толькі на гістарычнай аснове, праз вывучэнне гістарычнай фанетыкі, гістарычнай граматыкі (марфалогіі, сінтаксісу), можна глыбока ўразумець і навукова засвоіць сучасную беларускую мову, яе фанетычную сістэму, яе граматычны лад. У. І. Ленін вучыць: тую ці іншую грамадскую з'яву трэба вывучаць з пункту гледжання таго, «як пэўная з'ява ў гісторыі ўзнікла, якія галоўныя этапы ў сваім развіцці гэтая з'ява праходзіла, і з пункту гледжання гэтага яе развіцця глядзець, чым гэтая рэч стала цяпер». Любая сучасная мова — катэгорыя гістарычная; сучасныя беларуская, руская, чэшская, фінская ці іншыя мовы не спрадвечныя, кожная з іх склалася і развівалася ў пэўных гістарычных умовах, у пэўную гістарычную эпоху. Родную мову (яе «матэрыю і форму») можна ўразумець толькі тады, гаворыць Ф. Энгельс, калі прасочваецца яе ўзнікненне і паступовае развіццё, а гэта немагчыма, калі пакідаць без увагі амярцвелыя формы роднай мовы і роднасныя жывыя і мёртвыя мовы.

Курс гістарычнай граматыкі беларускай мовы не толькі раскрывае асноўныя заканамернасці развіцця фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу беларускай мовы, але і тлумачыць шматлікія з'явы сучаснай беларускай літаратурнай мовы і сучасных народных гаворак. Для будучых настаўнікаў гэты курс мае і адукацыйна-тэарэтычнае і практычнае значэнне. Пры разглядзе тых ці іншых заканамернасцей у гэтым курсе робіцца аналіз шматлікіх канкрэтных фактаў мовы, асобных слоў.

[1] Назва курса (навуковай дысцыпліны) «Гістарычная граматыка беларускай мовы» недакладная, бо гэты курс уключае не толькі гістарычную граматыку, а і фанетыку. Фактычна гэта курс гістарычнай фанетыкі і гістарычнай граматыкі беларускай мовы.

Без гісторыі мовы нельга зразумець марфалагічную структуру шматлікіх слоў сучаснай мовы. І некаторыя асобныя словы, і цэлыя серыі слоў непазнавальна змяніліся — змянілася іх гучанне, іх марфалагічная структура, а нярэдка словы «адарваліся» ад свайго кораня і сёння нічым яго не нагадваюць.

Некалькі прыкладаў. Назоўнік *тхор* для недасведчанага ў гісторыі мовы чалавека — непадзельнае на марфемы слова, з незразумелым коранем. А між тым гэта слова суфіксальнага ўтварэння, яно мае агульны корань з цэлым ланцужком сучасных слоў: *дыхаць, дыханне, удыхаць, дохнуць, дохлы, дух* і інш. Сучаснае *тхор* — з былога *дъхорь*. Страта рэдукаваных *ъ, ь* скараціла слова (*дъхорь→дхор*), у ім узнікла спалучэнне з разнародных гукаў — звонкага і глухога (*дх*); папярэдні звонкі *д*, прыпадабняючыся да наступнага глухога *х*, супаў са сваім парным глухім *т*, у выніку корань *дъх-* атрымаў гучанне *тх-*. Структура слова стала непразрыстаю, і ўсё яно ўспрымаецца (разам з суфіксам *орь→ор*) як корань.

Сучаснае слова *чан* мы ведаем як назоўнік мужчынскага роду II скланення з чыстаю асноваю. А паходзіць гэты назоўнік з былога кароткага прыметніка *дъщанъ* (ад кораня *дъщ-←дъск-*); *дъщан-ъ* — зроблены з дошак (параўн.: *шкло — шкляны, зямля — земляны, скура — скураны*). Такім чынам, *дъщ→дщ→тшч→ч, -ан* (←*-анъ*) перастала ўспрымацца як суфікс (параўн. *драўляны, цагляны*); былы адносны прыметнік *дъщанъ* стаў назоўнікам.

Прыслоўі *вельмі, нашча* — застылыя былыя зменныя словы. Першае — ад таго кораня, што і *веліч, вялікі, -мі*(←*-ьми*) тут — былы канчатак творнага склону (як і ў формах *грудзьмі, коньмі, слязьмі*). *Нашча* — прыслоўе, утварылася ад формы ніякага роду кароткага прыметніка *тъщ-е* (з *тъск-* — пусты) і прыназоўніка *на*. У выніку змяненняў (*тъщ→тщ→шч*) ад кораня захавалася толькі *шч*, прыназоўнік *на* стаў прыстаўкаю.

Фанетычныя змяненні ў формах дзеяслова *есці* ад кораня *ѣд-* прывялі да ўзнікнення некалькіх варыянтаў гэтага кораня: *яд-уць, ес-ці, еж-а, е-м, е-лі*.

Яшчэ прыклад. У беларускай мове ўжываюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання на *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)* тыпу *ідучы, лежачы*, ім адпавядаюць у рускай мове дзеепрыслоўі на *-а(-я)*: *идя, лежа*. Адрозненне тут

гістарычна-марфалагічнае; беларускае *ідучы*, рускае *идя* — гэта закасцянелыя формы кароткіх дзеепрыметнікаў незалежнага стану: *ида(-я)* — былая форма назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду, *идучи* — былая форма назоўнага склону адзіночнага ліку жаночага роду.

Гістарычная фанетыка і граматыка беларускай мовы тлумачыць таксама наяўнасць у сучаснай беларускай мове:

варыянтаў кораняў тыпу *смак* — *смач*-ны; *страх*-а — за-*стрэш*-ак — за-*стрэшш*-а — (на) *страс*-е; *лёг*-кі — *ляг*-чэйшы — (і)*льг*-ота; за-*мок* — за-*мык*-аць — за-*мк*-нуць; пры-*нес*-ці — пры-*нёс*;

варыянтаў прыставак тыпу *з*-біраць — *са*-браць; *ад*-рываць — *ада*-рваць;

варыянтаў суфіксаў тыпу куб-*ак* — куб-*к*-і;

варыянтаў прыназоўнікаў тыпу *з* (намі) — *са* (мною).

Курсу гістарычнай граматыкі беларускай мовы належыць асаблівае месца ў сістэме лінгвістычнай падрыхтоўкі выкладчыка беларускай мовы.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА СЯРОД СЛАВЯНСКІХ МОЎ

**§ 3. Тры славянскія моўныя групы.** Беларуская мова належыць да славянскіх моў, якія ўтвараюць тры групы:

усходнеславянскую: беларуская, руская, украінская мовы;

заходнеславянскую: польская, чэшская, славацкая, верхнялужыцкая, ніжнялужыцкая мовы;

паўднёваславянскую: балгарская, сербахарвацкая, македонская, славенская мовы.

Гэтыя тры славянскія моўныя групы скласліся гістарычна: назвы «ўсходне-, заходне- і паўднёваславянскія мовы» адпавядаюць геаграфічнаму размяшчэнню — тэрыторыі, якую засяляюць носьбіты гэтых моў. Славянскія моўныя групы выдзяляюцца на аснове агульных асаблівасцей, уласцівых мовам, што ўтвараюць пэўную групу.

Адзін славянін без цяжкасці або з пэўнаю цяжкасцю разумее другога (беларус — паляка, чэх — рускага і г. д.) нават без спецыяльнай адукацыі, вывучкі. Ва ўсіх славянскіх мовах ёсць вялікі пласт лексікі, якую называюць агульнаславянскай. Гэта галоўным чынам

словы, што былі яшчэ ў далёкі дапісьмовы час у так званай агульнаславянскай мове-аснове. І другое: асновы граматычнага ладу ўсіх славянскіх моў агульныя.

**§ 4. Агульнаславянская і агульнаўсходнеславянская мовы.** Як лічаць гісторыкі, выдзяленне славян з агульнаіндаеўрапейскага адзінства адбылося да пачатку III тысячагоддзя да нашай эры. Выдзеліўшыся, славяне доўгі час жылі сумесна на адносна невялікай тэрыторыі. Гэта быў агульны перыяд у гісторыі славян (агульнаславянскі перыяд). Мову славян гэтага перыяду называюць праславянскаю; у навуцы ёсць і другая назва — агульнаславянская мова-аснова. Зразумела, у гэтай мове-аснове адбываліся агульныя працэсы на ўсёй тэрыторыі, дзе жылі славяне; з другога боку, у ёй былі, дзеля свайго часу, дыялектныя адрозненні. У апошнія стагоддзі да нашай эры славяне пашырылі тэрыторыю свайго рассялення. Яшчэ больш пашыраецца яна ў першыя стагоддзі нашай эры. Засяленне славянамі велізарных абшараў натуральна прывяло да паслаблення сувязі паміж славянскімі групамі, а нарэшце і да распаду агульнаславянскага моўнага адзінства. Не пазней як у VI ст. нашай эры наступіў канец агульнаславянскай эпохі, пачалося выдзяленне славянскіх моўных груп, асобных славянскіх моў[2]. Такім чынам, з VI ст. пачынаецца гісторыя аднаго з адгалінаванняў агульнаславянскай мовы — агульнаўсходнеславянскай мовы, якую называюць яшчэ (праўда, недакладна) старажытнарускаю ці старарускаю[3]. Агульнаўсходнеславянская мова — яе зручней называць усходнеславянскаю — захавала ад агульнаславянскай асновы граматычнага ладу, фанетычнай сістэмы, лексіч-

---

[2] Пра гэта можна прачытаць у кн.: Ф. П. Филин. Образование языка восточных славян. М., 1962; С. Бернштейн. Очерк сравнительной грамматики славянских языков. М., 1961; В. В. Иванов. Историческая грамматика русского языка. М., 1964.

[3] Недакладнасць апошніх відавочная: старажытная мова ўсходніх славян не была ні ўласна рускаю, ні ўласна беларускаю, ні ўласна ўкраінскаю, развіццё гэтых асобных усходнеславянскіх моў пачынаецца з XIII ст.

Член-карэспандэнт АН СССР дырэктар Інстытута рускай мовы АН СССР Ф. П. Філін у сваёй працы «Происхождение русского, украинского и белорусского языков» (Л., 1972) тэрмінамі «общевосточнославянский язык» і «древнерусский язык» («агульнаўсходнеславянская мова» і «стараруская мова») называе адну з'яву. Чытаем, напрыклад: «Восточнославянский (древнерусский) язык первоначально был бесписьменным» (с. 30).

нага фонду. Ва ўсходнеславянскай мове адбываюцца працэсы і змяненні, вынікі якіх аднолькавыя для заходніх і паўднёвых славян. Адначасова адбываюцца працэсы і змяненні, вынікі якіх з'яўляюцца самабытнымі, усходнеславянскімі. З дапісьмовай пары (яна канчаецца ў сярэдзіне X ст.) ва ўсходнеславянскай мове развіліся змяненні, вынікамі якіх яна адрозніваецца ад паўднёва- і заходнеславянскіх моў. З ліку іх назавём хоць некалькі.

1. Наяўнасць гука *ж* на месцы **дй (dj)* ва ўсходнеславянскай мове і адпаведна — у беларускай, украінскай, рускай мовах, *жд* — у балгарскай (паўднёваславянская мова), *дз (dz)* — у польскай (заходнеславянская мова).

**садйа (*sadja)* { бел. *сажа*, балг. *сажда*, польск. *sadza*

2. Наяўнасць гука *ч* на месцы **тй (tj)* ва ўсходнеславянскай мове і адпаведна — у беларускай, рускай, украінскай мовах, *щ* — у балгарскай, *ц(с)* — у польскай.

**свѣтйа (*světja)* { бел. *свеч(к)а*, балг. *свещ*, польск. *świeca*

Яшчэ прыклады: бел. *мачаха,* балг. *мащеха,* польск. *macocha;* бел. *гарачы,* балг. *горящ,* польск. *gorący.*

3. Наяўнасць поўнагалосных спалучэнняў ва ўсходнеславянскай мове, адпаведна ў беларускай, рускай і ўкраінскай мовах і няпоўнагалосных — у паўднёваславянскіх і заходнеславянскіх мовах. Поўнагалосныя спалучэнні ва ўсходнеславянскай мове мелі гукавы склад: *-оро- (torot), -ере- (teret), -оло- (tolot), -ело- (telot);* у беларускай мове ў выніку фанетычных змяненняў яны ат-

---

Доктар філалагічных навук прафесар В. В. Іваноў піша, што тэрміны «древнерусский язык», «общевосточнославянский язык», «восточнославянский язык-основа» («стараруская мова», «агульнаўсходнеславянская мова», «усходнеславянская мова-аснова») — раўназначныя. (В. В. Иванов. Историческая грамматика русского языка, с. 12).

У кнізе «Вопросы теории и истории языка» (Л., 1963, с. 156—157) сцвярджаецца, што старажытную мову ўсходніх славян лагічна называць не «старарускаю», а «агульнаўсходнеславянскаю» (не «древнерусским языком», а «общевосточнославянским»).

рымалі гучанне: *-ара- (гарадскі), -аро- (варожыць), -ора- (горад), -ала- (галава), -ола- (холад), -ало- (малоць), -ера- (перад), -ярэ- (бярэзнік), -яро- (бяроза).*

**голва (*golwa)* { бел. *галава*; балг. *глава*; польск. *głowa*

Яшчэ прыклады: бел. *серада,* балг. *среда,* польск. *środa;* бел. *салодкі,* балг. *сладък,* польск. *słodki.*

4. Наяўнасць *ч* на месцы *-гт-, -кт- (-gt-, -kt-)* перад наступнымі *ь* ці *і* ва ўсходнеславянскай мове і адпаведна — у беларускай, рускай, украінскай мовах, *щ (шт)* — у балгарскай, *ц (с)* — у польскай. Прыклады: бел. *ноч, печ;* балг. *нощ, пещ (ношт, пешт);* польск. *noc, piec.*

5. Наяўнасць *о* (не пад націскам *а*) на месцы старадаўняга пачатковага *йэ (je)* ва ўсходнеславянскай мове і адпаведна — у беларускай, рускай, украінскай мовах, захаванне *йэ (je)* у польскай, балгарскай мовах. Прыклады: бел. *адзін* (з усходнеславянскага *одинъ), адзіны, (в)осень;* балг. *един, единен, есен;* польск. *jeden, jedyny, jesień.*

**§ 5. З назіранняў над балгарскім і польскім тэкстамі.** Не робячы тут параўнальнага апісання фанетыкі, граматыкі, лексікі славянскіх моў, спынімся на тэкстах, учытаемся ў іх, каб на канкрэтных прыкладах убачыць тое, што называюць агульнасцю і блізкасцю славянскіх моў. Натуральна, трэба ўзяць тэкст з паўднёваславянскай моўнай групы (ім будзе балгарскі тэкст) і тэкст з заходнеславянскай моўнай групы (ім будзе польскі тэкст).

### Балгарскі тэкст

#### *Вълчо и кума лиса*

Направили си кумчо вълчо и кума лиса къщичка. Заживели заедно. Купили си гърне мед.

— Да го изядем, лиске! — рекъл вълчо.

— Не бива, вълчо! — отговорила лиска. — Ще го скрием за гости.

— Да го скрием, сестричке!

Речено, сторено. Скриват мед в хралупата. Ала кума лиса често-често се навърта около хралупата и се облизва. Дали ще остане медец за гости, — кой знае?

Прачытайма тэкст яшчэ раз, і мы прыйдзем да такіх абагульненых назіранняў і вывадаў: у балгарскім тэксце многа слоў, якія ўжываюцца і ў беларускай мове, такіх слоў нават большасць, знаёмая і зразумелая большасць граматычных форм; увесь тэкст беларусу зразумелы.

Нават без перакладнога слоўніка можна зразумець: *вълчо* — воўк, *кума* — кума, *лиса* — ліса, *кумчо* — кум, *заживели* — зажылі, *заедно* — разам (заадно), *купили* — купілі, *мед* — мёд, *изядем* — з'ядзім (з'ямо), *отговорила* — адказала, *скрием* — схаваем, *гости* — госці, *речено, сторено* — сказалі — зрабілі, *ала* — але, *често* — часта, *се навърта* — пакручвалася, паварочвалася, *около* — каля, *се облизва* — аблізвалася, *дали* — далей, з часам, *остане* — застанецца, *медец* — мядок, *кой* — хто, *знае* — знае.

Ёсць у балгарскай казачцы словы і формы слоў, што патрабуюць лінгвістычных каментарыяў.

*Направили* — падрыхтавалі, зрабілі. Сэнс гэтага слова зразумеем, калі прыгадаем з жывых беларускіх гаворак: *Заўтра ў дарогу еду. То трэба направіць воз. Трэба направіць сані. Направіць* — падрыхтаваць на выезд (воз, сані): набраць саломы, змазаць колы, перавязаць вяроўкаю і інш.

*Си* — энклітычная форма давальнага склону займенніка *сябе;* яна ўжывалася ва ўсіх славянскіх мовах, у тым ліку і ва ўсходніх, але ў апошніх страцілася; у рускай мове запанавала форма *сабе* з былога *собѣ* (у рускай мове *себе* з *себѣ).*

*Къщичка* — хатка, прытулак. Можна меркаваць, што гэта слова ад таго кораня, што і беларускае *кушачка,* якое захавалася ў прыказцы *З харошае кушачкі — харошыя птушачкі. Кушачка* — хатка, сям'я, гняздо. Магчыма, што з *къща* пераклікаецца слова *куча* (Палессе) са значэннем 'хляўчук, малы хлеў'.

*Гърне* — гарнец (посуд). *Гърне* ад таго кораня, што і беларускае *горан* (старажытнае *гърнъ*), *ганчар* (старажытнае *гърньчаръ*[4]*),* што і прозвішчы *Ганчар, Ганча-*

---

[4] *Гърньчаръ* — той, хто апальваў у горане гліняны посуд. Фанетычныя змяненні ў гэтым слове (страта рэдукаваных *ь, ъ,* спрашчэнне групы зычных *рнч* у *нч*, змяненне *ъ→о→а)* зблізілі слова *ганча́р* са словам *гнаць (ганю, го́ніш)*, але гэта збліжэнне толькі вонкавае.

*рык, Ганчарэнка, Ганчарук, Ганчароўскі, Ганчароў* (усе яны з *гърньчаръ*).

*Се* (се навърта, се облизва) — энклітычная форма (вінавальны склон) займенніка *сябе;* яна таксама ўжывалася ў мове ўсіх славян, захавалася ў польскай мове (*jak się ma*); у нас яна зраслася з дзеясловам, стала часціцаю.

*Го* — яго; *го* — змененае *его*.

Зразумелая і форма *вълчо*. Параўн: *А ты, воўча, сядзі моўча. Воўча* — клічная форма; клічная форма і *вълчо,* але яна ў балгарскай мове атрымала значэнне назоўнага склону. *Сестричке* — таксама клічная форма. Параўн. (поўдзень Беларусі): *сястро́! ма́мо! Га́нно!*

І толькі слова *хралупата* патрабуе абавязковага тлумачэння. *Хралупата* — дупло.

Можна выдзеліць, без дэталёвага аналізу, фанетычныя і граматычныя асаблівасці, уласцівыя балгарскай мове. У гэтым тэксце іх нямала: і большая лабіяльнасць *о*, і іншае, чым беларускае, вымаўленне зычных перад *е, і (заживели)*, і *е* ў слове *заедно (един)*, і своеасаблівыя гукі — галасны *ъ*, зычны *щ*.

Балгарская мова па сутнасці захавала старажытную агульнаславянскую складаную сістэму форм прошлага часу. А з другога боку, яна развівалася па лініі страты скланення назоўнікаў. Беларускаму *хата майго бацькі* адпавядае *къща на ми баща, класікі марксізму-ленінізму — класици на марксизм-ленинизм*. Склонавае значэнне формы роднага склону *бацькі* ў балгарскай мове выражаецца прыназоўнікам, а назоўнік не змяняецца (*къща на баща*). У нашым тэксце (*остане медец*) *за гости* адпавядае беларускаму *гасцям* ці *для гасцей*.

## Польскі тэкст

### *W wagonie*

Do wagonu wchodzi nowy pasażer. Wszystkie miejsca są zajęte. Na ławce obok kobiety siedzącej pod oknem leży damska torebka. Pasażer zwraca się do kobiety:

— Proszę zabrać swoją torebkę.

— To nie moja torebka, — odpowiada. — Zaraz przyjdzie pasażerka, która ją tu położyła.

Pasażer wiesza płaszcz, kładzie walizkę na półce i powtarza jeszcze raz:

— Proszę zabrać torebkę.

Kobieta znów mówi, że to nie jej torebka i odwraca się do okna. W przedziale panuje milczenie. Pasażer stoi i czeka.

Rozlega się gwizdek, pociąg rusza.

— Gdzież jest ta pasażerka? — pyta mężczyzna.

Kobieta milczy, nawet nie odwraca głowy.

— Widocznie została na peronie i martwi się teraz o swoją torebkę, — mówi pasażer i rzuca torebkę przez okno.

— Och, och, to moja torebka! — woła kobieta.

W przedziale rozlega się śmiech.

— Ma, na co zasłużyła, — mówi jedna z pasażerek.

Каб палегчыць чытанне, а з чытаннем — успрыняццe і разуменне польскага тэксту, надрукаванага лацінкаю, перададзім яго спрошчана нашаю азбукай; насавыя галосныя *ą, ę* абазначым спалучэннямі *ом, он, ён, ен, ем,* адзначым націск у словах (пры гэтай спрошчанай перадачы, зразумела, адлюструецца польскае вымаўленне не ўсіх спалучэнняў гукаў).

До вагóну вхóдзі нóвы пасáжэр. Вшы́стке мéйсца сон заéнтэ. На лáвцэ óбок кобéты седзóнцэй под óкнэм лéжы дáмска торэ́бка. Пасáжэр звра́ца сен до кобéты:

— Прóшэн зáбраць свóён торэ́бкэн.

— То не мóя торэ́бка, — одповя́да. — Зáраз пшы́йдзе пасажэ́рка, ктýра ён ту положы́ла.

Пасáжэр вéша плашч, клáдзе валізкэн на пýлцэ і повтажа éшчэ раз:

— Прóшэн зáбраць свóён торэ́бкэн.

Кобéта знув мýві, жэ то не ей торэ́бка, і одвра́ца сен до óкна. В пшэдзя́ле панýе мільчэ́не. Пасáжэр стóі і чэ́ка.

Розлéга сен гвіздэк, пóцёнг рýша.

— Гдзеж ест та пасажэ́рка? — пы́та мэнжчы́зна.

Кобéта мільчы, нáвэт не одвра́ца глóвы.

— Відóчне зостáла на пэрóне і мáртві сен тэ́раз о свóён торэ́бкэн, — мýві пасáжэр і жýца торэ́бкэн пшэз óкно.

— Ох, ох, то мóя торэ́бка! — вóла кобéта. В пшэдзя́ле розлéга сен смех.

— Ма, на цо заслужы́ла, — мýві éдна з пасажэ́рэк.

І гэты, польскі, тэкст зразумелы беларусу. І ў ім знаходзім шматлікія словы, якія ўжываюцца ў беларускай

мове: *до* — да, *входзі* — уваходзіць, *новы* — новы, *вшыстке мейсца* — усе месцы, *заентэ* — занятыя, *на лавцэ* — на лаўцы, *обок* — побач (каля, збоку), *лежы* — ляжыць, *чэка* — чакае, *навэт* — нават, *відочне* — відавочна, *пшэз* — праз і інш.

Ёсць таксама ў тэксце запазычаныя з іншых моў словы, якія трапілі і ў беларускую мову: *вагон* — вагон (англ.), *пасажэр* — пасажыр (франц.), *пэрон* — перон (франц.) і інш.

Чытач знойдзе ў тэксце не толькі лексічныя супадзенні, але і агульнае ў фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісе: тут і дзеканне, і цеканне (праўда, беларускія *дз, ц* і польскія *dz, ć* некалькі адрозніваюцца), і форма прыметнікаў мужчынскага роду назоўнага склону адзіночнага ліку без *j (й)* (*nowy* — новы), і цвёрдыя шыпячыя, і ўжыванне роднага склону з прыназоўнікам *да* (*звраца сен до кобеты* — звяртаецца да кабеты). Нават павярхоўныя назіранні пакажуць шматлікія агульныя — для беларускай і польскай моў — фанетычныя і граматычныя рысы.

З другога боку, гэты невялічкі тэкст-абразок адлюстроўвае таксама шматлікія адрозныя асаблівасці, уласцівыя толькі адной з гэтых дзвюх моў. Сярод іх назавём для прыкладу некаторыя фанетычныя і марфалагічныя: паслядоўнае оканне *(obok)*: насавыя галосныя *(są zajęte)*; зычныя *ż, sz* (*ж, ш*) на месцы старадаўняга мяккага *р* (*przyjdzie, powtarza;* у першым слове *rz* чытаецца як *ш*, у другім — як *ж*); змяненне галоснага *о* ў пэўнай пазіцыі на *у* (такое *у* на пісьме палякі абазначаюць літараю *ó: mówi, na półce);* адсутнасць поўнагалосся (*odwraca się* — адварочваецца, *głowa* — галава); галосны *а* на месцы *ѣ (odpowiada);* адсутнасць падоўжаных зычных (*milczenie* — маўчанне); пачатковае *je* (*jedna* — адна, ніводная); ужыванне дзеяслова 3-й асобы адзіночнага ліку абвеснага ладу без канчатка *ц'* (*wchodzi, stoi* — уваходзіць, стаіць); кароткая форма займеннікаў *ta (tu), to* (тая, тую, тое); злітная (сцягнутая) форма прыметнікаў і слоў прыметнікавага тыпу ў форме назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку жаночага роду (*nowa, nowu* — новая, новую).

У польскай мове націск замацаваны за пэўным складам — звычайна падае на другі ад канца склад: *стóі, чэ́ка́, кла́дзе (stoi, czeka, kładzie).*

Калі ж параўнаць тыя ці іншыя славянскія мовы,

што належаць да адной моўнай групы (напрыклад, чэшскую і славацкую, балгарскую і сербскую, беларускую, рускую і ўкраінскую), то блізкасць іх — агульнасць лексікі, фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу — асабліва відавочная. І гэта зразумела.

**§ 6. Блізкасць і роднаснасць усходнеславянскіх моў.** Параўнаем беларускі тэкст з перакладам яго на рускую і ўкраінскую мовы.

Беларускі тэкст

Данік глядзеў на Міколу. Сябар яго ўстаў, падышоў да паліцы і зняў з яе кнігу.

— Гэта Янка Купала, — сказаў ён. — Той самы, што і пра Машэку напісаў. Памятаеш? — падмігнуў ён Даніку.

— Ага, — таксама па-змоўніцку ўсміхнуўся Сівы...

— І пра мяне ён напісаў, — гартаў кнігу Мікола. — Глядзі вось, верш: «Я шавец-маладзец». І пра цябе напісаў. Пра цябе і пра маму тваю. Вось паглядзім. Ага! Ну, слухай.

Гэта была размова беднай маці-сялянкі з хлопцам сваім, які пасвіў чужыя каровы. У хлопца было тое, чаго ў Даніка ніколі не будзе, — бацька і браты. Было і тое, чаго ў Даніка яшчэ няма, — служба ў чужых людзей... Было, аднак, і галоўнае, што радніла Сівага з тым пастушком, — горкая доля.

Мікола чытаў, стоячы сярод хаты...

— Ну, і галоўнае, што ты, браце Даніла, запамятай назаўсёды:

Не плач, маці, і не злуйся
На жыццё,
Як я ў сілачку ўбяруся,
Змагу ўсё.

Вось так, брат, і запісана. Зразумела?

У адказ Данік змог вымавіць толькі сваё «ага». За яго адказала маці.

— Як жа хораша, божачка, — уздыхнула яна. — Чула, Алена, га? — спыталася ў Міколавай маці, якая таксама не прала, а слухала.

— Ну, што, Данік, — сказаў Мікола, — хочаш вось так навучыцца чытаць? (*Янка Брыль.* Сірочы хлеб)

Рускі тэкст

Даник не спускал глаз с Миколы. Друг его встал, подошел к полке и снял с нее какую-то книгу.

— Это Купала, — сказал он. — Тот самый, что и про Машеку написал. Помнишь? — подмигнул он Данику.

— Ага, — так же заговорщицки улыбнулся Сивый...

—И обо мне он написал, — перелистывая книгу, говорил Микола. — Вот гляди, стих: «Я швец-молодец». И о тебе написал. О тебе и о твоей маме. Сейчас найдем. Ага! Ну, слушай.

Это был разговор матери-крестьянки с сыном своим, который пас чужих коров. У мальчика было то, чего Даник навеки был лишен, — отец и братья. Было и то, чего он еще не успел испытать, — служба у чужих людей... Было, однако, главное, что роднило Сивого с тем пастушком, — горькая доля.

Микола, стоя посреди хаты, читал...

— Ну, и вот что ты, брат Данила, должен запомнить навсегда:

Ты не жалуйся, матуся,
На судьбу,
Как я силы наберуся, —
Все смогу.

Вот так, брат, и записано. Понятно?

Даник в ответ мог вымолвить только свое «ага». За него ответила мать.

— Хорошо-то как, боженька, — вздохнула она. — Слышала, Алена, а? — обернулась к Миколовой матери, тоже переставшей прясть.

— Ну что, Даник, — сказал Микола, — хочешь научиться это читать? (Пераклад *А. Астроўскага)*

Украінскі тэкст

Даник дивився на Миколу. Друг його підвівся, підійшов до полиці і дістав там якусь книжку.

— Це Купала, — сказав він. — Той самий, що й про Машеку написав. Пам'ятаеш? — підморгнув він Даникові.

— Ага, — так само по-змовницьки посміхнувся Сивий...

— І про мене він написав, — гортав сторінки Микола. — От глянь, вірш: «Я швець-молодець». І про тебе написав. Про тебе і про маму твою. Зараз знойдемо. Ага! Ну, слухай.

Це була розмова бідної матері-селянки з своїм хлопцем, який пас чужу худобу. У хлопця було те, чого в Даника ніколи не буде, — батько і брати. Було й те, чого

в Даника ще нема, — поневіряння по чужих людях...Ріднило Даника з тим пастушком одне — гірка доля.

Микола читав, стоячи серед хати...

— Ну, і найголовніше, що ти, брат Данило, запам'ятай назавжди:

Хай печаль тебе, матусю,
Не гризе,
Ось я сили наберуся,
Зможу все.

Отак, брат, і написано. Зрозуміло?

У відповідь Даник зміг вимовити тільки своє «ага». За нього відповіла мати:

— Як же хороше, боже мій! — зітхнула вона. — Ти чула, Альоно? — спитала вона в Миколиної матері, яка теж не пряла, а слухала.

— Ну, то як, Данику, — промовив Микола, — хочеш отак навчитись читати? (Пераклад *П. Скрыпчанкі*)

І беларусы, і рускія, і ўкраінцы карыстаюцца гістарычна змененым кірылаўскім пісьмом, дастасаваным да кожнай з гэтых моў. Так, напрыклад, у беларускім пісьме вельмі часта сустракаецца літара *ў*, якой у рускім пісьме адпавядаюць літара *л (поўны — полный)*, літара *в (роўны — ровный)*, літара *у (адпачывалі ў нас — отдыхали у нас)*; у беларускім пісьме выкарыстоўваецца спалучэнне літар *дз*, яно абазначае беларускі мяккі зычны гук *дз'*, якому адпавядае рускі мяккі *д'* і літара *д (дзіва — диво)*; ва ўкраінскім пісьме ўжываецца, напрыклад, літара *ї*, якая абазначае спалучэнне *jі (йі)* у словах тыпу *Київ, бідної*; украінская літара *и* адпавядае нашай *ы (сын—син)*; у беларускім і ўкраінскім пісьме ўжываецца падвойнае абазначэнне так званых падоўжаных зычных *(Запарожжа — Запоріжжя, пытанне — питання)*.

На толькі што прачытаных тэкстах, параўноўваючы іх, можна лёгка ўбачыць блізкасць лексікі трох усходнеславянскіх моў, блізкасць іх граматычнага ладу.

Параўнанне беларускай і рускай моў — іх фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу — зробім і з практычнай і з навуковай мэтай; параўнанне — надзейны прыём пры вывучэнні мовы (моў).

**§ 7. Асаблівасці беларускай і рускай фанетыкі.** 1. Для беларускай мовы характэрны і часта ўжываецца зычны гук *ў*, які паходзіць з агульнаславянскага *в (въ,*

*вь) (галоўка* — з *головъка, здароўе* — з *съдоровье, праўда* — з *правьда)*, з агульнаславянскага *л (жоўты* — з *жьлтъи)*, з агульнаславянскага *у (была ў брата)*. У рускай мове гэтаму *ў* адпавядае ў вымаўленні *в (правда), ф (галофка, офса), л (желтый), у (была у брата)*.

2. Беларускім падоўжаным зычным гукам *ж, з, дз, л, н, с, ц, ч, ш*, якія абазначаюцца на пісьме падвойнымі літарамі *(збожжа, маззю, суддзя, соллю, галлё, пісанне, кассё, жыццё, ноччу, застрэшша)*, у рускай мове адпавядаюць спалучэнні «зычны+*j(й)»: сол'jу (солью), ноч'jу (ночью)*. Беларускія падоўжаныя зычныя ўзніклі на месцы старадаўняга агульнаўсходнеславянскага спалучэння «мяккі зычны+*ьj*», калі гэта спалучэнне стаяла паміж двух галосных: *пытаньjе→пытанне*.

3. Беларускі зычны *г* працяжны, фрыкатыўны, адпавядае рускаму *г* выбухному (g); у беларускай мове выбухны *г* (g) сустракаецца ў адзінкавых запазычаных словах *(ганак, гузік* і некаторыя іншыя).

4. У беларускай мове аж пяць складаных гукаў, якія называюцца афрыкатамі: *дз (дзень), дж (гляджу), ц (цана, касец), ц' (цесна, ціха)* і *ч (чужы)*. У рускай мове іх два: *ц (цена, косец)* і *ч (чужой)*.

5. Беларускім мяккім свісцячым афрыкатам *дз', ц' (дзіця)* адпавядаюць у рускай мове мяккія зычныя *д', т' (дитя)*. Беларускім *дз* і *ц* уласціва большая ступень палатальнасці, або мяккасці, чым рускім *д, т*.

6. Беларускай афрыкаце *дж* у рускай мове адпавядае *ж*, а ў запазычаннях са стараславянскай мовы — *жд (сяджу* і *сижу, прыгладжваць* і *приглаживать, узнагароджанне* і *награждение, асуджэнне* і *осуждение, папярэджанне* і *предупреждение)*.

7. Губныя зычныя ў беларускай мове на канцы слова, а таксама перад зычнымі, у тым ліку і перад *j (й)*,— толькі цвёрдыя: *сем, голуб, сып, на́сып, насы́п, п'е*. У рускай мове яны бываюць і мяккія: *семь, голубь, сыпь, на́сыпь, насы́пь*.

8. Зычны *в* у беларускай мове чаргуецца з *ў; в* вымаўляецца перад галосным, *ў* — на канцы слова і перад наступным зычным: *галава — галоўка, галоўны; здаровы — здароўе; карова — кароў, кароўка*. У рускай мове *в* захоўваецца не толькі перад галоснымі, але і перад звонкімі і санорнымі зычнымі: *здоровый, здоровье, заздравная, главный, соврать*, а перад глухімі зычнымі і на

канцы слова чаргуецца з *ф*: *трафка, фпереди, фсегда, короф, голоф*.

9. Беларускі гук *р* заўсёды, паслядоўна цвёрды зычны[5]: *парадак, растрэсці, запрэгчы, рыба*. У рускай мове ёсць *р* цвёрды і *р* мяккі (*рыба*, але *порядок, растрясти, запрячь*), гэта значыць зычны *р* парны паводле цвёрдасці- мяккасці (*р—р'*).

10. Зычны *д* у прыназоўніку і прыстаўцы *ад* вымаўляецца як *д* перад усімі звонкімі, у тым ліку перад санорнымі *в, ј (й), л, м, н, р*: *адважыцца, ад Волмы, ад Лунінца, адламаць, адрэзаць, ад Радуні, ад Радашкавіч, ад іх (ад јіх), ад'ехаць (адјехаць)*. У рускай мове адпаведна вымаўляецца *т*: *отважиться, от Льгова, отломить, отрезать*.

11. Зычны *ч* у беларускай мове заўсёды цвёрды — ці перад зычным, ці перад галосным, ці на канцы слова: *чэрці, канчатак, крынічны, святочны, крумкач*. У рускай мове *ч* мяккі зычны.

12. У беларускай мове змяніліся старажытныя канцавыя спалучэнні «губны+*л*» (*бл, мл, вл*): *рубель, карабель, бабёр, віхор, журавель* (з *рубль, корабль, бобръ, вихрь, журавль*), *Мсціслаў* (з *Мьстиславль*), *Заслаўе*[6] (з *Изяславль*); у рускай мове: *корабль, Заславль, Мстиславль* і г. д.

13. Беларускай афрыкаце *ч* адпавядае ў рускай мове *ч* (*свечка* і *свеча*), а ў запазычаных словах са стараславянскай мовы — *щ* (*скарачэнне* і *сокращение*).

14. У беларускай мове чаргуюцца *г : х* (*дарога — дарох, лугі — лух*), у рускай мове — *г : к* (*дарога — дорок, луга — лук*).

15. У беларускай мове былое спалучэнне *чс* злілося ў адзін гук, які абазначаецца на пісьме літарай *ц*; у рускай мове *чс* захавалася: *журавіцкі* і *журавичский, пухавіцкі* і *пуховичский*.

16. У беларускай мове, як вынік трэцяй палаталізацыі, у словах тыпу *чарніцы, брусніцы, суніцы* маем *ц*, у рускай мове — *к* (*черника, брусника, голубика*).

---

[5] Заўсёды цвёрды зычны *р* у сербскай і польскай мовах. Былы *р* мяккі (*р'*) у польскай мове супаў з зычнымі *ж* ці *ш* (пасля звонкіх зычных і пасля галосных — *ж*, пасля глухіх — *ш*: *przyjdzie* — пшыйдзе, *grzyb* — гжыб).

[6] У словах тыпу *рубель* паміж *б* і *л* з'явіўся галосны *е*, у словах тыпу *Мсціслаў* адпаў канцавы зычны *л*, у словах тыпу *Заслаўе* на месцы *л* з'явіўся зычны *ј (й)*.

17. Беларускім словам з поўнагалоснымі спалучэннямі *(серада, сорам, вораг, палон, салодкі, галоўны, сярэдні, узнагарода, скарачэнне)* адпавядаюць у рускай мове запазычаныя стараславянскія з няпоўнагалоснымі спалучэннямі *(среда, срам, враг, плен, сладкий, главный, средний, награда, сокращение)*.

18. Прыстаўны зычны *в* (зрэдку *г*) перад пачатковымі *о, у* (у тым ліку і пасля прыставак) у беларускай мове *(вуліца, вуха, завушніца, вока, завочнік, воддаль)* і адсутнасць гэтага прыстаўнога (апрача слова *восемь*) у рускай мове *(улица, ухо* і падобн.).

19. Націскному галоснаму *э (е)* перад шыпячымі ў беларускай мове *(нясеш, ідзеш, бярэш)* адпавядае *о (е)* у рускай мове: *несёшь (нес'ош), идёшь (ид'ош)*.

20. Прыметнікі і ўсе іншыя словы прыметнікавага тыпу мужчынскага роду ў назоўным (вінавальным) склоне адзіночнага ліку ў беларускай мове маюць «усечаныя» канчаткі *-ы, -і*[7]: *малады, добры, залаты, летні, такі, усялякі, шосты, сёмы, зроблены, створаны.* У рускай мове ім адпавядаюць *-ый, -ий* ці *-ой: добрый, молодой, летний, такой, шестой.*

21. Склады *ро, ло, ле* ў беларускай мове чаргуюцца з *ры, лы, лі: глотка — глытаць, дрогнуць — дрыжаць, блохі — блыха, гром — грымець, грымоты, дровы — дрывотня, дрывасекі, бляск (блеск) — блішчыць.* У рускай мове: *глотка — глотать, дрогнуть — дрожать.*

22. Для беларускай мовы характэрны прыстаўныя галосныя ў словах, што пачынаюцца групай зычных гукаў, першы ў якой — санорны: *ільняны, іржавы, аржаны, імхі, аўторак.* У рускай мове: *льняной, мхи, ржаной, вторник.*

23. У беларускай мове ў словах тыпу *розум, роўнасць, розніца, роўныя* захавалася старажытнае ўсходнеславянскае спалучэнне *ро*, у рускай мове ў выніку ўплыву стараславянскай мовы замацавалася *ра (разум, равенство, разница* і інш.).

24. У групе слоў *(запрэгчы, агледзець, растрэсці* і інш.) на месцы старажытнага *э* насавога ў беларускай мове ўзнік галосны *э (е)*, у рускай *а (я) (запрячь, растрясти* і інш.).

25. У беларускай мове ў дзеясловах загаднага ладу

---

[7] Сказаць інакш, у гэтых словах адпаў зычны *j (й)*: *малады — з молодый; шосты — з шестый, такі — з такый.*

тыпу *мый, крый, шый, бі, ві, лі,* абвеснага ладу тыпу *мыю, шыю, крыю, выю* вымаўляюцца галосныя *ы, і.* У рускай мове адпаведна *о, е: мой, мою, крой, бей, пей, шей.*

26. Злучнік і часціца *і* пасля слова, якое канчаецца на галосны, у беларускай мове вымаўляецца як *й: бацька й сын, сястра й брат, спрытна й лоўка, нарагаталіся й наспяваліся, будзе й на нашай вуліцы свята, а я й не ведала.* У рускай мове такога змянення няма.

**§ 8. Асаблівасці беларускай і рускай марфалогіі.** Марфалагічныя асаблівасці зручней разглядаць у разрэзе часцін мовы: назоўнік, прыметнік, лічэбнік і г. д.

Н а з о ў н і к. 1. Не заўсёды супадае род назоўнікаў у беларускай і рускай мовах. Беларускае *капыт (капыток* і *капыцік)* — назоўнік мужчынскага роду, рускае *копыто (копытце)* — ніякага роду. Словы *ахапак, боль, гармонік, жаль, медаль, накіп, насып, палын, пачак, пыл, сабака, стэп, цень, шынель* у беларускай мове належаць да мужчынскага роду, у рускай — да жаночага роду, а, напрыклад, слова *тапол*я ў беларускай мове жаночага роду, у рускай — мужчынскага роду *(тополь).* Зразумела, куды часцей назіраецца несупадзенне ў родзе, калі адпаведныя словы ў дзвюх мовах маюць розныя корані: *жыта* (ніякі род) і *рожь* (жаночы род), *пытанне* (ніякі род) і *вопрос* (мужчынскі род).

2. З адрозненняў у родзе вынікае несупадзенне ў скланенні: словы тыпу *палын, пыл* скланяюцца, як назоўнікі *стол, лес, сук,* а рускія *полынь, пыль* — як назоўнікі тыпу *сеть, соль.* Іншы раз бывае несупадзенне тыпу скланення назоўнікаў, якія ў беларускай і рускай мовах належаць да аднаго роду: беларускія *морква, царква,* скланяюцца, як *вішня, трава* (I скланенне), а рускія *морковь, церковь* — як *соль* (III скланенне).

3. Некаторыя назоўнікі адрозніваюцца лікам: у беларускай мове: *чарніла* (чорнае, сіняе, зялёнае); *бяліла* (добрае, сінтэтычнае); *дзверы* (новыя, шырокія); *крўпы* (ячменныя, аўсяныя); у рускай мове: *чернила* (черные, синие, зеленые); *белила* (хорошие, синтетические); *дверь* (новая, широкая); *крупа́* (ячневая, овсяная).

4. Часцейшае ўжыванне канчатка *-у (-ю)* у родным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ў беларускай мове *(лесу, пяску, тварагу, жвіру, гравію, смаку, смутку, друку, гаю),* чым у рускай мове.

5. Гістарычнае чаргаванне канцавых зычных асновы *г, к, х* з *з, ц, с (г:з, к:ц, х:с)* у давальным і месным склонах назоўнікаў I і ў месным склоне назоўнікаў II скланення ў беларускай мове *(дуга — на дузе, мука — у муцэ, страха — на страсе, бераг — на беразе, луг — на лузе);* гэтага чаргавання няма ў рускай мове *(дуга — на дуге, мука — в муке, берег — на берегу, о береге).*

6. Уніфікаваная форма назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў у беларускай мове: канчаткі *-і, -ы, (лясы, бары, сыны, браты, лугі, шляхі, вокны, палі, пытанні, заданні),* толькі словы тыпу *армянін* маюць канчатак *-е (армяне).* У рускай мове — *-и, -ы (столы, ученики), -а, -я (леса, учителя), -ья (сучья, братья, сыновья), -е (армяне).*

7. Ужыванне клічнай формы ў беларускай мове *(браце, голубе, дружа, воўча, сынку, дзедку, лесе, хмелю, коню)* і страта яе ў рускай мове (словы *господи, боже* ў рускай мове захавалі клічную форму, але яны сталі па сутнасці выклічнікамі).

8. Ужыванне канчаткаў *-і, -ы* ў давальным і месным склонах назоўнікаў I і ў месным склоне назоўнікаў II скланення ў беларускай мове *(зямля — зямлі, на зямлі; ралля — раллі, на раллі; гульня — гульні, у гульні; мяжа — мяжы, на мяжы; плошча — плошчы, на плошчы; задача — задачы, у задачы; дзень — на дні; конь — на кані; пень — на пні; кош — у кашы; плашч — у плашчы, на плашчы).* У рускай мове — канчатак *-е (земля — земле, на земле; межа — меже, о меже; день — о дне; плащ — о плаще).*

9. У беларускай мове назоўнікі мужчынскага роду, якія належаць да I скланення *(бацька, ваявода, дзядзька, стараста),* у некаторых склонах маюць формы назоўнікаў II скланення: *бацька — бацьку, дзядзька — дзядзьку* (давальны і месны склоны адзіночнага ліку), *бацька — бацькам, калега — калегам, музыка — музыкам, мужчына — мужчынам* (творны склон адзіночнага ліку). У рускай мове: *воеводе, старосте; воеводой, старостой.*

10. Назоўнікі на *-мя (полымя, семя, бярэмя* і некаторыя іншыя) у беларускай мове аб'ядноўваюцца па склонавых канчатках з назоўнікамі II скланення:

Р. *полымя, семя, бярэмя, племя* — як і *поля, жыцця;*

Д. *полымю, семю, бярэмю, племю* — як і *полю, жыццю;*

Т. *полымем, семем, бярэмем, стрэмем* — як і *полем, здароўем;*

М. *у полымі, на семі, на бярэмі, у стрэмі* — як і *у полі, пры здароўі, у жыцці.*

У рускай мове назоўнікі на *-мя* захоўваюць старажытную асаблівасць скланення з *-ен- (семени, бремени).*

11. Назоўнікі мужчынскага роду II скланення, што абазначаюць асобу чалавека, у беларускай мове ў месным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак *-у (-ю): пры брату, пры Пятру, пры кавалю;* у рускай мове — *-е (о брате, о Петре, о кузнеце).*

Прыметнік. 1. Вельмі звужанае ўжыванне кароткіх прыметнікаў, выцесненых поўнымі формамі, у беларускай мове і паралельнае ўжыванне кароткіх і поўных прыметнікаў у рускай мове.

2. У беларускай мове прыналежныя прыметнікі ва ўскосных склонах маюць канчаткі поўных прыметнікаў: Р. *бацькавага, матчынага, жончынага;* Д. *бацькаваму, матчынаму, жончынаму.* У рускай мове ўжываюцца кароткія формы: Р. *отцова;* Д. *отцову.*

3. У беларускай мове прыметнікі мужчынскага і ніякага роду, а таксама дзеепрыметнікі, парадкавыя лічэбнікі, займеннікі — усе словы прыметнікавага тыпу — у творным і месным склонах адзіночнага ліку маюць адзін канчатак — *-ім (-ым):*

*з летнім — у летнім;*
*з добрым — на, у добрым;*
*з выкарыстаным — на выкарыстаным;*
*з трэцім — на трэцім;*
*з восьмым — на, у восьмым;*
*з кім — на, пры кім;*
*з чыім — на, у чыім;*
*з тым — на, у тым;*
*з маім — на, у маім;*
*з нашым — на, у нашым.*

У рускай мове словы гэтага тыпу маюць асобыя канчаткі для творнага і меснага склонаў:

*с летним — о летнем;*
*с добрым — о добром;*
*с тем — о том;*
*с чьим — о чьем.*

4. Прыметнікі вышэйшай ступені параўнання ў беларускай мове маюць суфіксы *-эйш-, -ейш-, -ш-* і з'яўляюцца поўнымі зменнымі формамі: *разумнейшы за яго, разумнейшая за яе, разумнейшыя за іх; першы мост даўжэйшы за другі; гэта хата навейшая за тую.* У рускай мове прыметнікі вышэйшай ступені — закасцянелая, нязменная форма, якая граматычным складам не адрозніваецца ад прыслоўяў: *умнее его, длиннее, новее, шире, больше.*

Лічэбнік. 1. У беларускай мове лічэбнік *адны* — гэта былая форма множнага ліку жаночага роду *(одьны),* у рускай мове *одни* — былая форма множнага ліку мужчынскага роду *(одьни),* г. зн. з пункту гледжання паходжання ў формах *адны* і *одни* адрозненне не фанетычнае, а марфалагічнае.

2. Лічэбнік *два, дзве* ма́е родавае адрозненне не толькі ў назоўным (вінавальным), але і ва ўскосных склонах:

Р. *двух* (паверхаў) і *дзвюх* (дошак);

Д. *двум* (паверхам) і *дзвюм* (дошкам);

Т. *двума* (паверхамі) і *дзвюма* (дошкамі).

У рускай мове ва ўскосных склонах родавага адрознення няма: *двух* (этажей, изб), *двум* (этажам, избам), *двумя* (этажами, избами).

3. У беларускай мове замацавалася былая форма лічэбніка жаночага роду *четыри* — *чатыры;* у рускай мове — адпаведная форма мужчынскага роду *четыре* — *четыре.*

4. У беларускай мове лічэбнік *дзевяноста* мае адну нязменную форму; у рускай мове мае дзве формы — *девяносто* і *девяноста.*

Займеннік. 1. Поўная (гістарычна — складаная) форма займенніка *тая, тое (та+я; то+е)* у беларускай мове і кароткая форма ў рускай мове: *та, то.* Беларуская форма займенніка мужчынскага роду *той* з *тъ+и,* руская форма *тот* з *тъ+тъ.*

2. Падвойная аснова займенніка *ён (яна, яно, яны)* у беларускай мове: *j-он, j-ан-а, j-ан-о, j-ан-ы;* у рускай мове аснова *он-.*

Ва ўскосных склонах гэты займеннік мае аснову *j- (j-аго, j-аму, j-ой, j-іх, j-ім);* у рускай мове — то *j- (j-его, j-ему),* то *н- (н-его, н-ему, н-их),* якое з'явілася як прыстаўное *(сън имь→съ нимь→с ним).*

3. У беларускай мове скланенне займенніка *увесь*

*(уся, усё, усе)* аб'ядналася са скланеннем займеннікаў мяккай разнавіднасці тыпу *мой, твой, свой, чый*; творны склон адзіночнага ліку *усім* — як і *маім, тваім, сваім;* у множным ліку *усіх* — як і *маіх, тваіх, сваіх; усім* — як і *маім, тваім, сваім, чыім.* У рускай мове захавалася старажытная асаблівасць скланення: *всех, всем, всеми* (з *вьсѣхъ, вьсѣмъ, вьсѣми*).

4. Такое аб'яднанне адбылося і ў скланенні займенніка *той (тая, тое, тыя):* творны склон адзіночнага ліку *тым* — як і *маім, тваім, сваім;* у множным ліку: родны і месны склоны *тых* — як і *маіх, тваіх, нашых, вашых;* творны склон *тымі* — як і *маімі, тваімі, нашымі, вашымі.* У рускай мове: *тем* (творны склон адзіночнага ліку), *тех, тем, теми* (множны лік).

5. Аснове *як-* беларускага займенніка *які (якая, якое, якія)* адпавядае ў рускай мове *как- (какой, какая, какое, какие).*

6. У беларускай мове канчатак *-е* ў родным склоне займеннікаў *я, ты,* зваротнага *сябе: мяне, цябе, сябе;* у рускай — *-я: меня, тебя, себя.*

7. Канчаткі *-го* (родны склон), *-му* (давальны) у займенніках *мой (маё), твой (тваё), свой (сваё), чый (чыё)* у беларускай мове: *майго, свайго, твайго; майму, твайму, свайму; -его, -ему* — у рускай мове: *моего, твоего, моему, твоему.*

8. Аснова *таб-, саб-* у давальным і месным склонах займеннікаў *ты, сябе* ў беларускай мове *(табе, сабе)* і *теб-, себ-* — у рускай мове *(тебе, себе).*

Д з е я с л о ў. 1. Не заўсёды супадае аснова дзеяслова: *бег*-чы і *бежа*-ть, *кракта*-ць і *кряхте*-ть, *цер*-ці і *тере*-ть.

2. У беларускай мове ёсць суфікс інфінітыва *-чы* (сцераг-*чы*, лег-*чы*, дапамаг-*чы*, запрэг-*чы*, стрыг-*чы*), у рускай мове — *-ч'* (гэта *ч* адпавядае былому *-гт* — зычнаму *г* кораня і *т* суфікса): *мочь* (з **могти), стричь* (з **стригти*).

3. У беларускай мове дзеясловы I спражэння ў 3-й асобе адзіночнага ліку абвеснага ладу не маюць канчатка *ц'*, дзеясловы II спражэння маюць канчатак *ц'*: *ідзе, нясе, піша, бярэ; косіць, носіць.* У рускай мове дзеясловы абодвух спражэнняў маюць канчатак *т: идет, косит.*

4. У беларускай мове захаваліся былыя формы нетэматычнага спражэння: *я-сі, да-сі, яс-це (ё), дас-це (ё).*

У рускай мове гэтыя формы выцесніліся формамі тэматычнага спражэння: *едите, дадите* (як і *носите*).

5. У беларускай мове ёсць дзве формы прошлага часу — простая і складаная: *Агаляўся твар зямлі.* (Я. Колас) *Хто сустрэўся быў са мною, дакрануўся раз ці два, дык той ведае ўжо, хто я: я — пякучка-крапіва.* (К. Крапіва) У складаную форму ўваходзіць дапаможны дзеяслоў, які мае формы роду і ліку: *быў, была, было, былі.* У рускай мове сустракаецца форма прошлага часу з *было,* але тут яна простая: былы дзеяслоў *быти* стаў толькі часціцаю.

6. У беларускай мове ўжываецца форма 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу: *станьма, сядзьма, кіньма, нясем, вязем (нясём, вязём* — формы абвеснага ладу). У рускай мове адбылося паслядоўнае супадзенне формы 1-й асобы множнага ліку загаднага і абвеснага ладу *(косим (!)* і *косим, несем (!)* і *несем).*

7. Заднеязычныя *г, к* у формах 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу ў беларускай мове чаргуюцца з *ж, ч: бягу — бяжы, бяжыце; стрыгу — стрыжы, стрыжыце; сяку — сячы, сячыце.* У рускай мове такога чаргавання няма: *бегу — беги, бегите; секу — секи, секите.*

8. Форма загаднага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку ў беларускай мове ўтвараецца з формы абвеснага ладу пры дапамозе часціцы *няхай (хай)* (паходзіць са старажытнага дзеяслова *хаяти,* які меў значэнне 'звяртаць увагу'): *няхай сходзіць, няхай сходзяць; хай чытае, хай чытаюць.* У рускай мове — пры дапамозе часціцы *пусть (пускай): пусть читает, пусть читают.*

9. У беларускай мове рэдка ўжываюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу з суфіксамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-), -ўш-, -ш-.* У рускай мове яны вельмі пашыраныя *(называющаяся, расходившаяся, называющийся, расходившийся).*

10. Беларускім дзеепрыметнікам незалежнага стану прошлага часу з суфіксам *-л-* адпавядаюць у рускай мове дзеепрыметнікі з суфіксамі *-вш-, -ш- (пасівелы — поседевший, амярцвелы — омертвевший, пажоўклы — пожелтевший, счарсцвелы — счерствевший, очерствевший).*

11. У беларускай мове дзеепрыслоўі незакончанага трывання маюць суфіксы *-учы (-ючы), -ачы (-ячы): ідучы, будуючы, кажучы, малюючы, лежачы, лепячы, се-*

*дзячы, робячы.* У рускай мове — *-а (-я): идя, неся, читая, сидя.* Беларускія дзеепрыслоўі на *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)* — гэта закасцянелыя кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу жаночага роду (*идучи, робячи*); рускія дзеепрыслоўі тыпу *идя, неся* — закасцянелыя кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу мужчынскага і ніякага роду (*ида, неса — идя, неся*).

12. У беларускай мове ўтвораны і ўжываюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання ад дзеясловаў тыпу *біць, піць, віць, ліць, шыць, жаць* і інш., ад дзеясловаў *мазаць, пісаць, рэзаць* і інш. (*б'ючы, п'ючы, мажучы, пішучы*). У рускай мове такіх дзеепрыслоўяў няма.

**§ 9. Асаблівасці беларускага і рускага сінтаксісу.** Выражэнне выказніка. 1. У беларускай літаратурнай мове кароткія прыметнікі ў ролі выказніка (і ўвогуле) ужываюцца абмежавана. У рускай літаратурнай мове яны ўжываюцца куды часцей. У рускай мове: *он болен, он силен, он умен, он добр,* а таксама *ловок, удобен, легок, тих, дик, мелок, спокоен, полон, труден, верен* і інш.; *она смешна, легка, мягка, горька, вредна, тонка, тяжка, трудна, нова, толста, бела* і інш. А па-беларуску нельга сказаць: *ён хвор, моцан, разумен, старанен, добр.* Як правіла: *ён хворы, разумны, старанны, добры, спрытны, зручны, лёгкі, ціхі, дзікі, колкі, дробны, спакойны, поўны*[8], *цяжкі; яна шкодная, смешная, лёгкая, мяккая, горкая, тонкая, новая, тоўстая* і інш.

2. Назоўнік у ролі выказніка ў беларускай мове можа ўжывацца не толькі ў назоўным, а і ў іншых склонах (параўн.: *Мінск — сталіца Беларусі. Цяпер дзед у нас за вартаўніка. Андрэй стаў выдатнікам. Адзенне яго ў брудзе*). У Маладзечанскім, Бялыніцкім, Мінскім, Лагойскім і іншых раёнах я сустракаў шматлікія сказы тыпу: *Ён у нас брыгадзір* і *Ён у нас брыгадзірам; Павел — раённы пракурор* і *Павел раённым пракурорам; Сын — доктар* і *Сын доктарам.* Як ставіцца да ўжывання такіх канструкцый? Якая з іх літаратурная, а якая — дыялектная?

Пры апушчанай звязцы *ёсць* часцей ужываецца выказнік у назоўным склоне (*Сын — доктар. Ён у нас —*

---

[8] Ва ўстойлівых закасцянелых выразах сустракаецца кароткая форма, напрыклад: *Повен падпечак белых авечак.*

*брыгадзір*). Гэта не азначае, што ўжыванне творнага склону (*Сын доктарам. Брат Павел раённым пракурорам*) — дыялектызм і парушэнне нормы. Абедзве гэтыя канструкцыі бытуюць і ў народных гаворках і ў літаратурнай мове. Мы сустракаем: *Шмат хто з дзяцей былых парабкаў цяпер ужо інжынерамі, студэнтамі.* (З. Бядуля) *У суседнім сельсавеце жанчына — старшынёю.* (З. Бядуля) *Я таксама камандзірам, хоць служу другое лета.* («Дванаццаць песень аб Чырвонай Арміі») *Пасля вайны ён увесь час парторгам у нашым калгасе.* (І. Шамякін)

Ужыванне творнага склону выказніка ў канструкцыях цяперашняга часу не новая асаблівасць беларускага сінтаксісу. У старажытных беларускіх помніках сустракаем: *...мы убачили, иж то есть шкодою, а не пожиткомъ господарыни... Тая Ганна есть власная сестра небожчыка Мартина, а нам теткою.*

*Брат — афіцэр* і *Брат афіцэрам* — гэта канструкцыі, якія не проста суіснуюць як раўназначныя. Яны адрозніваюцца значэннем[9]. Звернемся да прыкладаў, узятых з народнай мовы (без перадачы фанетычных асаблівасцей).

З назоўным склонам: *Аднаго брата жонка і другога брата жонка — гэта ятроўкі. Пайшла пагалоска, што Кандрат — вельмі добры вараждбіт.*

З творным склонам: *Сын ваенным доктарам. Сын Рыгор афіцэрам. Тры сыны шоферамі. Саша на яго месцы брыгадзірам. Павел трактарыстам. Васілёў Мікіта конюхам* (запісаў у Глускім раёне Магілёўскай вобласці).

Калі выказнік выражаецца назоўным склонам, тады дзейнік (дзейная асоба) уяўляецца таму, хто гаворыць, як прадмет стану. А калі выказнік мае форму творнага склону, дзейнік уяўляецца як актыўны, дзейны прадмет (суб'ект).

Выражэнне прыналежнасці. У беларускай мове прыналежнасць значна часцей выражаецца прыналежнымі прыметнікамі, чым у рускай мове.

---

[9] Пра гэта гл. у працы Т. П. Ламцёва «Исследование в области истории белорусского синтаксиса. Составное сказуемое и его изменени в истории белорусского языка» (Уч. зап. Белорус. ун-та, сер. филол., вып. 2. Минск, 1941, с. 127), а таксама ў маім артыкуле «Некаторыя сінтаксічныя асаблівасці народных гаворак» (Весці АН БССР, сер. грамадск. навук. Мінск, 1965, № 2, с. 75—76).

У беларускай мове — як правіла *бацькаў кажух, маміна хустка, матчына ласка.* У рускай мове звычайна: *шуба (полушубок) отца, книга товарища.* Параўн. назвы твораў: *«Нёманаў дар», «Рыбакова хата»,* а на рускай мове (пераклад): *«Дар Немана», «Хата рыбака».*

Выражэнне зваротка. У беларускай мове зваротак выражаецца не толькі формай назоўнага склону назоўніка, але і клічнай формай: *«Краю Савецкі, новыя людзі! Песняй вітаю я вас!* (Я. Колас) *Калі што якое, суседзе, дык ты да мяне.* (З. Бядуля) *Гуслям, княжа, не пішуць законаў.* (Я. Купала) *Што ж тут думаць? Смела, браце!* (Я. Колас) *Ну, малойча, у чым справа?* (Я. Колас) *Эге ж, хлопча: не забыта тая праўда на зямлі.* (Я. Колас) *А дзе праўда, браце мілы, справядлівасць тая дзе?* (Я. Колас) *Сябры мае, Піліпе і Максіме, пішу, здаецца, развітальны ліст.* (В. Таўлай) *Ой, рыбача, рыбалове, рыбка тут — зубастая.* (В. Таўлай)

У сучаснай рускай літаратурнай мове клічны склон не захаваўся, калі не лічыць яўна царкоўнаславянскіх *боже* і *господи.*

Пытальныя сказы. Пытальныя сказы ў беларускай мове часта маюць у сваім складзе часціцу *ці.* Месца гэтай часціцы — толькі ў пачатку сказа: *Ці ж мы, хлопцы, рук не маем? Ці ж нам сілы бог не даў?* (Я. Колас) *Ці ж я ростам не высокі? Ці ж у грудзях не шырокі?* (Я. Колас) *Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса?* («Тарас на Парнасе»)

У рускай мове часціцы *ці* адпавядае *ли,* якая ставіцца пасля слова, да якога яна стасуецца: *Не заступятся ли за меня дедушка али бабушка?* (А. Пушкін) *Так отдам ли я тебе эту волюшку, дорогую, короткую?* (А. Астроўскі)

Спалучэнні лічэбнікаў *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры* з назоўнікамі. У беларускай мове з гэтымі лічэбнікамі назоўнікі (і адушаўлёныя і неадушаўлёныя) ужываюцца ў назоўным склоне множнага ліку: *У калгас на практыку прыехалі два студэнты. Спаборнічаюць два гарады. Каля вёскі б'юць дзве крыніцы. Паўсталі два новыя жаданні і два новыя пытанні. Абодва суседнія калгасы вырошчваюць грэчку. Абодва сыны падаліся ў навуку. Абедзве крыніцы б'юць з-пад кустоў. Абодва заданні цяжкія. Абодва вядры*

*поўныя. Тры аграномы з суседніх калгасаў з'ехаліся на нараду. Тры чырвонцы — гэта трыццаць рублёў. Тры суседнія вёскі будуюць сумесна клуб, школу і стадыён. Тры пісьменнікі выйшлі з вёскі Нізок. Чатыры разведчыкі рапартавалі пра сваю ўдачу. У вялікім пакоі чатыры акны. У задачы чатыры пытанні.*

Калі лічэбнікі *два, дзве, абодва, абедзве, тры* і *чатыры* ўваходзяць у склад састаўных лічэбнікаў, то назоўнік пры гэтых састаўных лічэбніках таксама ўжываецца ў назоўным склоне множнага ліку: *дваццаць дзве студэнткі; дваццаць два пытанні; сто трыццаць два рублі; дзвесце тры гады; сто чатыры партызаны; сорак чатыры дні.*

Такую самую форму маюць назоўнікі, што абазначаюць назвы неадушаўлёных прадметаў, у спалучэннях з лічэбнікамі *два, дзве, абодва, абедзве, тры, чатыры* ў вінавальным склоне: *Брыгада скасіла ўсю грэчку за два дні. Школу збудавалі за тры (за дваццаць тры) месяцы. Заданне выканалі за чатыры (за дваццаць чатыры) тыдні.*

У рускай мове ў такіх спалучэннях назоўнікі ўжываюцца ў родным склоне адзіночнага ліку: *Соревнуются два города. Оба задания трудные.*

У старажытнай агульнаславянскай, а потым і ва ўсходнеславянскай мове пры лічэбніках *тры, чатыры* назоўнікі ўжываліся ў назоўным склоне множнага ліку, пры лічэбніках *два, дзве* — у назоўным склоне парнага ліку. Пад уплывам спалучэнняў *тры сталы, чатыры сталы, тры рублі, чатыры рублі* яшчэ ў старажытнай беларускай мове ўзніклі спалучэнні *два сталы, два рублі* (на месцы былога *дъва стола, дъва рубля,* дзе *стола, рубля* — назоўны склон парнага ліку). З'яўленне формы *сталы, рублі (два, тры, чатыры)* тлумачыцца і агульнай тэндэнцыяй выцяснення парнага ліку множным. У рускай мове захаваліся спалучэнні *два стола, два рубля,* а пад уплывам іх сталі ўжываць *три (четыре) стола, три (четыре) рубля;* былая форма назоўнага склону парнага ліку *(стола, рубля)* успрымаецца ў сучаснай рускай мове як форма роднага склону адзіночнага ліку.

Некаторыя назоўнікі ў такіх спалучэннях маюць націск не на тым складзе, што ў множным ліку. Так, напрыклад, мы маем: *два вядры́, два акны́, дзве сцяны́,* а ў множным ліку — *вёдры, во́кны, сцэ́ны.* У спалучэннях

*два акны́, дзве сцяны́* назоўнікі набылі канчатак множнага ліку, але захавалі націск парнага ліку.

Можна назваць асаблівасці ў будове адпаведных беларускіх і рускіх словазлучэнняў.

1. У беларускай мове прыназоўнік *па* ўжываецца з месным склонам множнага ліку для выражэння шматлікіх і разнастайных значэнняў, напрыклад: *па палях і сенажацях* (прасторавае), *па вечарах* (ча́савае), *сумаваць па родных* (аб'ектнае) і інш. *Па нашых гарадах і вёсках крочыць сямігодка.* («Звязда») *Іх па прысадах павёз.* (А. Куляшоў) *Па вечарах у хацечытальні людна.* («Літаратура і мастацтва») *Таксама і па ўнуках трохі замаркоціўся дзед, асабліва па Андрэю.* (Я. Колас) *Па ўсіх абмеркаваных пытаннях сход прыняў рашэнні.* («Звязда») *Я трывогу тваю зразумеў па вачах.* (П. Броўка) *Відаць па вочках, што ходзіць па ночках.* (Прыказка)

У рускай мове ў такіх выпадках прыназоўнік *по* ўжываецца з давальным склонам множнага ліку: *Медленно ползли эшелоны по российским равнинам.* (А. Талстой)

2. Пры дзеясловах *смяяцца, кпіць, здзекавацца, глуміцца, насміхацца, жартаваць, рагатаць, цешыцца, дзівіцца* дапаўненне ўжываецца з прыназоўнікам *з* і ставіцца ў родным склоне. *Чытае ён, а мне дык здаецца, ён з нашага брата із праўды смяецца.* (Ф. Багушэвіч) *Ясна, што панна Ядвіся насміхаецца з яго.* (Я. Колас) *Родны Букчаў брат доўга не цешыўся з братавага панавання.* (К. Чорны) *Не смейся з людзей, — смейся з сябе і сваіх* дзяцей[10]. (Прыказка) *Смяюцца не з калекі, а з няўмекі.* (Прыказка) *Дзедка заўсёды жартуе з мяне...* (Я. Купала) *Цешылася маці з дзяцей сваіх.* («Звязда») *З гэтага дзівілася Наталя, тады яшчэ пачынаючы баяцца Алеся.* (Я. Скрыган) *З яго смяяліся.* (І. Шамякін) *Ударыла чацвёртая гармата, самы адсталы ў мірным вучэнні разлік, з якога мы заўсёды кпілі, першы адкрыў агонь.* (І. Шамякін)

У рускай мове пры дзеясловах *смеяться, издеваться, шутить* і некаторых іншых дапаўненне ўжываецца з

[10] Сэнс прыказкі: у народзе не любяць насмешнікаў, несамакрытычных людзей.

прыназоўнікам *над* і ставіцца ў творным склоне: *Может быть, вы хотите посмеяться надо мной...* (М. Лермантаў) *Но они, как водится, любят шутить над тихими парнями.* (М. Бубяннноў)

3. У спалучэнні з дзеясловамі руху *ісці, хадзіць, бегчы, ехаць, ляцець, пасылаць* (пры вызначэнні мэты) дапаўненне звычайна ўжываецца з прыназоўнікам *па* і ставіцца ў вінавальным склоне: *Хто пойдзе па Данілаву галаву, той сваю няхай дома пакідае.* (К. Крапіва) *Па ваду да крыніцы ты йдзеш цераз луг, што ў кветкі прыбраны.* (П. Панчанка) *Па маю ідзе душу.* (А. Александровіч) *Схадзі, хлопча, па бацьку.* («Звязда») *Збегай па брыгадзіра.* («Літаратура і мастацтва») *Гэта крычаў... салдат, відаць, з тых беднякоў, што густа ехалі з Польшчы па хлеб за мяжу.* (Я. Брыль) *Ідзі па сядло.* (Я. Брыль) *Я прыйшоў па цябе.* (У. Шахавец) *«Зараз жа збірайся і едзь па дачку», — сказаў ён раптам строга.* (Я. Скрыган) *Як туманіцца поле раніцай, бягу з вёдрамі па ваду...* (П. Трус)

У рускай мове ў такіх выпадках звычайна ўжываецца прыназоўнік *за* і творны склон дапаўнення: *Некоторые сбегали за зрительными трубами.* (І. Ганчароў) *Весь следующий день Герасим не показывался, так что вместо его за водой должен был съездить кучер Потап...* (І. Тургенеў) *Ходим мы к Арагве светлой каждым утром за водой.* (А. Пушкін)

Калі ў падобных спалучэннях ужываюцца назвы ягад (*брусніцы, маліны, суніцы, парэчкі, чарніцы, буякі, або дурніцы,* а таксама само слова *ягады*) і назвы грыбоў (*лісіцы, сыраежкі* і іншыя і само слова *грыбы*), то гэтыя назоўнікі таксама ставяцца ў вінавальным склоне, але з прыназоўнікам *у*: *Ідуць у брусніцы дзеўкі, маладзіцы, а Міхася цягне бор і хвайнячок.* (Я. Колас) *Заўтра, у дзень адпачынку, зноў многа хто ў грыбы пойдзе.* (З. Бядуля) *Ты, мусіць, даўно ўжо ў ягадах не была.* (К. Крапіва) *Мы і вы пайшлі ў грыбы.* (Жартоўны народны верш)

У некаторых пісьменнікаў можна сустрэць *ісці па ягады, ісці па грыбы.*

У рускай мове звычайна — *пошла за ягодами (за малиной, за клубникой), пошла за грибами: Катя уехала с компанией к знакомым в Заречье подышать сосна-*

*ми и походить за грибами.* (Г. Нікалаева) *Шла девица по лесочку, за малиной шла.* (Песня)

4. Беларускім спалучэнням тыпу *разумнейшы за яго (яе), большы за яго (яе), меншы за яго (яе), цвярдзейшы за яго (яе), лягчэйшы за ўсё, смялейшы за ўсіх, разумнейшы ад яго (яе), хітрэйшы ад яго (яе)*[11], а таксама *разумнейшы над яго*[12] ў рускай мове адпавядаюць спалучэнні *умнее его, больше его, меньше его, тверже его. Іх — шэсць, і ўсе яны такія розныя, ёсць старэйшы за мяне па гадах.* (І. Шамякін) *Новы кароўнік у тры разы большы за стары.* («Звязда») *За Костуся ён год на дзесяць старэйшы.* (К. Чорны) *Былінскі старэйшы за Тамару.* (І. Гурскі) *Гара дужэйшая за вас усіх?* (У. Дубоўка) *Ён старэйшы ад мяне гадоў на чатыры.* (Я. Колас) *Там, поплеч з ім, стаяў чалавек, ростам вышэйшы ад яго.* (К. Чорны) *Віцю было ўжо больш за два гады.* (А. Кулакоўскі) *Больш за ўсё я бацькаўскаму краю аддany.* (В. Дунін-Марцінкевіч) *На сядзібе МТС раскалола стары дуб, якому, як людзі казалі, было не менш за дзвесце гадоў...* (І. Шамякін)

Параўн. у рускай мове: *Усердней его трудно найти кого-либо во всем театре.* (А. Чэхаў) *Под ним струя светлей лазури, над ним луч солнца золотой.* (М. Лермантаў) *Ленин и теперь живее всех живых, наше знанье, сила и оружие.* (У. Маякоўскі) *Он старше всех нас.* («Известия»)

5. Пры дзеясловах *ажаніць, ажаніцца,* як правіла, дапаўненне ўжываецца з прыназоўнікам *з* і ставіцца ў творным склоне: *Язэп Крушынскі... ажаніўся з дачкою ляснічага, паннаю Ганнаю...* (З. Бядуля) *Яшчэ ажэніцца багаты пан з магілаю, а бедны хлопец з мілаю.* (А. Куляшоў) *Ажанілі мяне ды з нялюбаю.* (З народнай песні) *Сябар пісаў, як яго падпаілі і хацелі ажаніць з адной жанчынаю.* (Я. Колас) *Клемусь хацеў пажаніцца са мной.* (А. Александровіч) *Пілі тут* (пра паліцэйскіх у гады нямецка-фашысцкай акупацыі), *жаніліся. Каб яны з сы-*

---

[11] Прыназоўнік *ад* ужываецца ў такіх спалучэннях радзей, чым прыназоўнік *за*.

[12] Прыназоўнік *над* у такіх спалучэннях ужываецца рэдка.

*рою з я м е л ь к а ю  д ы  з  м а г і л а ю  а ж а н і л і с я.* (З успамінаў калгасніцы з Глуска)

У рускай мове пры дзеяслове *жениться* дапаўненне ўжываецца з прыназоўнікам *на* і ставіцца ў месным склоне: *«Поеду в тюрьму, скажу ей, буду просить ее простить меня. И если нужно, да, если нужно, ж е н ю с ь  н а  н е й», — думал он* [*Нехлюдов*]. (Л. Талстой) *Я решил  ж е н и т ь с я  н а  в а с.* (Л. Талстой)

6. Спалучэнні з прыназоўнікам *праз* у беларускай мове выражаюць прычыну, прычынныя адносіны: *П р а з  г э т а  ты і да спадобы мне...* (М. Багдановіч) *П р а з  ц я б е, дзявоцкая краса, слёзы коцяцца, як буйная раса.* (М. Багдановіч) (У мове газет, публіцыстыкі з гэтым значэннем часта ўжываюць прыназоўнік *з-за*.)

Гэты прыназоўнік ужываецца ва ўстойлівых спалучэннях *праз слёзы, праз сон, праз смех: Так узрушыцца хлапчынка, і тады, нібы  п р а з  с о н, штось мільгнецца на хвілінку...* (Я. Колас) *Ён сказаў гэта  п р а з  сціснутыя  з у б ы.* (К. Чорны) *І песні... я  п р а з  с л ё з ы не магу пачаць.* (М. Танк) *Хворы стагнаў  п р а з  с о н, жонка яго не будзіла.* (З. Бядуля) *Раптам  п р а з  с о н чуе: нешта над галавою моцна зашумела, залопала.* (З кнігі казак «Бацькаў дар») *Ажно слёзы заблішчэлі ў вачах. Выціраючы іх,  п р а з  с м е х  сказаў...* (І. Шамякін) *Так соладка спаць і ўсміхацца  п р а з  с о н*[13]. (Я. Брыль) *П р а з  с л ё з ы пуначка дае адказ: «Крумкач наскочыў, песню нашу выкраў».* (У. Дубоўка)

Ужыванне ў такіх спалучэннях прыназоўніка *скрозь* замест *праз* успрымаецца як літаральны пераклад з рускай мовы, для якой характэрны *сквозь слезы, сквозь зубы, сквозь смех.*

7. Прыназоўнік *праз* ужываецца ў спалучэнні *пранікаць праз, прабівацца праз, праходзіць праз* і да іх падобных: *П р а з  цёмныя  ф і р а н к і  ледзь  п р а н і к а л а  святло.* («Літаратура і мастацтва») *П р а з  ш ч ы л і н ы  зачыненых акяніц  п р а б і в а л а с я  яркае асвятленне.* (Я. Колас) *Мы дзень і ноч  п р а б і в а л і с я  п р а з  х м ы з н я к і  і  б а л о т ы.* («Звязда»)

Прывяду для падмацавання некалькі назваў твораў і зборнікаў: раман П. Галавача *«Праз гады»,* паэма П. Броўкі *«Праз горы і стэп»,* зборнікі М. Танка *«Праз*

---

[13] І ў народных гаворках, і ў літаратурнай мове побач з *усміхацца праз сон* ужываецца *ўсміхацца ў сне,* як і *плакаць у сне.*

2*

*вогненны небасхіл»,* М. Машары *«Праз навальніцы»,* А. Зарыцкага *«Праз бурныя парогі».*

У рускай мове ў такіх выпадках ужываецца прыназоўнік *сквозь: Сквозь волнистые туманы пробирается луна...* (А. Пушкін)

8. Словазлучэнні са словамі *падобны да...* У беларускай мове *падобны да* (каго — чаго) — побач з *падобны на;* у рускай мове *похожий на* (кого — что), *подобный* (кому — чему). *Сапсутых звычаяў чалавек усё будзе ганьбіць, што не падобна да французскага...* (В. Дунін-Марцінкевіч) *Гэта было штосьці падобнае да хітрасці, хоць і не хітрасць.* (К. Чорны) *Азірніся, падзівіся — мірты, лаўры, кіпарысы не падобны да сябе.* (П. Панчанка) *Хлопец там адзін угледзеў ключык з золата ці з медзі, што ляжаў на дне азёрным, больш да зорачкі падобны.* (У. Дубоўка) *Героі нашы бываюць не зусім падобныя да жывых людзей, а паводзіны іх выклікаюць недаўменне сваёй надуманасцю.* (Я. Брыль) *Як ён да нашага падобны!* (П. Броўка) *Ён жа падобны да дзятла, калі глядзець на яго збоку...* (І. Шамякін)

У рускай мове: *Вдруг что-то похожее на песню поразило мой слух.* (М. Лермантаў) *Оттого-то, может быть, люди, подобные Вернеру, так страстно любят женщин.* (М. Лермантаў)

9. *Паехаць у млын, завезці ў млын.* У беларускай мове ўжываюцца спалучэнні *паехаць у млын, завезці збожжа ў млын* і падобныя да іх: *Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу, або паехаць у сялібу, ці ў млын малоць на хлеб збажынку...* (Я. Колас) *Раз хацелі везці ў млын.* (К. Крапіва) *Я вас правяду ў млын.* (К. Чорны)

У рускай мове: *поехать на мельницу, свезти рожь на мельницу: Как почему? Да сколько раз, бывало, в неделю он на мельницу езжал?* (А. Пушкін)

10. *Метраў за сорак, крокаў за дзесяць.* Пры вызначэнні прасторы, адлегласці ад аднаго прадмета да другога ўжываюцца спалучэнні з прыназоўнікам *за: Сярод чужых пяць год я чужою тут жыла, за сорак вёрст ад родных, ад роднага сяла.* (А. Куляшоў) *Падбадзёраны, я нарэшце падняў галаву і адразу вызначыў месца... ворага; ён быў метраў за сорак наперадзе, за вялікім валуном, пааба-*

*пал якога стаялі дзве каржакаватыя сасны.* (I. Шамякін) *Знаходзіцца гаспадарка з а с е м к і л а м е т р а ў а д В і ц е б с к а.* («Звязда») *У пракуратуру паведамілі, што з а д в а к і л а м е т р ы а д п а с ё л к а... знойдзены сляды...* («Звязда») *На хутары, к і л а м е т р а ў з а ш э с ц ь а д ш к о л ы...* (Я. Колас)

У рускай мове беларускім спалучэнням *кіламетры за два, крокаў за дваццаць* звычайна адпавядаюць *верстах в двух, шагах в двадцати: В ч е т ы р е х в е р с т а х о т м е н я находилось богатое поместье, принадлежащее графине В***.* (А. Пушкін)

11. *С а б р а ц ь п а с е м ц э н т н е р а ў, н а б р а ц ь п а а д з і н а ц ц а ц ь а ч к о ў.* У спалучэннях з размеркавальна-колькасным значэннем *(зарабілі па пятнаццаць рублёў, выбілі па сем ачкоў, сабралі па восем цэнтнераў, узаралі па адзінаццаць гектараў)* лічэбнік ставіцца ў вінавальным склоне: *Да Сяргея яны адразу кінуліся — два хлапчукі, ім было на выгляд гадоў п а ш э с ц ь-с е м.* (I. Шамякін) *Першая брыгада сабрала жыта п а т р ы н а ц ц а ц ь цэнтнераў з гектара, а трэцяя толькі п а в о с е м.* («Звязда») *За дзень бібліятэка выдае ўсяго п а д в а ц ц а ц ь-т р ы ц ц а ц ь кніг.* («Літаратура і мастацтва»)

У рускай мове такім спалучэнням адпавядаюць *заработали п о п я т н а д ц а т и* (давальны склон) *рублей* і *заработали п о п я т н а д ц а т ь* (вінавальны склон) *рублей.*

12. *П р а б а ч ц е я м у, п а д з я к у й ц е я м у.* У беларускай мове: *прабачце (выбачайце) мне (яму, ёй, брату, брыгадзіру, настаўніку), даруйце мне (яму, брату); дзякуйце мне (яму, настаўніцы), падзякуйце яму.* У рускай мове: *извините меня (ее, его), простите меня, благодарите (поблагодарите) меня (его, брата, учительницу).* Гэта значыць, у беларускай мове пры дзеясловах *прабачыць, выбачыць, дараваць, дзякаваць, падзякаваць* і некаторых іншых дапаўненне ставіцца ў давальным склоне: *А ты, сынку, п а д з я к у й н а с т а ў н і к а м, д ы р э к т а р у і папрасіся, хай яны п р а б а ч а ц ь т а б е.* («Звязда») *Выхаванцы дзіцячага дома шчыра д з я к а в а л і п а р т ы і і р а д з і м е за клопаты пра іх. Яны д з я к а в а л і сваім н а с т а ў н і к а м за веды.* («Настаўніцкая газета») *Д а р у й ц е м н е, што я не вельмі ўмею расказаць.* («Літаратура і мастацтва»)

У рускай мове пры дзеясловах *просить, извинить,*

*поблагодарить* і падобных дапаўненне ставіцца ў вінавальным склоне: *Вы извините меня, старуху.* («Известия») *Прости меня, о Родина, прости.* (М. Някрасаў) *Я благодарю родную Коммунистическую партию и родное Советское правительство за высокую оценку моих заслуг.* («Правда»)

13. *Што (ж) да..., то (дык), што (ж) датычыцца..., то (дык), што (ж) тычыцца..., (дык).* Усе гэтыя ўстойлівыя спалучэнні характэрны для сучаснай літаратурнай мовы, прычым з адным значэннем. Першае з іх часцей ужываецца ў мове майстроў і знаўцаў слова: *Што да граматычнага ладу, дык тут няма патрэбы ў запазычаннях.* (К. Крапіва) *А што да песні маёй, — над светам яшчэ пачуеце вы не раз, сябрамі будзе яна прапета ў новых бітвах у слаўны час.* (М. Танк) *Што да сялян, то добра...* (В. Дунін-Марцінкевіч) *А што да мікуцічанскіх мужчын, дык яны нават заахвочвалі залёты «Дзеда Хрушча»...* (Я. Колас) *Што ж да аўтаматчыкаў, то яны кінулі грузавікі і разбегліся ў поле.* (К. Чорны) *А што да нашай фермы, то там у нас і парадак і поспехі.* («Звязда»)

Другое і трэцяе спалучэнні *(што датычыцца..., то; што тычыцца..., то)* часцей ужываюцца ў мове перыядычных выданняў: *Што датычыцца зяблівага вопрыва, то яго яшчэ і не пачыналі.* («Калгасная праўда») *А што датычыцца будаўнічага матэрыялу, то ў калгасе ёсць і лес, і камень, і гліна.* (Тамсама) *Што датычыцца бібліятэкі, то пра яе ні разу не ўспомнілі ў аддзеле культуры.* («Літаратура і мастацтва»)

І ў мове перыядычных выданняў варта было б аддаць перавагу спалучэнню *што (ж) да..., то (дык)*; *Што ж да бібліятэкі, то пра яе ні разу не ўспомнілі ў аддзеле культуры.*

У рускай мове, як правіла, ужываецца *что (же) касается..., то; Что касается пришкольных участков, то в области ими мало занимаются, они в запущенном состоянии.* («Учительская газета»)

Своеасаблівыя і многія іншыя словазлучэнні, напрыклад:

*Захварэць на... Крушынскі захварэў на рак...* (З. Бядуля) *Чалавек захварэў на шкар-*

*лятыну.* («Звязда») ...*хворы на сухоты...* («Літаратура і мастацтва»)

*Дом на тры пакоі. Звычайны драўляны, пафарбаваны домік на тры пакоі з кухняй і квадратным калідорчыкам.* (Я. Брыль)

*Дзень пры дні. Дзень пры дні барахлом запасаўся...* (М. Калачынскі)

*Займацца (брацца) на свет (на дзень). Раніцою, як толькі-толькі пачало займацца на свет, усё войска рушыла ў паход.* (Я. Колас) Зборнік вершаў А. Вялюгіна *«На зоры займае». Пад вечар стала брацца на мароз.* («Звязда»)

*Прыйсціся да спадобы... Было відаць, што гэтыя словы прыйшліся яму да спадобы.* (Я. Колас) *Праз гэта і ты да спадобы мне.* (М. Багдановіч) *Ды гавораць так: «Ці да смаку наш госць багаты?»* (М. Багдановіч)

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЎМОВЫ УТВАРЭННЯ І РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**§ 10. Старажытная ўсходнеславянская народнасць і яе мова.** У другой палове IX ст. нашай эры ўзнікла вялікая дзяржава Кіеўская Русь з цэнтрам у Кіеве. Яна не была ні беларускаю, ні рускаю, ні ўкраінскаю дзяржаваю: тады яшчэ не было асобных усходнеславянскіх народаў; гэта была ўсходнеславянская феадальная дзяржава, у якой складвалася з былых блізкіх славянскіх плямёнаў усходнеславянская народнасць, складвалася мова гэтай народнасці. Зразумела, у гэтай адзінай усходнеславянскай мове былі пэўныя адрозненні, дыялектныя асаблівасці; скажам, у мове продкаў кіяўлян і палачан ці берасцейцаў (Бярэсце — Брэст) і разанцаў былі адрозненні. Гэта не была ні ўласна беларуская, ні ўласна руская, ні ўласна ўкраінская мова. Невыпадкова засталася як успамін працяглая спрэчка пра тое, каму належыць старажытны ўсходнеславянскі твор «Слово» (яго поўная назва «Слово о плъку Игоревѣ, Игоря сына Святъславля, внука Ольгова»): беларусам, рускім ці ўкраінцам [14]. Мова яго — старажытная ўсходнеславянская.

---

[14] Пра гэта гл. у кн.: В. Вольскі. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму. Мінск, 1958, с. 51—82.

У Кіеўскай Русі, гэтай адзінай дзяржаве ўсходніх славян, развіваліся эканамічныя, культурныя сувязі паміж асобнымі яе землямі. Але сувязі і зносіны паміж часткамі вялікай краіны не былі моцныя і трывалыя. Таму разнастайныя дыялектныя асаблівасці ў тых умовах не маглі сцерціся. Пашырэнне феадальнай уласнасці на зямлю, развіццё рамяства і гандлю вялі да ўмацавання феадальных цэнтраў (Полацк, Ноўгарад, Валынь, Суздаль і інш.), а ўзвышэнне іх эканамічнага і палітычнага значэння прывяло да драблення Кіеўскай Русі на асобныя княствы — своеасаблівыя дзяржавы. У ліку першых княстваў, якія аддзяліліся ад старажытнай усходнеславянскай дзяржавы, былі Полацкае (Полацка-Мінская зямля) і Наўгародскае. У другой палове XI— пачатку XII ст. Кіеўская Русь распалася, вялікі кіеўскі князь страціў уладу, яна пераходзіла ў рукі феадалаў асобных земляў, шматлікіх княстваў[15]. З кожным годам узвышаецца роля феадальных гарадоў, яны становяцца эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі цэнтрамі пэўных тэрыторый.

**§ 11. Утварэнне беларускай народнасці і яе мовы.** У XIII — пачатку XIV ст. тэрыторыя амаль усёй сучаснай Беларусі апынулася ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У гэтай дзяржаве аказаліся таксама землі сучаснай Украіны. Паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі былой Кіеўскай Русі трапілі пад уладу татара-мангольскіх заваёўнікаў. У новых гістарычных умовах з XIII ст. пачалі складвацца, а за XIV—XVI стст. утварыліся тры ўсходнеславянскія народнасці — беларусы, рускія, украінцы і адпаведна — беларуская, руская, украінская мовы.

У XIV ст. з'явілася назва, якая жыве і сёння, — Белая Русь (Беларусь). Ф. Энгельс у артыкуле «Якая справа рабочаму класу да Польшчы?» пісаў пра існаванне беларусаў і іх мовы ў канцы XIV ст.

У XV ст. пісьменнасць на Беларусі (беларускае пісьменства) насычваецца спецыфічна беларускімі асаблівасцямі, і ўжо ёсць падставы гаварыць пра беларускую літаратурна-пісьмовую мову, якая сваімі фанетычнымі

---

[15] З Кіеўскай Русі выдзеліліся Полацка-Мінская і Турава-Пінская землі, а з часам з'явіліся асобныя княствы — Полацкае, Мінскае, Заслаўскае, Тураўскае, Пінскае, Берасцейскае, Друцкае, Гарадзенскае (Гродна), Слуцкае, Мсціслаўскае і інш.

граматычнымі, лексічнымі асаблівасцямі істотна адрозніваецца ад усходнеславянскай мовы X—XII стст.

Мова беларускай народнасці, такім чынам, склалася ў XIV—XVI стст., калі землі сучаснай Беларусі знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага ва ўмовах узмацнення эканамічных і культурных сувязей паміж насельніцтвам беларускіх зямель, ва ўмовах барацьбы за нацыянальную незалежнасць супраць чужаземнай агрэсіі — татарскіх, нямецкіх і іншых заваёўнікаў.

Пры вывучэнні складанага пытання пра паходжанне беларускай (як і рускай, украінскай) мовы трэба мець на ўвазе, што беларуская мова бярэ свой пачатак не з якога-небудзь канкрэтнага года ці дзесяцігоддзя, скажам інакш: узнікненне беларускай мовы нельга датаваць пэўным годам ці дзесяцігоддзем. Беларуская мова (як і руская, украінская) развівалася з агульнай усходнеславянскай мовы. Асноваю фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу, слоўніка беларускай мовы з'явілася старажытная ўсходнеславянская мова. З гэтай мовы перайшлі ў беларускую такія, напрыклад, фанетычныя асаблівасці: поўнагалоссе: *ворогъ→вораг, полонъ→палон, середа→серада*; *ч* з былых **тй* (**tj*) і **ктй* (**ktj*): *мачаха, лячу, гарачы; о* (→*а*) з былога пачатковага **ѥ* (*jэ*): **ѥсень→* (*в*)*осень, *ѥзеро→*(*в*)*озера;* пачатковае спалучэнне **рот* (**rot*) з былога **орт* (**ort*) у словах тыпу *розум, розніца, роўнасць*.

Некаторыя дыялектныя асаблівасці ўсходнеславянскай мовы маглі стаць і з часам сталі характэрнымі асаблівасцямі той ці іншай усходнеславянскай мовы. Так, яшчэ ў гаворках, з якіх утварылася беларуская мова, былы выбухны *г* (*g*) замяніўся фрыкатыўным прыдыхальным *г* (*h*), г. зн. прыдыхальным быў гук *г* у продкаў беларусаў яшчэ ў XII ст.; узнік і пашырыўся зычны *ў* з былога *в* (*кривьда→крыўда*); былыя спалучэнні *ръ, лъ, рь, ль* змяніліся так, што ўзнікла чаргаванне тыпу *дрогнуць — дрыжаць, глотка — глытаць, блеск* (*бляск*)*— бліскавіца*; былыя рэдукаваныя *ъ, ь* у пазіцыі перад наступным *j* супалі з *ы, і* (*молодъй→маладый→малады, чьйь→чій→чый, другъй→другый→другій→другі*).

З XIII ст., а інтэнсіўней — з XIV ст. развіваюцца іншыя асаблівасці беларускай фанетыкі, сярод іх: памякчэнне *д′, т′* і ўтварэнне мяккіх *дз′* і *ц′* (*дзіця, дзвесце*); далейшае памякчэнне мяккіх свісцячых *з′, с′* (*песня, куз-*

*ня)*; падаўжэнне зычных *(кассё, галлё, жыццё)*; зацвярдзенне *р* і інш.

У Вялікім княстве Літоўскім, значную частку якога складала тэрыторыя сучаснай Беларусі, мова беларусаў была моваю дзяржаўных устаноў, моваю дзяржаўных дыпламатычных зносін, на ёй пісаліся акты і граматы, сеймавыя пастановы і іншыя дакументы. На беларускай мове ўзнікла і развілася багатая на свой час літаратура: пераклады з іншых моў, летапісы, вучэбныя кнігі, арыгінальныя літаратурныя творы. Беларуская мова пашырылася ва ўжыванні на этнаграфічную Літву. Даследчык актавай кнігі Ковенскага (Каўнаскага) земскага суда А. К. Антановіч у кнізе «Язык судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566—1567 гг.» (Вильнюс, 1961) адзначае, што мова дакументаў, напісаных у XVI ст. у Коўне, зусім супадае з моваю беларускіх грамат гэтага часу. На беларускай мове пісалі на тэрыторыі этнаграфічнай Літвы не толькі беларусы, а і літоўцы.

У развіцці старажытнай беларускай мовы, у прыватнасці яе літаратурна-пісьмовай формы, вялікую ролю адыграла кнігадрукаванне, распачатае беларускім вучоным, вялікім асветнікам свайго часу Францыскам (Георгіем) Скарынаю, кнігі якога ішлі і ў Расію, на Украіну. У XVI ст. за Скарынаю з'явіліся выдатныя дзеячы старажытнай беларускай культуры і друкары С. Будны, В. Цяпінскі, П. Мсціславец, браты Мамонічы і іншыя. У тым самым XVI ст. узніклі друкарні і выпускаліся кнігі ў Нясвіжы (1562), Цяпіне (1565), Заблудаве (1568), Заслаўі (1571), Лоску (1574), Слуцку (1580), Любчы (1597), крыху пазней — у Ашмяне Мураванай, Магілёве, Мінску, Куцеіне (каля Оршы), Буйнічах (каля Магілёва), Бялынічах, Гродне, Супраслі (каля Беластока), Пінску і іншых гарадах і мястэчках.

У перыяд Вялікага княства Літоўскага беларуская мова развівалася ў цесных узаемных сувязях з суседнімі мовамі, у тым ліку з рускаю, украінскаю, польскаю, літоўскаю, латышскаю і інш. Праз польскую мову ў беларускую пранікаюць словы з чэшскай, нямецкай і іншых моў. Калі гаварыць пра сувязі паміж беларускаю і літоўскаю мовамі, то тут мелі месца галоўным чынам узаемныя лексічныя запазычанні: у беларускую мову трапілі літоўскія словы, у літоўскую — беларускія.

У Вялікім княстве Літоўскім аб'ектыўна склаліся

ўмовы для развіцця беларускай мовы, яе літаратурна-пісьмовай формы. Развіццю беларускай мовы спрыяла і тое, што літоўская пісьменнасць фактычна пачынаецца толькі з сярэдзіны XVI ст. Нельга, аднак, ідэалізаваць гэтыя ўмовы: Беларусь не мела сваёй дзяржаўнасці, працоўныя Беларусі зносілі цяжкі феадальны прыгнёт.

**§ 12. Беларусь у складзе Рэчы Паспалітай.** У другой палове XVI ст. адбылася падзея, у выніку якой Беларусь апынулася ў іншых гістарычных абставінах. Люблінскі сейм у 1569 г. прыняў так званую Люблінскую унію, паводле якой Вялікае княства Літоўскае і каралеўства Польскае аб'ядналіся ў адной дзяржаве — Рэчы Паспалітай. У гэтай дзяржаве кіруючая палітычная роля сканцэнтравалася з часам, асабліва з другой паловы семнаццатага стагоддзя, у руках польскіх феадалаў-магнатаў (параўн.: у сейме Вялікага княства Літоўскага, паводле статута, з літоўскіх зямель былі паслы віленскія, вількомірскія, жамойцкія, ковенскія, троцкія, упіцкія; з беларускіх — аршанскія, ашмянскія, берасцейскія, браслаўскія, ваўкавыскія, віцебскія, гарадзенскія (гродзенскія), лідскія, мазырскія, мінскія, мсціслаўскія, навагародскія (навагрудскія), пінскія, полацкія, рэчыцкія, слонімскія[16]; таму, натуральна, моваю сейма была мова беларусаў).

Рэч Паспалітая з падтрымкаю каталіцкага Рыма паступова і настойліва пачала праводзіць палітыку апалячвання і акаталічвання беларусаў; яшчэ больш узмацняецца, чым у перыяд Вялікага княства Літоўскага, эксплуатацыя беларускага народа. Частка беларускіх феадалаў, беларускай знаці прыстасоўваецца да новых сацыяльна-палітычных умоў, аб'ядноўваецца з польскімі магнатамі, здраджвае Беларусі, яе культуры. У Бярэсці, Гародні, Слоніме, Лідзе, у іншых гарадах, а таксама мястэчках і вёсках Полаччыны, Магілёўшчыны, Міншчыны, Навагрудчыны, Вілейшчыны, Гомельшчыны насаджаецца каталіцызм, ідзе прымусовае «запісванне ў палякі» беларусаў.

Польскія феадалы і каталіцкія царкоўнікі захоплівалі дзяржаўныя землі на тэрыторыі Беларусі. На беларускіх землях пачалі гаспадарыць, побач з беларускімі

---

[16] А. І. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1. Мінск, 1961, с. 36.

панамі і шляхтаю, наезджыя польскія паны і польская шляхта.

На Беларусі ўводзіцца польская мова як дзяржаўная, паяўляецца сетка польскіх школ. У 1696 г. аб'яўляецца закон, паводле якога дзяржаўнаю моваю на Беларусі становіцца польская мова.

Так склаліся ўмовы, у якіх літаратурна-пісьмовая беларуская мова перажывае заняпад. Застаецца і развіваецца цяпер толькі жывая народна-дыялектная мова.

У гісторыі Беларусі гэта быў перыяд жорсткай эксплуатацыі працоўнага народа, перыяд нацыянальнага ўціску, вострай рэлігійнай барацьбы. Гэта быў перыяд барацьбы беларускага народа супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, за нацыянальную культуру, за родную мову.

**§ 13. Беларусь у складзе Расійскай імперыі.** У канцы XVIII ст., пасля трох падзелаў Польшчы, Беларусь увайшла ў Расійскую імперыю. Гэта падзея ў гісторыі беларускага народа мела прагрэсіўнае значэнне; з часу ўз'яднання Беларусі з Расіяй барацьба беларускага народа пачала ўлівацца ў агульнае рэчышча гераічнай барацьбы народаў, якія насялялі Расію, за сваё вызваленне ад уціску эксплуататараў і акоў царызму. У новых гістарычных умовах пачынаецца пэўнае ажыўленне беларускай літаратуры і літаратурна-пісьмовай мовы. Новая беларуская літаратурная мова складваецца на аснове жывых народных гаворак. Працяглы перыяд заняпаду (з канца XVII ст.) беларускай літаратурнай мовы прывёў да таго, што папярэднія яе здабыткі выкарыстоўваліся ў новай літаратурнай мове вельмі слаба (некаторыя гісторыкі беларускай мовы лічаць, што новая беларуская літаратурная мова развівалася зусім незалежна ад старажытнай, што нічога з былых здабыткаў і дасягненняў у новы перыяд не было выкарыстана).

Паступова развіваецца беларуская літаратура, беларуская літаратурная мова. Найбольш прыкметнымі літаратурнымі з'явамі XIX ст. з'яўляюцца ананімныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», творы В. Дуніна-Марцінкевіча і «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага, паэзія Ф. Багушэвіча.

Трэба адзначыць, што беларускі народ, як і іншыя народы, пры царызме знаходзіўся пад сацыяльным і нацыянальным прыгнётам, не меў неабходных умоў, каб развіваць сваю нацыянальную культуру і літаратуру,

літаратурную мову. У. І. Ленін назваў царскую імперыю турмою народаў. Царскі ўрад забараняў друкаваць на беларускай мове (некаторыя беларускія кнігі былі надрукаваны ў XIX — пачатку XX ст. за мяжой); яна не вывучалася ў школах, не выкарыстоўвалася ў дзяржаўных установах[17]. Літаратурная мова заставалася неўнармаванаю. Абмежаванае было яе стылёвае выкарыстанне, ужывалася яна ў асноўным як мова мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

**§ 14. Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XX ст.** Вялікай падзеяй у гісторыі і жыцці беларускага народа, як і іншых народаў Расіі, з'явілася рэвалюцыя 1905—1907 гг. Наспела і рашуча было выказана патрабаванне сацыяльнага і нацыянальнага разнявалення народа, свабоды роднаму слову. Была знята забарона друкаваць на беларускай мове, узніклі беларускія выдавецтвы (напрыклад, «Загляне сонца і ў наша ваконца»), беларускія перыядычныя выданні («Наша хата», «Саха», «Наша доля», «Наша ніва», «Лучынка»). На беларускай мове пачалі друкаваць не толькі мастацкія і публіцыстычныя, а і навукова-папулярныя творы, дапаможнікі і падручнікі для вучнёўства, разнастайныя дзелавыя дакументы. Выпрацоўваліся арфаграфічныя, граматычныя, лексічныя, арфаэпічныя нормы беларускай літаратурнай мовы.

Прыкметнае пашырэнне літаратурнай мовы садзейнічала ўзбагачэнню слоўніка, выпрацоўцы беларускай тэрміналогіі. Дзейнасць волатаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, іх сувязь з шырокімі коламі беларускага народа, разгортванне выдавецкай справы і аб'яднанне вакол выдавецтваў і выданняў адукаваных людзей, пашырэнне сярод народных мас ідэй рэвалюцыі, ідэй марксізму — усё гэта забяспечвала інтэнсіўнае ўзбагачэнне беларускай літаратурнай мовы, яе ўнармаванне. Навуковае асвятленне беларускай мовы заснавальнікам беларускай лінгвістыкі і філалогіі Я. Карскім, стварэнне граматыкі Б. Тарашкевічам, дзейнасць іншых прагрэсіўных прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай культуры і навукі

[17] Царызм не дапускаў нават ужывання назвы Беларусь у афіцыйных дакументах. Цар Мікалай I 18 ліпеня 1840 г. забараніў называць Віцебскую, Магілёўскую, Гродзенскую губерні беларускімі або літоўскімі (БелСЭ, т. II. Мінск, 1970, с. 269).

таксама адыгралі сваю ролю ў развіцці беларускай літаратурнай мовы, у яе замацаванні.

**§ 15. Беларуская літаратурная мова ў савецкі перыяд.** Нябачанае ў гісторыі развіццё беларускай літаратурнай мовы пачалося пасля перамогі вялікага Кастрычніка і ўтварэння (1 студзеня 1919 г.) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Беларусь стала дзяржавай у саюзе раўнапраўных савецкіх рэспублік. Мова беларусаў пасля Кастрычніка стала мовай навукі, мовай школы, радыё, мовай мастацкай і іншай літаратуры. Узбагачаліся і паспяхова ўзбагачаюцца яе лексіка-фразеалагічныя сродкі, склалася багатая навуковая тэрміналогія. Выпрацаваліся і замацаваліся нормы літаратурнай мовы. Лінгвістычныя працы раскрылі фанетычную сістэму, граматычны лад, лексіку беларускай мовы. (Развіццё беларускай мовы ў савецкі час падрабязна разглядаецца ў курсе «Сучасная беларуская мова».)

## СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПІСЬМЕННАСЦЬ

**§ 16. Пачатак пісьменнасці ва ўсходніх славян.** Доўгі час пачаткам пісьмовага перыяду ў гісторыі ўсходнеславянскіх моў лічылася сярэдзіна XI ст. — дата (1056—1057) на Астраміравым евангеллі, якое перапісаў дзяк Грыгорый для наўгародскага пасадніка Астраміра. За апошнія дзесяцігоддзі на падставе гістарычных фактаў гісторыкі мовы прыйшлі да вываду, што пісьменнасць ва ўсходніх славян была яшчэ да прыняцця хрысціянства (988). Трэба, аднак, мець на ўвазе, што з XI—XII стст. да нас дайшла ўвогуле невялікая колькасць пісьмовых усходнеславянскіх тэкстаў.

Гісторыя ведае старажытныя пісьмовыя помнікі, што ўзніклі ў XI—XII стст. на тэрыторыі Беларусі: выяўлены рэчы і камені са старажытнымі надпісамі і тэкстамі, знойдзены старажытныя кнігі. Мова помнікаў, якія ўзніклі ў XI—XII стст. на Беларусі, — усходнеславянская, як і мова помнікаў, напісаных у той час у Кіеве, Ноўгарадзе.

**§ 17. Беларускія пісьмовыя помнікі.** У XIII ст. на тэрыторыі Беларусі павялічваецца колькасць пісьмовых тэкстаў, яны становяцца больш разнастайныя зместам.

Да нас дайшлі гандлёвыя ўмовы, граматы[18], богаслужэбныя, рэлігійныя творы. У пісьмовых тэкстах XIII ст. сустракаемся з адлюстраваннем асаблівасцей, характэрных беларускай мове.

У XIV ст., пры Альгердзе (1296—1377), мова продкаў сучасных беларусаў стала афіцыйнай мовай канцылярыі і справаводства ў Вялікім княстве Літоўскім. Гэта, зразумела, спрыяла пашырэнню і развіццю беларускай пісьменнасці.

Да нас дайшло каля 600 кніг так званай Літоўскай метрыкі — архіва дзелавой пісьменнасці канцылярыі Вялікага княства Літоўскага: разнастайныя дакументы, перапіска ўстаноў, справы судоў Менска, Гародні, Бярэсця, Слоніма, Магілёва, Полацка, Коўна, Вільні і іншых гарадоў, напісаныя на старажытнай беларускай мове. У гэтых кнігах-зборах адлюстроўвалася багацце жывой мовы беларусаў, яе фанетыка, граматычны лад, лексіка, фразеалогія.

Створанае на беларускай мове ў Вялікім княстве Літоўскім заканадаўства — багатая крыніца вывучэння гісторыі беларускай мовы, гісторыі Беларусі, Літвы, суседніх рускіх, украінскіх, польскіх зямель. Як прыклады заканадаўчых дакументаў, напісаных на беларускай мове, можна назваць Судзебнік караля Казіміра Ягелонавіча (1468), Статут Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588).

Вядомыя і літаратурна-мастацкія творы на беларускай мове. Адны з іх — пераклады з іншых моў («Гісторыя пра Атылу» — з польскай, «Аповесць пра Баву» — з сербскай), другія — арыгінальныя празаічныя («Ліст да Абуховіча», «Прамова Мялешкі» і інш.) і вершаваныя (вершы Сімеона Полацкага, Андрэя Рымшы) творы.

Багатае наша летапісанне. Пачынаецца яно на тэрыторыі сучаснай Беларусі яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі.

---

[18] Старажытныя граматы — гэта дакументы, якія выдаваліся князямі, феадаламі, царкоўнымі ўстановамі, прыватнымі асобамі. Так, напрыклад, Мсціслава грамата 1130 г. засведчыла, што кіеўскі князь Мсціслаў «повелѣлъ... сыну своѥму» Усеваладу аддаць Юр'еўскаму манастыру (каля Ноўгарада) вёску і што Усевалад перадаў манастыру «блюдо серебрьно», якое каштавала «·л҃·грывнъ» (30 грыўняў) серабра. У грамаце 1264 г. Гердэнь, сын полацкага князя Давыда, ад імя Полацка і Віцебска заключыў мірны дагавор з Рыгаю і Готландам, вызначыў умовы гандлю з імі.

Беларускія летапісы XV—XVII стст. звычайна называліся літоўскімі або літоўска-беларускімі. У гэтых летапісах падаюцца звесткі з гісторыі Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку і Беларусі, радаслоўныя літоўскіх князёў; мова летапісаў — беларуская. Да нас дайшлі таксама хронікі — прыватныя запісы гістарычных падзей, напрыклад дзённік Фёдара Еўлашэўскага (1563—1604), Баркулабаўскі летапіс, напісаны ў Баркулабаве, каля Быхава, у канцы XVI — першыя гады XVII ст. У беларускіх летапісах і хроніках часта не толькі пералічваюцца падзеі, а ствараюцца жывыя карціны і малюнкі мінулых часоў.

Прыкметнае месца ў беларускай спадчыне займаюць помнікі рэлігійнай літаратуры, сярод іх «Страсці Хрыстовы», «Аповесць пра трох каралёў-валхвоў», «Жыццё Аляксея, чалавека божага» (XV), «Казанні Кірыла Іерусалімскага» (XVI) і інш.; у XVI ст. Ф. Скарына пераклаў і надрукаваў кнігі «Бібліі», С. Будны — кальвінісцкі катэхізіс, В. Цяпінскі — евангелле.

Прадмовы і пасляслоўі да выданняў Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, прамовы Л. Сапегі — узоры навуковых ці грамадска-палітычных твораў свайго часу. У той перыяд былі створаны і лінгвістычныя працы: у 1596 г. з'явілася «Грамматіка словенска» Л. Зізанія, у 1619 г. — «Грамматики словенския правильное синтагма» М. Сматрыцкага. У 1596 г. быў надрукаваны слоўнік Л. Зізанія; складальнік пры тлумачэнні кніжных царкоўнаславянскіх слоў выкарыстоўвае такія словы, як *альбо, гоман, досыць, збан, зброя, лепшы, лытка, мова, неякісь, незлічоны, нядбаць, пазуха, певень, пільную, помста, палон, розум, ручнік, сенажаць,* што былі здабыткам старажытнай беларускай мовы і з'яўляюцца жывымі ў сучаснай беларускай мове. У 1627 г. выдаў слоўнік Памва Бярында; тут сустракаем такія спецыфічна беларускія словы, як *асоба, варыва, вораг, вайна, вязень, зразумець, патрэба, плётка, прэч, справа, чакаю* і інш.

Старажытныя беларускія пісьмовыя помнікі захоўваюцца ў архівах і бібліятэках Мінска, Гродна, Масквы, Вільнюса, Ленінграда, Рыгі, Кіева, Варшавы, Кракава і іншых гарадоў.

## ДЗВЕ ТЭНДЭНЦЫІ Ў СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМОВАЙ МОВЕ

**§ 18. Традыцыйнае пісьмо і перадача новага ў мове на пісьме.** Даследчыкі старажытнай беларускай мовы, яе гісторыі заўважылі наяўнасць дзвюх тэндэнцый, што выяўляюцца ў старажытным беларускім пісьме — у мове пісьмовых помнікаў. З аднаго боку, пісцы, атрымліваючы пэўную вывучку, імкнуліся захоўваць традыцыйныя прыёмы пісьма, традыцыйную графіку і арфаграфію, што склаліся яшчэ ў XI—XII стст. у Кіеўскай Русі. З другога боку, з'явілася супрацьлеглая тэндэнцыя ў пісьмовай мове — усвядомленая ці неўсвядомленая перадача асаблівасцей жывой старажытнай беларускай мовы. Новыя моўныя з'явы адлюстроўваліся на пісьме. Так, напрыклад, у гаворках, з якіх развівалася беларуская мова, узнікла чаргаванне *ро : ры, ло : лы, ле : лі,* адбыўся пераход у пэўнай пазіцыі *в* у *ў,* узніклі падоўжаныя зычныя, развіліся вельмі мяккія зычныя — афрыкаты *дз', ц'* (з былых *д', т'*), змяніўся мяккі *р'* *(рѣзати→рэзаць);* пашыраўся канчатак *-у (-ю)* у родным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду *(лугу, Полацку),* замацоўвалася гучанне лічэбніка *дванаццаць,* у якім першая частка — форма мужчынскага роду *(два),* замацоўваліся як дзеепрыслоўі былыя дзеепрыметнікі тыпу *ідучы, дрэмлючы, жнучы, сплючы.*

**§ 19. Аналіз урыўкаў са старажытных беларускіх тэкстаў.** Нават пры беглым і павярхоўным азнаямленні з некалькімі старажытнымі беларускімі тэкстамі можна ўбачыць наяўнасць адзначаных дзвюх тэндэнцый.

Урывак з прывілея Менску (Мінску) на магдэбургскае права (1499):

дозволѧе(м)... млынъ зб8довати на ме(ст)ц8 подобном на реце на Свислочы.

Традыцыйныя тут наступныя напісанні:

ненаціскнога *о (дозволѧемъ, зб8довати, подобном, Свислочы),* якое супала з *а* (аканне);

літары *т (зб8довати),* хоць гук *т'* у старажытнай беларускай мове яшчэ больш памякчыўся і змяніўся на *ц';*

літары *т* у словах, дзе гук *т* выпаў *(мѣстьце→мѣстце→месце→меса);*

літары ъ на канцы слова *млынъ,* хоць гэта літара ўжо

не абазначала ніякага гука (хіба толькі сведчыла пра тое, што канцавы зычны быў цвёрды);

спалучэння *ре,* хоць зычны *р* змяніўся — зацвярдзеў.

З другога боку, ва ўрыўку сустракаем словы *збудаваць, млын,* якіх калісьці не было ў мове ўсходніх славян; своеасаблівае, нестаражытнае ўжыванне слоў *дазваляем* (з прыстаўкаю *до-), падобнае.* Напісанне *Свислочы* паказвае, што зычны *ч* зацвярдзеў. Значэнне слоў і ўсяго ўрывачка сучаснаму беларусу зразумелае, словы ўрыўка бытуюць і сёння ў беларускай мове.

Урывак з Літоўскага статута (1566):

выдаючы девъкꙋ свою замужъ и даючы... посагъ а(л)бо выпра(в)у по(д)ле доброе воли... (бацька) мае(ть) ѿ зꙗтꙗ взꙗти записъ по(д) печатью его и по(д) печа(т)ми люде˞ добрыхъ.

Не спыняючыся на вызначэнні ўсіх асаблівасцей традыцыйнага пісьма і традыцыйнай мовы, не пералічваючы ўсіх беларускіх асаблівасцей, засведчаных у гэтым урывачку, заўважым толькі: тут ёсць беларуская форма дзеепрыслоўя (акасцянелая форма дзеепрыметніка незалежнага стану жаночага роду): *выдаючы, даючы;* напісанне *выдаючы замужъ* і *даючы* паказвае, што шыпячыя *ж, ч, ш* зацвярдзелі (пісец піша не спалучэнні *чи, жь,* а *чы, жъ);* засведчана слова *пасаг,* якое дайшло і да нас са сваім былым значэннем; слова *записъ* ужываецца як назоўнік мужчынскага роду. Паводле традыцыі пісец піша слова *посагъ* з ненаціскным *о* і з канцавым *ъ;* у слове *печатью* захоўваецца традыцыйнае напісанне *-тью,* хоць тут зычны *т* не захаваўся і развіўся падоўжаны зычны *ц'.*

Трэба адзначыць, што нават напісаныя ў адным і тым стагоддзі старажытныя беларускія тэксты неаднолькава шырока адлюстроўваюць асаблівасці жывой беларускай мовы. Для ілюстрацыі прывядзём два ўрыўкі.

З прадмовы Ф. Скарыны (XVI ст.) да кнігі «Апостал»:

Аптлом҃ же, и верующимъ во хрта҃, данъ бысть духъ свтый҃ всеми ꙗзыки

З аповесці пра Трыстана (пераклад XVI ст. з сербскай):

И королевна рекла: Пане, даи мнѣ мѣчъ, нехаи ꙗ єго убъю. И король єи далъ мечъ, ωна

еже суть подъ солнецемъ правду божию̑, слово из-
бавлениꙗ. и цртво небесъноє провещевати· они же насъ ѿ тѧжкостей, и ѿ бременъ вѣтхаго закона вызволили суть.

посмотрэвшы на Трыщана рекла: Пане, албо пусти Трыщана, альбо хочу сама себе убити тымъ мечомъ... Большеи єго милую нижли сама себе, а коли его убъєшъ, ꙗ хочу сама себе убити. И король реклъ: Дочко, ты мѣи Трыштана. А Трыщан подѧковал королю и королевне велми покорно и пошол у великии палац.

## З ГІСТОРЫІ ГРАФІКІ

У гісторыі беларускага пісьменства ведаем тры графічныя сістэмы: кірылаўская (кірыліца), лацінская (лацінка) і арабская. Гэтыя сістэмы выкарыстоўваліся на Беларусі (у беларускіх тэкстах) не толькі ў старажытнасці, а і ў XIX—XX стст. Так званае кірылаўскае пісьмо (пра ўзнікненне яго ідзе размова ў курсе стараславянскай мовы) было традыцыйным і ў агульнаўсходнеславянскую эпоху і ў перыяд, калі ўтвараліся тры старажытныя ўсходнеславянскія мовы — беларуская, руская, украінская. Асноўныя помнікі беларускай мовы напісаны больш ці менш змененым кірылаўскім пісьмом. Да нас не дайшоў ні адзін беларускі помнік, напісаны глаголіцай; магчыма, такіх тэкстаў і не было.

**§ 20. Кірылаўскае пісьмо. Значэнне літар.** З агульнаўсходнеславянскай эпохі, з яе пісьмовай практыкі літары кірылаўскай азбукі перайшлі і ў беларускае пісьменства. Адны літары працягвалі ўжывацца без змен, другія змяняліся, трэція знікалі, узнікалі новыя літары, тыя ці іншыя ўмоўныя значкі. Спынімся на ўжыванні і значэнні асобных літар.

Літара ꙗ абазначае:

галосны *а* пасля мяккага зычнага: *свꙗто, сталосꙗ, челꙗдь, землꙗ, вынꙗти;*

спалучэнне зычнага *j (й)* і наступнага *а: ꙗнко богдановичъ, блискаю(т) ꙗкъ блискавица.*

Літара ѧ абазначае:

галосны *а* пасля мяккага зычнага: *шырынѧ, зробилосѧ, сподаринѧ*[19];

спалучэнне зычнага *j (й)* і наступнага галоснага *а*: *ѧкъ (jак), ниѧкого, таѧ, кожнаѧ*.

У старажытных беларускіх тэкстах была прыкметная тэндэнцыя пашырэння ва ўжыванні літары ꙗ і паступовага выцяснення літары ѧ.

Сустракаецца таксама спалучэнне літар *іа*: *чыіа, таіа, цыноваіа, великаіа, належнаіа, лазніа, будованіа, кніазіа*, дзе *іа* абазначае гук *а* пасля мяккага зычнага.

У старажытным пісьме галосны *э (е)* абазначаўся некалькімі літарамі: *е, є*, ѥ, *ε, э*.

Літара ѥ звычайна абазначала спалучэнне зычнага *j (й)* і галоснага *э (е)*: *каменьѥ, ѥсми*. Літары *е, є, ε* абазначалі *э (е)* пасля мяккіх зычных і спалучэнне *j (й)* з *э (е)*: *нехаи, нєхаи, нεхаи, тое, тоє, тоε, чеканьє, очекованье, почєканьє, пытанье, пытаньє, пытаньε, насенье, насεньε; его, єго, εго*.

З XV ст. у беларускіх пісьмовых помніках ужываецца літара *э*, якая абазначае галосны *э (е)* пасля цвёрдых зычных[20]: *пэвнаꙗ, ȣ рȣцэ, вышэ*ˡ, *можэ, рыцэры, францэꙗ, дѣвцэ, сэрцу, почэкаε*.

Галосны *і* абазначаўся літарамі *и* (васьмярычнае), *і* (дзесяцярычнае) або варыянтам апошняга *ї*, зрэдку *ѵ* (іжыца): *записъ, пи, писара, по всих границахъ, зъ зычливости, минулые, сьвиренъ; гисторіѧ, великіѧ, ниꙗкіи, тяпинскіи, выпхнȣлі, і на іменечкоу, ховаті; прїшолъ, забїлї, мелї; зъ єгѵптȣ, ȣ єгѵптѣ*.

Галосны *о* абазначаўся літарамі *о* і *ω* (амега). Літара *ω* звычайна (працяглы час) ужывалася на пачатку слова, а таксама ў лігатурах ѿ, ѡͩ: *миколаи, сѧ не дотыкати, зъ Могилева, молодицȣ, логозкая* (лагойская), *хто, сподобалосѧ, соль заховуеть, што ею посолитсѧ; ωсвенчэнꙗ, ωсветъчэнꙗ, ωрати, ωшмена, ωвечка, ωсоба, ωчыма, ωповедати; ѿкуль, ѿсюль, ѿсыти, ѡͩ насъ*.

---

[19] *Сподарынѧ (сподаринѧ)* — форма ветлівага звароту да жанчыны; утварылася слова пры дапамозе суфікса *-ын-* ад назоўніка мужчынскага роду *сподаръ (сподарь). Мовили такъ: матухно, зезȣлюхно, панюшко, сподаринѧ... да* ˡ *крошку хлеба* (Баркул. л.); *nie hniewaysia, spodaru* (Ліст); (слова ўстарэлае).

[20] У рускай графіцы літара *э* ўжываецца з канца 30-х гадоў XVIII ст. Гл.: П. Я. Черных. Историческая грамматика русского языка. М., 1952, с. 93.

Параўн.: *ѡмочишь, скибȣ свою въ оцетъ, чотырохъ ѡсобъ, орати, одпочиванє, чуинѡ, бѡрздѡ.*

Пасля мяккіх шыпячых, часам пасля мяккага *л* галосны *о* абазначаўся літарою *о: чого, шостаꙗ; хмеловыми, рубловъ, слозы.*

Мяккасць зычных *с, н, ц* і іншых (у тым ліку і *л*) абазначалася ў некаторых выпадках перад галосным *о* літараю *і: зіолами, ціоткѡ, маліовалъ, прывіолъ, сіомого.* У словах *покоіовый, незнаіомый іо* абазначае спалучэнне зычнага *j* з *о.*

Галосны *у* абазначаўся літарамі *оу, у, ȣ.* Што ж да літары ѫ(ѭ), то яна выцеснілася літарамі *у, оу, ȣ* яшчэ ў агульнаўсходнеславянскую эпоху — пад канец XII ст. Праўда, яна аднавілася і паявілася зноў у беларускім пісьме XV—XVI стст.

У старажытных беларускіх помніках сустракаем: *оу полоцкоу, оусꙗ, оунизе, Менскоу, оула, молодицоу, доубчики; ȣ клецкȣ, книжкȣ, выдрȣковано, кȣтокъ, докȣль; братаннѫ, рѫкъ, сѫдъ; порану, у несвижы, унуковъ, ꙗкому, працу, збудовали.*

Параўн.: *оу домоу і ȣ домоу; дрȣкованую і дрȣкованоую, ȣ клецку, рȣхомую, ȣ великую ласку, тую ласкȣ.*

Літара *ѣ* у старажытных беларускіх тэкстах ужывалася непаслядоўна. Тлумачыцца гэта тым, што яшчэ ва ўсходнеславянскай мове, у яе асобных дыялектах, у тым ліку на Полаччыне, Смаленшчыне, галосны *ѣ* супаў з *э (е).* Захаванню літары *ѣ* садзейнічала не толькі традыцыя пісьма, а і тое, што не ва ўсіх старажытных гаворках *ѣ* супаў з *э (е).* Гэты працэс не закончыўся і сёння: у сучасных гаворках каля Калінкавіч, Капаткевіч, Мазыра і іншых мясцін поўдня Беларусі на месцы *ѣ* сустракаецца «закрыты» галосны, набліжаны да *і* (а пасля зацвярдзелых зычных — да *ы*).

З XV ст. былы галосны *ѣ* пасля зацвярдзелых зычных абазначаецца, хоць і непаслядоўна, літараю *э: ȣ рѣцэ, девцэ, матцэ.*

Літары *ъ, ь (ёр, ер)* абазначалі галосныя. У моцнай пазіцыі (моцным становішчы) яны падоўжыліся і супалі з галоснымі поўнага ўтварэння *(ъ→о, ь→э (е),* а ў слабай пазіцыі выпалі. У старажытных беларускіх помніках напісанне *ъ, ь* адлюстроўвае традыцыйнасць пісьма. Сустракаецца, напрыклад, *съто* і *сто, вълна* і *волна, вовна, вьрхъ* і *верхъ.* Іншы раз літары *ъ, ь* пішуцца там,

дзе гукаў ъ, ь не было: *просъто, песьни.* Літара *ь* у словах тыпу *песьни, сьвиренъ, опосьле* — сведчанне мяккасці свісцячага; канцавы *ъ* у прыкладах тыпу *ѣжъ, ножъ, записъ* — сведчанне цвёрдасці канцавога зычнага.

Складанае было абазначэнне на пісьме зычнага *j (й).* Гэты гук абазначаўся літараю *и* (як і галосны *і*): *меи литость, злодеи, моисеи;* часам знакам *й* ці *и́,* а таксама значком [ꙿ], які мае назву паерык: *сеꙿмовали, куреꙿ, Моꙿсеꙿ, нехаꙿ, чекаꙿте воꙿско.* З XVI ст. у старажытных беларускіх тэкстах пачынае ўжывацца літара *й*[21].

Зычны *з* абазначаўся літарамі *з, s: казалъ, pasомъ.*

Зычнага гука *ф* ні ў агульнаславянскай, ні ва ўсходнеславянскай мове не было; ён з'явіўся разам з запазычанымі словамі і абазначаўся літарамі *ф,* Ѳ і ѳ.

Спалучэнне зычных *кс* звычайна ў іншамоўных словах абазначалі літарай ѯ (ксі): ѯерѯ, Алеѯандръ; а спалучэнне зычных *пс* (звычайна ў іншамоўных словах) абазначалі літараю ѱ (псі): ѱалъмъ, ѱалтыръ (ѱалтирь). Абедзве гэтыя літары даўно выйшлі з ужытку; спалучэнні гукаў *кс, пс* перадаюцца спалучэннямі адпаведных літар — *кс, пс.*

У старажытных тэкстах сустракаюцца выносныя літары і надрадковыя значкі. Перш чым сказаць пра выносныя літары і пра некаторыя надрадковыя (або дыякрытычныя) значкі, пакажам іх у кароценькіх урывачках са старажытных беларускіх тэкстаў:

Мы ѧну Сели$^{ц}$кому казали ты$^{х}$ св$^{т}$ко$^{в}$ пытати (Кн. пас.);

за ласкою п҃на б҃га (Цяпінскі);

взꙗто коровъ пересты$^{х}$ доꙿны$^{х}$ дзве, третюю чи$^{р}$вонꙋ (Акт. Брэсцк.);

ѡстатниꙿ$^{ст}$ разъ, чаю (а ў наступным радку — частю), в ты$^{х}$ краина$^{х}$ влоски$^{х}$ и лати$^{н}$ски$^{х}$ (Рымскі л.);

Ѿ воже$^{н}$ꙗ каме$^{н}$ꙗ дерэва а$^{л}$бо дров Ѿ кошэ$^{н}$ꙗ сена ѡ$^{д}$ всꙗкое сторожи и Ѿ и$^{н}$шы$^{х}$ работъ вызволꙗе$^{м}$. выхова$^{н}$є детеꙿ и приѡдева$^{н}$є (Ст. літ. 1566);

лежу собѣ по$^{д}$ око$^{н}$цо$^{м}$ ажно Михалѧ ведеть єско

[21] У рускім пісьменстве літара *й* ужываецца з XVIII ст. (1735). Гл.: А. Булыка. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы. Мінск, 1970, с. 54.

Микити$^{ч}$ бито$^{г}$ и [illegible] єго ѡпытал хто єго би$^{л}$ (Кн. пас.);

лу$^{ч}$шій — лѣ$^{п}$шій, плѣнѧю — в поло$^{н}$ бер8, плѣнни$^{к}$— нево$^{л}$ни$^{к}$, в полонѣ взѧты$^{и}$, ра$^{з}$нствіє — ро$^{з}$ность, ра$^{б}$ — нево$^{л}$никъ (Зіз. Лекс.);

зна$^{ко}$митыи (Руф).

У адных словах вынесена адна літара, у другіх — некалькі: *ты$^{х}$ све$^{т}$ко$^{в}$*. Сустракаецца вынясенне літары, якую трэба чытаць як спалучэнне гукаў: *бито$^{г}$ (битого), лѣ$^{т}$ (лѣто), грамо$^{т}$ (грамоту)*.

Ужыванне выносных літар было спосабам скарачэння напісання слоў; некаторыя часта ўжываныя словы пісаліся толькі скарочана *(бог, госпадзі, дзень)*.

Нярэдкасна сустракаецца ўжыванне над словам і выноснай літары і надрадковага значка: до ̆ ны$^{х}$, дзе значком ̆ перадаецца зычны *j (й)*. Зычны *j (й)* абазначаны надрадковым значком і ў такіх прыкладах, як *во̆ско, зӑду*. Часта сустракаецца надрадковы значок ~ (цітла) як паказчык скарочанага напісання слова: *па҃ бг҃а (пана бога), гн҃въ (гнѣвъ), дн҃ь, нед҃лѧ і нд҃лѧ (недѣлѧ), пн҃ве (панове), гд҃рь (господарь)*.

Значок цітла над літараю (звычайна з кропкамі абапал яе) быў сігналам, што літара мае лікавае значэнне. У Літоўскім статуце (1566), напрыклад, напісана: *Артык8л ·а҃·* (артыкул 1), *артыку$^{лъ}$* ·д̃· (артыкул 4).

Лікавыя значэнні літар:

·а҃· — 1; ·в҃· — 2; ·г҃· —3; ·д҃· — 4; ·е҃· — 5; ·ѕ҃· або ·г҃· — 6; ·з҃·—7; ·и҃·—8; ·ѳ҃· або ·Ѳ҃·—9; ·і҃·—10; ·к҃·—20; ·л̃·— 30; ·м҃·—40; ·н҃·—50; ·ѯ҃·—60; ·о҃·—70; ·п҃·—80; ·ч҃·— 90; ·р҃· — 100; ·с҃· — 200; ·т҃· — 300; ·у҃· — 400; ·ф҃· —500; ·х҃· — 600; ·ѱ҃· — 700; ·ѡ҃· — 800; ·ѧ҃· або ·ц҃· — 900.

Лічбы 11—19 абазначаліся так: на першым месцы ставіліся адзінкі, а на другім — дзесяць: ·аі̃· — 11, ·ві̃·— 12 і г. д.; лічбы 20, 30, 40 і г. д. абазначаліся так: на першым месцы ставілася літара са значэннем дзесяткаў, а на другім — са значэннем адзінак: ·ка҃· — 21, ·мв҃·—42, ·ои҃· — 78.

Паказчыкам тысячы быў значок [҂]: *Року ҂а҃ ф п҃ з зима была велми снежнаѧ* (Баркул. л.). *Року ҂а҃ ф п҃ з* азначае 'у 1587 годзе'.

**§ 21. Лацінскае пісьмо.** Чытанне беларускіх тэкстаў, напісаных лацінкаю, не патрабуе спецыяльнай вывучкі; кожны студэнт вывучае тую ці іншую замежную мову (англійскую, нямецкую, французскую ці іспанскую), у аснове пісьма якіх — лацінка, і таму ведае, што *a=а, b=б, c=с, e=э* і *е, f=ф, i=і, j=й* (ёт), *k=к, l=л, m=м, n=н, o=о, p=п, r=р* і г. д.

Неабходна засвоіць наступнае.

У беларускіх тэкстах, напісаных лацінкаю, ужываецца, як і ў польскім пісьме, над зычнымі значок [ʹ]; ён абазначае мяккасць зычнага перад наступным зычным або на канцы слова:

*c=ц, ć=цʹ: cep, praca, brać, stahnać;*

*n=н, ń=нʹ: nos, nas, koń, końmi, stań, stańma;*

*s=с, ś=сʹ: sad, was, iści, prośba, chtości, Aleś, Michaś;*

*z=з, ź=зʹ: razam, wazon, hazon, hraź, źleź, hroźba, Kuźma.*

Мяккая афрыката *дз* на канцы слова і перад зычным абазначаецца спалучэннем *dź: jedź, jedźma, budź.*

Літара ł абазначае цвёрды гук *л*, а *l* — мяккі *лʹ: ławić, ładzić, łazić; lampa, lustra, lasok.*

Мяккасць зычных *в, с, f, k, m, n, p, s, ch, w* перад галоснымі (апрача *i*) абазначаецца літараю *i: bieh, biedny, fietrawy, kiepska, mienszy, niemiec, niuchać, pieśnia, siomy, wiersz, wiadro.* Перад наступным *i* мяккасць зычнага не абазначаецца: *cichi, sini.*

Літара *i*, такім чынам, абазначае галосны *i* і мяккасць папярэдняга зычнага.

Зычны *ж* абазначаецца значком *ż*, а *дж* — *dż: wuży, stryży, dażdży, wadżu, hładżu.*

Зычны *ш* абазначаецца дыграфам *sz* або літараю š, зычны *ч* — дыграфам *cz* або літараю č, зычны *x* — дыграфам *ch: szto, wasz; što, ptuška; czas, czysty, szczaśliwy; čas, čuju; chata, chto, dychać.*

Часта ўжываецца літара *j: jon, jano, jich, maja, twaja, swaju, czyju, jeduć.* Яна адпавядае літары *й* у кірылаўскім пісьме (*myj — мый, czyj — чый*); спалучэнні *j* з *a, o, e, u* адпавядаюць кірылаўскім *я, ё, е, ю: jama, jaskrawy, majo, czyjo, jechać, uzajemny, trymaju, hulaju.*

У беларускіх тэкстах лацінская літара *y* абазначае: *ы* — *dałaży, było, wy, hłyboka; i(й)* (злучнік, часціцу) — *była y ty tam; й — toy, hniewaysia, hetay.*

Тры кароткія ўрыўкі з беларускіх тэкстаў, напісаных ці надрукаваных лацінкаю:

Aż zmaryusia biehuczy addychacca iaszczo nie mahu, użo y zapazniusia... (З камедыі XVIII ст.)

Mużyk pakul zdużaje trymaci kosu i sakieru, baranić swaho patrapić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

Hetu Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni. (З «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага.)

**Pieśnia i narod**

Jakaja ptuška — takaja i pieśnia, kažuć ludzi. Heta razumnaja prykazka a ptuščynaj pieśni maje ješče bolšaje značeńnie dla pieśni ludzkoj, bo pieśnia ludzkaja adbiwaje ŭ sabie dušu čaławieka, jaho bol i hore, jaho patreby, žadańnia i samaje žyćcio. (З газеты «Наша ніва», 1909, № 30.)

Фенетычныя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы ў некаторых тэкстах, напісаных лацінкаю, адлюстроўваюцца паслядоўна, надзейна.

**§ 22. Арабскае пісьмо.** У 1857 г. прафесар Пецярбургскага універсітэта А. Мухлінскі (родам ён з Навагрудчыны) упершыню надрукаваў урыўкі з татарскіх рукапісных кніг. Вучоныя не раз звярталі ўвагу на гэтыя кнігі, але грунтоўнае вывучэнне і апісанне іх прыпадае на шасцідзесятыя гады XX ст. Доктар філалагічных навук А. К. Антановіч у працы «Белорусские тексты, писанные арабским письмом» (Вильнюс, 1968), зрабіў апісанне 20 татарскіх рукапісных кніг XVII—XX стст., мова якіх беларуская, а пісьмо арабскае.

З XIV ст. на Беларусі паявіліся і жылі татары, адны з іх былыя палонныя, другія — перасяленцы. Яны ўжо ў XVI—XVII стст. забылі, страцілі сваю родную мову і карысталіся беларускаю, якая стала і мовою мусульманскай рэлігійнай літаратуры (татары, якія жылі на Беларусі, трымаліся мусульманскай веры), мовою апісанняў мусульманскіх абрадаў, мовою свецкай літаратуры (рыцарскія аповесці, прыгодніцкія апавяданні і г. д.).

У адной такой кнізе, напісанай арабскім пісьмом у сярэдзіне XVIII ст., ёсць радок: «Калі па тетарску не вмейе, то па руску нехай абракайеца»[22].

Першыя беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, лічыць А. Антановіч, узніклі не пазней як у сярэдзіне XVI ст. Пераважная большасць беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, — гэта пераклады з усходніх моў, з цюркскіх і арабскай. Мова гэтых тэкстаў вельмі блізкая да жывой народна-гутарковай беларускай мовы; у іх некаторыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы адлюстроўваюцца больш дакладна, чым у беларускіх помніках, напісаных кірылаўскім пісьмом.

А. Антановіч паказаў, што беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, маюць вялікую навуковую каштоўнасць; яны даюць надзейны матэрыял для гісторыі беларускай мовы, для высвятлення адносін паміж вуснаю народна-гутарковаю і літаратурна-пісьмоваю беларускаю моваю XVI—XVII стст., для гістарычнай дыялекталогіі.

Урыўкі з кітаба[23], якія захоўваецца ў гістарычна-этнаграфічным музеі АН Літоўскай ССР:

— ідучы на чыстую дарогу.

— плакалі па прароцкім сыну.

— Усман, таварышу мой, абмый його.

---

[22] А. К. Антонович. Белорусские тексты, писанные арабским письмом. Вильнюс, 1968, с. 11. «Па руску», як відаць з самога тэкста, — па-беларуску; «абракайеца» — зносіцца, карыстаецца (мовай пры зносінах).

[23] Кітабы (аль-кітабы, ай-кітабы, кіцёбы) — рукапісныя зборнікі разнастайных тэкстаў (гл. пра кітабы ў кнізе А. Антановіча «Белорусские тексты...», с. 13—17, 393). Транслітарацыю ўрыўкаў зрабіў доктар філалагічных навук А. Антановіч. Выказваю яму шчырую падзяку за фотакопію змешчаных тут урыўкаў і за іх транслітарацыю.

# ФАНЕТЫКА

## ФАНЕТЫЧНАЯ СІСТЭМА ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАЙ МОВЫ

Як ужо было заўважана, з VI ст. узнікае ўсходнеславянскае адгалінаванне ад агульнаславянскай мовы, з часам складваецца ўсходнеславянская мова — тая аснова, з якой пазней, у XIV—XVI стст., утварыліся тры ўсходнеславянскія мовы: беларуская, руская, украінская.

Працяглае вывучэнне ўсходнеславянскай мовы высветліла яе фанетыку: сістэму галосных і зычных, асаблівасці спалучальнасці зычных з галоснымі, галосныя на пачатку слова, характар націску, структуру склада (як фанетычнай часткі слова).

**§ 23. Галосныя (вакалізм).** Калі параўнаць вакалізм сучаснай беларускай мовы і ўсходнеславянскай мовы IX ст., выявіцца прыкметнае адрозненне.

Ва ўсходнеславянскай мове было адзінаццаць галосных фанем: *і, ь ,э (е), ę (э$^н$), ѣ, а, о, ǫ (о$^н$), ъ, ы, у;* у сучаснай беларускай літаратурнай мове іх толькі шэсць: *і, э (е), а, о, ы, у.*

Галосныя ўсходнеславянскай мовы былі розныя паводле даўжыні; адны былі доўгія: *і, ę, ѣ, а, ǫ, ы, у,* другія — кароткія: *о, э (е);* што ж да галосных *ъ, ь*, то яны адрозніваліся і ад кароткіх *о, э (е)* — былі вельмі кароткія.

У сучаснай беларускай мове галосныя паводле даўжыні не адрозніваюцца.

Ва ўсходнеславянскай мове была большая колькасць пярэдніх галосных: *і, э (е), ѣ, ę, ь*; у сучаснай мове іх толькі дзве — *і, э (е).*

Ва ўсходнеславянскай мове былі насавыя галосныя — *ǫ (о$^н$), ę (э$^н$);* у сучаснай беларускай мове насавых галосных няма.

Ва ўсходнеславянскай мове адны галосныя былі поўнага ўтварэння: *і, э (е), ę, ѣ, а, о, ǫ, ы, у,* другія — няпоўнага ўтварэння: *ъ, ь.*

**§ 24. Пра асобныя галосныя.** Галосны *а* спалучаўся з папярэднімі цвёрдымі і мяккімі зычнымі: *стрѣха, жаба.* Ва ўсходнеславянскай мове *а* не пачынаў слова, перад пачатковым *а* ўзнікаў прыстаўны *j(й).* Параўн.: усх.-сл. *ꙗзъ (j-азъ)* і ст.-сл., *ɑзъ;* усх.-сл. *ꙗблъко* і ням. *Apfel,* усх.-сл. *ꙗгня (j-агня)* і лацінск. *agnus,* ст.-сл. *ɑгньць.*

У сучаснай беларускай мове галосны *а* таксама спалучаецца з цвёрдымі і мяккімі папярэднімі зычнымі: *хата, сям'я (с'амjа);* часта ўжываецца *а* ў пачатку слова: *азёры, асенні, апроч, абочына, арка, арфа, антычны, астра*[1].

Галосны *о* мог пачынаць слова і спалучацца толькі з папярэднімі цвёрдымі зычнымі: *сочити, бокъ, окъно, осмь.* У сучаснай мове *о* на пачатку слова — зусім не частая з'ява *(орган, ордэн).* Нярэдка *о* ў сучаснай мове спалучаецца з папярэднімі мяккімі, а таксама зацвярдзелымі (былымі мяккімі) зычнымі: *с'омы (семъи), н'ос (неслъ), ішоў (шьдлъ), шосты (шестъи).*

Галосны *э (е)* ва ўсходнеславянскай мове ўжываўся ў спалучэнні з папярэднімі мяккімі або памякчонымі зычнымі: *вълче, къняже, ѥго, ѥѣ; семь, несеши.* Зычныя *г, к, х* перад *э (е),* памякчаючыся, супалі з адпаведнымі шыпячымі *(г→ж, к→ч, х→ш); лягеши→ляжеши, кего→чего.* Галосны *э (е),* як і *а,* не пачынаў слова.

У сучаснай беларускай мове галосны *э (е)* спалучаецца з папярэднімі мяккімі і цвёрдымі зычнымі: *месці, сесці, рэзаць, гэты, цэбрык, жэўжык;* сустракаецца на пачатку запазычаных слоў: *эўрыка, экстра, эпас, эліксір;* у некаторых гаворках сустракаем пачатковае *э* ў займенніку (часціцы): *эты, эта, этакі.*

Галосны *ѣ* вымаўляўся ва ўсходнеславянскай мове як дыфтонг *i͡e.* Ужываўся гэты галосны толькі ў спалучэнні з папярэднімі мяккімі і памякчонымі зычнымі: *ѣмь (jѣмь), лѣпьшьи, рѣчька, глęдѣти.*

Галосны *ѣ* не захаваўся ні ў адной усходнеславянскай

---

[1] Слова *астра* запазычана з латыні вельмі даўно; сустракаецца ў народных гаворках з прыстаўным *j: jастра, jастрачка* (са значэннем 'зорка, зорачка'). У літаратурнай мове яно, аднак, замацавалася як новае кніжнае запазычанне, без пачатковага *j.*

мове, у беларускай мове ў большасці выпадкаў ён супаў з э (е): *лепшы, глядзець.*

Насавы галосны *ǫ (он)* ужываўся ў спалучэнні з папярэднімі цвёрдымі і мяккімі зычнымі, а таксама на пачатку слова: **сǫдъ* (суд), **бǫдǫ* (буду), **чэшǫ* (чашуся), **рǫкǫ* (руку).

Насавы галосны *ę (эн)* ужываўся толькі ў спалучэнні з папярэднімі мяккімі і памякчонымі зычнымі: **jęзыкъ*, **памęть.*

Абодва насавыя галосныя яшчэ ва ўсходнеславянскай мове перажылі страту насавога характару, у выніку *ǫ* супаў з *у*, *ę* — з *а.*

Галосны *і (и)* ужываўся на пачатку слова, спалучаўся з папярэднімі мяккімі і памякчонымі зычнымі: **идǫ, жито, низъ.*

Галосныя *ъ* (задняга рада) і *ь* (пярэдняга рада) — вельмі кароткія, рэдукаваныя галосныя. Яны не пачыналі слова. Галосны *ъ* спалучаўся з папярэднімі цвёрдымі, а *ь* — з папярэднімі мяккімі і памякчонымі зычнымі: *съто, дъва, котъ, смачьнъи, пьнь сьрдьце.* Абодва гэтыя галосныя змяніліся — страціліся ці праясніліся ў галосныя поўнага ўтварэння — у пісьмовы перыяд (XI—XII стст.) развіцця ўсходнеславянскай мовы.

Галосны *ы* спалучаўся толькі з папярэднімі цвёрдымі зычнымі, не пачынаў слова: *сынъ, горы, ты, мыти.* Гэта самае можна сказаць пра ўжыванне *ы* і ў сучаснай беларускай мове.

Галосны *у* спалучаўся з папярэднімі цвёрдымі і мяккімі зычнымі: *коту, пол'у;* мог пачынаць слова: *улиця, ухо.* У сучаснай беларускай мове ён спалучаецца з папярэднімі цвёрдымі і мяккімі зычнымі: *кубак, ус'уды;* перад пачатковым *у* часта назіраецца прыстаўны *в: вузел, вуліца, вуха.*

Такім чынам, колькасць галосных зменшылася: насавыя *ǫ, ę* супалі з ненасавымі галоснымі *у, а;* змяніўся галосны *ѣ* (звычайна→*э*); змяніліся *ъ, ь* (страціліся або супалі з галоснымі поўнага ўтварэння).

**§ 25. Зычныя (кансанантызм).** Калі параўнаць кансанантызм сучаснай беларускай і ўсходнеславянскай мовы IX ст., то таксама высветліцца прыкметнае адрозненне.

Зусім іншы быў малюнак адносін паміж цвёрдымі і мяккімі зычнымі. Адны зычныя былі толькі цвёрдыя:

*г, к, х,* другія — толькі мяккія: *ж, ч, ш, ждж, j,* трэція — цвёрдыя і памякчоныя: *б — б·, в — в·, д — д·, з — з·* і інш.; парнымі да цвёрдых *р, л, н* былі тыя *р′, л′, н′*, якія ўзнікалі пры спалучэнні *р, л, н* з наступным *j*.

У сучаснай беларускай мове адносіны паміж цвёрдымі і мяккімі зычнымі выразна іншыя: былыя мяккія шыпячыя сталі зацвярдзелымі; былыя памякчоныя сталі мяккімі; утварыліся пары зычных паводле цвёрдасці-мяккасці: *б — б′, в — в′, д — дз′, з — з′* і інш.; былыя толькі цвёрдыя *г, к, х* сталі таксама парнымі: *г — г′, к — к′, х — х′*.

Усходнеславянская мова мела вубухны зычны гук *г (g)*, якому ў беларускай мове (з самага яе пачатку) адпавядае фрыкатыўны *г (h)*.

Усходнеславянскім памякчоным *д·, т·* адпавядаюць беларускія мяккія афрыкаты *дз′, ц′*.

Ва ўсходнеславянскай мове былі цвёрдыя губныя *б, в* (у гаворках — *в* і *w*), *м, п;* яны выступалі ў пары з памякчонымі: *б — б·, в — в·* і г. д. Не было, як і ў агульнаславянскай мове, зычнага *ф*, які пашырыўся ва ўсіх славянскіх мовах з пранікненнем іншамоўных слоў. У сучаснай беларускай мове, з яе старажытнага перыяду, часта ўжываецца губны зычны *ў*, які адпавядае ўсходнеславянскім *л (воўна, таўчы), в (крыўда, траўка), у (былі ў брата)*.

У старажытнасці не было той акрэсленай адпаведнасці паводле звонкасці-глухасці зычных, якая развілася пасля страты рэдукаваных галосных: *грибъ — гриба* і *грып — грыба, годъ — года* і *гот — года*. У гэтых і падобных словах не было таго чаргавання *б : п, д : т*, якое назіраецца ў сучаснай беларускай мове.

У беларускай мове развіліся падоўжаныя зычныя *(зелле, соллю)*, якіх не было ва ўсходнеславянскай мове.

У агульнаславянскай мове дзейнічаў закон адкрытага склада, які працягваў дзейнічаць і ва ўсходнеславянскай мове: кожны склад канчаўся на складаўтваральны гук. У выніку дзейнасці гэтага закону шматлікія закрытыя склады змяніліся; так, напрыклад, **ѣд-мь→ѣ-мь, *рон-ка→рǫ-ка, *гол-ва→голова.* Дзейнасць закону адкрытага склада нельга разумець так, быццам не дапускаліся спалучэнні зычных у слове. Яны (спалучэнні) былі на пачатку слова *(сл, тв, св, тр, пр, кр, см, зн* і інш.): *слово, слава, твои, свои, трава, правьда, кривьда;* у сярэдзіне слова *(сн, тр, хр, ст* і некаторыя іншыя), прычым прыцяг-

валіся да наступнага галоснага і разам з ім утваралі склад: *вѣ-тръ, ви-хрь, чę-сть, не-сти, кла-сти* (з *кладти*).

У старажытнасці ў адным складзе спалучаліся цвёрдыя зычныя з наступнымі галоснымі непярэдняга рада *а, о, у, ы, ǫ, ъ*, мяккія (памякчоныя) зычныя — з наступнымі галоснымі пярэдняга рада *і, э (е), ѣ, ę, ь;* калі ж цвёрдыя зычныя спалучаліся з наступнымі галоснымі пярэдняга рада, то зычныя змяняліся — памякчаліся: *вода — вод·ѣ, рука — руч′ьнъ.*

## ФАНЕТЫЧНЫЯ ЗМЯНЕННІ ДАПІСЬМОВАЙ ЭПОХІ

**§ 26. Агульныя заўвагі.** Фанетычныя працэсы і змяненні, якія адбыліся ў дапісьмовую эпоху, можна сістэматызаваць. Адны з іх агульнаславянскія, другія — толькі ўсходнеславянскія, трэція — агульныя для двух адгалінаванняў былой агульнаславянскай мовы. Так, напрыклад, палаталізацыя заднеязычных *г, к, х* і пераход іх у адпаведныя мяккія *ж′, ч′, ш′* развілася ў агульнаславянскую эпоху, у агульнаславянскай мове-аснове; поўнагалоссе развілося толькі ва ўсходніх славян і кваліфікуецца як усходнеславянскае змяненне; спрашчэнне груп зычных *дл, тл* — змяненне, якое перажылі ўсходнія і паўднёвыя славяне, у заходніх славян групы *дл, тл* захаваліся (мяркуюць, што спрашчэнне груп *дл, тл* адбылося тады, калі ў мове ўсходніх і паўднёвых славян адбываліся супольныя моўныя працэсы).

**§ 27. Першае пераходнае памякчэнне заднеязычных. Узнікненне чаргавання *г : ж′, к : ч′, х : ш′*.** У агульнаславянскай мове-аснове цвёрдыя заднеязычныя *г, к, х* у пазіцыі перад наступнымі галоснымі пярэдняга рада *і, э, ь, ѣ, ę* памякчыліся і перайшлі ў мяккія *ж′, ч′, ш′:*

*(г : ж) лягу — ляже(ть), нога — ножька;*

*(к : ч) крикъ — кричить, пеку — пече(ть);*

*(х : ш) страхъ — страшити, страшьнъ, сухъ — сушити, сушьнъ.*

Паказанае памякчэнне называюць першаю палаталізацыяй (тэрмін *палаталізацыя* паходзіць з латыні, ад слова *palatum* — ’паднябенне’) *г, к, х* або першым пераходным памякчэннем. Пераходным называюць таму, што *г, к, х* пераходзілі ў мяккія няпарныя шыпячыя *ж′, ч′, ш′*. Першая палаталізацыя з’явілася вынікам таго, што цвёрдыя заднеязычныя *г, к, х,* прыпадабняючыся да на-

ступных галосных, пераносіліся ва ўтварэнні наперад і супадалі з больш пярэднімі мяккімі *ж′, ч′, ш′*[2].

Так узніклі *ж′, ч′, ш′* з *г, к, х*. Так з'явілася яшчэ ў агульнаславянскай мове чаргаванне *г : ж′, к : ч′, х : ш′*. Гэта гістарычнае чаргаванне дайшло да нас ва ўсіх славянскіх мовах.

Падкрэслім, што пераход *г→ж′, к→ч′, х→ш′* працягваўся доўгі час у мовах усходніх, заходніх і паўднёвых славян, калі пры словаўтварэнні і словазмяненні пасля заднеязычных з'яўляліся галосныя пярэдняга рада. Але з часам *г, к, х* перад галоснымі пярэдняга рада перасталі змяняцца. Пра гэта сведчыць захаванне *г, к, х* перад *і, э (е)*, якія ўзніклі з *ы* ў выніку непераходнага памякчэння: *кыдати→кидати* (гл. § 93); наяўнасць спалучэнняў *ге, ке, хе, гі, кі, хі*, якія не змяніліся на *жи, чи, ши* ці на *же, че, ше* ў запазычаных словах: *гігант, Геркулес, герой, гейзер, кефір.*

У сучаснай беларускай мове часта сустракаецца чаргаванне *г : ж, к : ч, х : ш*, якое з'явілася вынікам першай палаталізацыі.

У шматлікіх выпадках умовы пераходу *г→ж, к→ч, х→ш* змяніліся, але шыпячыя, што ўзніклі з заднеязычных перад галоснымі пярэдняга рада, захоўваюцца. Так, напрыклад, у слове *вучоба* зычны *ч* узнік з *к* перад галосным *ь*, але гэты галосны не захаваўся, ён супаў з *э*, а *э* ў сваю чаргу змяніўся на *о*; так зычны *ч* апынуўся перад наступным непярэднім галосным *о*, перад якім першае пераходнае памякчэнне не ўзнікала. Яшчэ прыклад. Слова *можна* — з былога **могьно*. Зычны *г* перад *ь* перайшоў у *ж*, потым *ь* страціўся, а зычны *ж* (з *г*) апынуўся перад зычным.

Узнікла і ўзнікае чаргаванне *г : ж, к : ч, х : ч* паводле аналогіі: на ўзор *ручны* (з **ркьнъи*), *рачны* (з **рѣкь-*

---

[2] У словах тыпу *маўчаць, крычаць, жар* і ў дапісьмовую эпоху пасля шыпячага быў галосны *а*, але ён не спрадвечны: *маўчаць* — з **мълке̄ти, крычаць* — з **крике̄ти, жар* — з **ге̄ръ;* заднеязычныя перад наступным пярэднім галосным *е̄* заканамерна пераходзілі ў шыпячыя, а *е̄* пасля шыпячых, як і пасля іншых мяккіх, пераходзіў у *а*. Такім чынам: **крике̄ти→*криче̄ти→кричати (→крычаць), *мълке̄ти→*мълче̄ти→мълчати (→маўчаць)*. Наяўнасць *маўчэць, крычэць* у беларускіх народных гаворках, трэба думаць, не ёсць сведчанне таго, што тут захаваўся праславянскі *э (е); крычэць, мычэць*, відаць, з'явіліся на ўзор *глядзець, сядзець, грымець.*

*нъи)* узнікла чаргаванне ў словах, якія зусім нядаўна ці не так даўно запазычаны з іншых моў: *байдарка — байдарачны, аптэка — аптэчны.*

Шыпячыя *ж', ч', ш'*, што ўзніклі з *г, к, х*, як і ўсякія шыпячыя, у пісьмовую эпоху (ужо ў мове беларускай народнасці) зацвярдзелі (гл. § 88), у выніку былое чаргаванне *г, к, х* з мяккімі *ж', ч', ш'* стала чаргаваннем *г, к, х* з цвёрдымі *ж, ч, ш: бягу — бяжыш, сяку — сячэш.*

**§ 28. Другое пераходнае памякчэнне заднеязычных. Узнікненне чаргавання *г : з', к : ц', х : с'*.** Другое пераходнае памякчэнне заднеязычных, ці другая палаталізацыя, — таксама агульнаславянскае змяненне. Яно развілося пазней, чым першае. У выніку другога пераходнага памякчэння *г, к, х* змяніліся на *з', ц', с' (г→дз'→з', к→ц', х→с')*. Другое памякчэнне *г, к, х* узнікла не перад любым галосным пярэдняга рада, а толькі перад тымі *ѣ, і*, якія развіліся з дыфтонгаў *o͡i, a͡i*.

Каб убачыць гэта палаталізацыйнае змяненне, параўнаем літоўскае слова *kaina* і адпаведнае старажытнае славянскае *цѣна*. Індаеўрапейскі дыфтонг *a͡i* (як і *o͡i*) у славян змяніўся на *ѣ (ě)*, перад *ѣ* заднеязычны *к*, памякчаючыся, змяніўся і супаў з мяккім *ц'*. Такім чынам, у літоўскім *kaina* і старажытным славянскім *цѣна* ёсць адпаведнасць: дыфтонг *a͡i* і галосны *ѣ (ě)*, зычны *k* і мяккі свісцячы *ц'*.

Такая самая адпаведнасць ёсць у літоўскім слове *rankai* і старажытным усходнеславянскім *руцѣ*.

Як ужо заўважана, зычны *г* пры другім пераходным памякчэнні супаў з мяккім *дз'*, апошні з часам, яшчэ ў дапісьмовую эпоху, у мове ўсходніх славян змяніўся на *з'*. У выніку другой палаталізацыі развілося чаргаванне:

*(г : з') дуга — дузѣ (→дузе), *бѣгǫ — бѣзи;*
*(к : ц') рука — руцѣ (→руцэ), *пекǫ — пеци;*
*(х : с') стрѣха — стрѣсѣ (→страсе).*

Гістарычнае чаргаванне *г : з, к : ц, х : с* ёсць і ў сучаснай беларускай мове. Праўда, зычны *к* чаргуецца ўжо не з мяккім *ц'*, а з зацвярдзелым *ц*: *трайка — (на) трайцы, каройка — каройцы.*

Разгледжанае гістарычнае чаргаванне захавалася не ва ўсіх выпадках. Яно захавалася, напрыклад, у форме давальнага (меснага) склону назоўнікаў: *дуга — (на) дузе, Рыга — (у) Рызе, крыга — (на) крызе; рака — (на)*

*рацэ, лука — (у) луцэ, жонка — жонцы; страха — (на) страсе, саха — (пры) сасе, плаха — (на) пласе; луг — (на) лузе, снег — (у) снезе, бераг — (пры) беразе; кажух — (у) кажусе, гарох — (у) гаросе* і г. д.

Не захаваліся свісцячыя ў формах назоўнага і меснага склонаў назоўнікаў множнага ліку: *стагі* (з *стози*), *страхі* (з *страси*), *на лугах* (з *на лузѣхъ*), *у стагах* (з *въ стозѣхъ*), *ваўках* (з *вълцѣхъ*). У гэтых і падобных словах адбылося выраўноўванне асновы паводле іншых склонаў, у якіх аснова канчалася (канчаецца) на заднеязычны: *стога, стогу, стагоў, стагам* і інш.

Не захаваліся вынікі другой палаталізацыі і чаргаванне заднеязычных са свісцячымі ў формах загаднага ладу: *пячы* (←*пеци*), *бяжы* (←*бѣзи*), *сячы* (←*сѣци*); *пячыце* (←*пецѣте*), *бяжыце* (←*бѣзѣте*), *сячыце* (←*сѣцѣте*). Аснова загаднага ладу гэтых і падобных дзеясловаў выраўнавалася на ўзор асновы абвеснага ладу (2-й і 3-й асобы адзіночнага ліку, 1-й і 2-й асобы множнага ліку): *бяж-ыш — бяж-ы* (замест *бѣз-и*); *пяч-ы* (замест *пец-и*); *сяч-эш — сяч-ы* (замест *сѣц-и*); *печ-ацё — пяч-ыце* (замест *пецѣте*)[3].

На месцы былога чаргавання заднеязычнага са свісцячым узнікла чаргаванне заднеязычнага з шыпячым.

**§ 29. Трэцяе пераходнае памякчэнне заднеязычных. Чаргаванне *г* : *з'*, *к* : *ц'*, *х* : *с'*.** Трэцяе пераходнае памякчэнне паводле яго вынікаў не адрозніваецца ад толькі што разгледжанага, таму не ўсе гісторыкі славянскіх моў выдзяляюць яго як асобнае памякчэнне. Яно развілося пад уплывам не наступнага, а папярэдняга галоснага — *і, ь, ę*; параўн. *кънęгыни* і *кънęзь, ликъ* і *лицє*. Умовы гэтага памякчэння высветлены няпоўнасцю, хоць вядома, што заднеязычныя не памякчаліся пасля *і, ь, ę*, калі ў наступным складзе быў *ы*.

Вынікі трэцяй палаталізацыі трэба бачыць у беларускіх назвах ягад: *суніца (суніцы), чарніца (чарніцы), брусніца (брусніцы), дурніца (дурніцы)*[4]; у словах тыпу *касец, маладзіца*.

---

[3] У рускай мове таксама не захаваліся вынікі другой палаталізацыі ў формах дзеясловаў загаднага ладу, але выраўноўванне адбылося паводле асновы абвеснага ладу 1-й асобы адзіночнага ліку і 3-й асобы множнага ліку: *секу, секут — секи, секите; бегу, бегут — беги, бегите*.

[4] У рускай мове — *черника, голубика, брусника,* а таксама ў асобных рускіх гаворках — *суника*.

Такім чынам, палаталізацыйнае змяненне заднеязычных выклікала гістарычныя чаргаванні, якія з далёкіх часоў дайшлі да нас у беларускай мове:

г: { ж *кніга — кніжак,*
з *кніга — (на) кнізе;*

к: { ч *рака — рэчак,*
ц *рака — (на) рацэ;*

х: { ш *страха — застрэшак,*
с *страха — (на) страсе.*

**§ 30. Змяненне спалучэнняў *гт, *кт (*gt, *kt) перад галоснымі ѣ, і.** Спалучэнні зычных *гт, *кт* пад уплывам наступнага *ѣ* або *і* памякчыліся і перайшлі ва ўсходніх славян у мяккі складаны гук — афрыкату *ч'*. Такое змяненне лёгка высвятляецца праз параўнанне: *ноч* беларускае і *noctis*[5] — у латыні, *naktis* — у мове літоўцаў, дзе **kt,* як бачым, захавалася.

Відавочным з'яўляецца ўзнікненне *ч'* з *гт* і *кт* у неазначальнай форме дзеясловаў з асноваю на заднеязычны (як вядома, неазначальная форма ў праславянскай мове абавязкова канчалася на *-ти: *могти, *бергти, *пекти, *сѣкти).* У дзеясловах тыпу **могти, *бергти, *сѣкти* спалучэнні *гт, кт* перад *і* змяніліся: **могти→мочи, *бергти→беречи, *сѣкти→сѣчи.*

У заходнеславянскіх мовах **гт, *кт,* памякчыўшыся, супалі з *с*: польск. *noc, piec, strzyc, moc;* у паўднёваславянскіх — з *щ:* балг. *нощ (щ — шт), пещ, мощ.*

Праславянскае **дъкти* змянілася на *дъчи* ў мове старажытных усходніх славян (сучаснае беларускае *дачка),* на *(dъcerka→) córka* — у польскай мове, на *дъщерь* — у старaславянскай.

**§ 31. Лёс спалучэнняў зычных з наступным й (j).** Яшчэ ў агульнаславянскую эпоху змяніліся спалучэнні зычных з наступным *й (j)*. Так атрымалася, што на месцы спалучэнняў **дй (*dj), *тй (*tj), *гй (*gj), *кй (*kj), *хй (*chj), *бй (*bj), *мй (*mj)* узніклі іншыя гукі або спалучэнні гукаў. Папярэдні зычны, асімілюючыся да наступнага спрадвечнага мяккага *й (j),* змяніўся; змянілася ў большасці выпадкаў само спалучэнне з *й (j).*

---

[5] Спалучэнне літар *ct* чытаецца як *kt.*

Перш чым разглядаць вынікі змянення спалучэнняў зычных з наступным *й (j)*, трэба звярнуць увагу на тое, што з часам мяккія шыпячыя і *ц* зацвярдзелі: *нашь→наш′→наш*; *саж′а→сажа, ходж′у→хаджу, цѣна→цана* (гл. § 88, 89).

**§ 32. Змяненне спалучэнняў *гй, *кй, *хй (*gj, *kj, *chj). Узнікненне чаргавання г : ж, к : ч, х : ш.** Змяненне спалучэнняў заднеязычных з наступным *й (j)* прывяло літаральна да такіх вынікаў, як змяненне заднеязычных перад галоснымі пярэдняга рада (§ 27). Гэта значыць:

(**гй : ж) *дръгйǫ→дръжу (→дрыжу), *лугйа→лужа;*

(**гй : ж) *дръгйо→дръжу (→дрыжу), *лугйа→лужа;*

(**хй : ш) *сухйǫ→сушу, *страхйǫ→страшу.*

Так узнікла чаргаванне *г : ж, к : ч, х : ш*.

**§ 33. Змяненне спалучэнняў *скй, *стй (*skj, *stj). Узнікненне чаргавання ск : шч, ст : шч.** У сучаснай беларускай мове сустракаецца чаргаванне *ск : шч, ст (сц) : шч*: *паласкаць — палашчу, плоска — плошча, пiск — пiшчаць, пусцiць — пушчу, рост — вырашчу*. Спалучэнні *ск, ст* пад уплывам мяккага *й (j)* памякчыліся аднолькава, адбылася асіміляцыя *й (j)*, у выніку якой **скй→ш′ч′, *стй→ш′ч′*. З часам, ужо ў пісьмовую пару, у сувязі з зацвярдзеннем шыпячых *ш′ч′* змянілася на *шч*, прычым *шч* у беларускай мове (*плошча, нарошчаны*) — гэта не адзін гук, а спалучэнне двух зацвярдзелых гукаў, якое абазначаецца на пісьме спалучэннем дзвюх літар. Такім чынам, у словах тыпу *плошча, гушча* спалучэнне *шч* паходзіць са спалучэнняў **скй* ці **стй*.

**§ 34. Змяненне спалучэнняў *зй, *сй (*zj, *sj). Узнікненне чаргавання з : ж, с : ш.** Спалучэнні **зй, *сй* змяніліся з аднолькавымі вынікамі ва ўсіх славянскіх мовах: **зй→ж′, *сй→ш′*. З былых **косйǫ, *писйǫ, *просйǫ* атрымалася *кашу, пiшу, прашу*.

Такім чынам, шыпячыя *ж, ш*, якія чаргуюцца з *з, с*, узніклі ў далёкую дапісьмовую пару адпаведна з **зй, *сй*, тады развілося чаргаванне *з : ж, с : ш: вазiць — важу, мазаць — мажу, насiць — нашу*.

Толькі што паказаны шыпячы *ш* маем у прыналежных займенніках *наш, ваш*. Займеннік *наш (наша)* утварыўся ад формы роднага склону займенніка *мы — нас(ъ)* і суфіксаў *-йо (→йь), йа: *насйь→нашь (→наш′→наш), *насйа→наш′а→наша;* займеннік *ваш (ваша)* — ад формы роднага склону займенніка *вы —*

*вас(ъ)* і суфіксаў *-йо (→йь), йа: *васйь→вашь (→ваш'→ваш), *васйа→ваш'а→ваша*[6].

**§ 35. Змяненне спалучэння **дй* (**dj*). Узнікненне чаргавання *д : дж, д : ж*.** Агульнаславянскае спалучэнне **дй (*dj)* змянілася ва ўсіх трох адгалінаваннях агульнаславянскай мовы-асновы. Былому агульнаславянскаму **садја (*sadja)* адпавядае ў беларускай і рускай мовах сажа, у польскай — *sadza,* у старaславянскай — *сажда.* Тое самае можна паказаць на беларускім слове *мяжа,* польскім *miedza,* балгарскім *межда;* на беларускім *нýжа*[7], польскім *nędza*, балгарскім *нужда.*

З паказаных прыкладаў відаць, што на месцы **дй (*dj)* у беларускай мове маем шыпячы *ж.* Стала традыцыяй у працах па гістарычнай фанетыцы ўсходнеславянскіх моў гаварыць пра наяўнасць у гэтых мовах *ж* з **дй (*dj)*. А між тым, калі гаварыць пра беларускую мову, трэба падкрэсліць тое, што ў ёй маем вялікую колькасць слоў, у якіх на месцы былога **дй (*dj)* вымаўляецца афрыката *дж,* і адносна невялікую колькасць слоў з *ж: сажа, продаж, мяжа, нужа* (дыялектнае) і некаторыя іншыя. Афрыкату *дж* можна паказаць у шматлікіх выпадках, у розных марфалагічных формах:

*прыгладжваць, сцэджваць, абгароджваць, прыязджаць;*

*сяджу, гляджу, сцаджу, прыладжу, падгладжу, суджу, абгараджу, распараджуся;*

*прыгладжваў бы (-ла б, -лі б), абгароджваў бы (-ла б, -лі б);*

*сцэджвай, абгароджвай, сцэджвайце, абгароджвайце;*

*згладжаны, пашкоджаны, адроджаны, прысуджаны, дагледжаны;*

*адцэджваючы, адраджаючы, абгароджваючы;*

*адраджэнне, нараджэнне, пашкоджанне, узнагароджанне, ураджай, ураджайны.*

Адзначым, што гук *дж* уласцівы і мове ўкраінцаў: *воджу, уродженка.*

У навуцы застаецца спрэчным пытанне пра пахо-

---

[6] Няцяжка бачыць выразную сувязь паміж асабовым займеннікам *нас* і прыналежным *наш,* паміж асабовым *вас* і прыналежным *ваш:* яны — ад асноў *нас-, вас-;* займеннікі *наш, ваш* вытворныя. У наяўнасці і семантычная сувязь: *наш* паказвае прыналежнасць 1-й асобе множнага ліку, *ваш* — прыналежнасць 2-й асобе множнага ліку.

[7] Гл. у Ф. Багушэвіча: *І жыве сабе на волі без бяды, без нужы.*

джанне гэтага *дж.* Адны гісторыкі фанетыкі лічаць, што спалучэнне **дй* змянілася на мяккую афрыкату, якая, зацвярдзеўшы, дайшла да нас у беларускай мове: **водйǫ→ваджу, *глęдйǫ→гляджу, *сǫдйǫ→суджу.* Другія думаюць інакш: ва ўсіх усходніх славян спалучэнне **дй,* змяняючыся, супала з *ж,* а пазней, у пісьмовую пару, пад уплывам аднакаранёвых слоў (іх форм) з *д,* на месцы *ж* у беларускай мове з'явіўся складаны гук *дж:* пад уплывам *аглядаць, аглядаю* і падобных у форме *гляджу* на месцы *ж* узнік *дж.*

Пераважная большасць гісторыкаў мовы лічыць, што першае меркаванне найбольш пераканаўчае.

Беларуская і руская мовы належаць да ўсходнеславянскіх. А між тым у рускай мове ёсць далёка не адзінкавыя словы, у якіх на месцы былога **дй* не *ж* і не *дж,* а *жд: награжденный, осужденный, предупреждение, между* і інш. Як ужо адзначалася, у стараславянскай мове на месцы былога спалучэння **дй* узнікла *жд.* Руская мова на працягу стагоддзяў была пад вельмі значным уплывам старaславянскай. З яе і праніклі ў рускую мову словы тыпу *осуждение, возбуждение, награждение, предупреждение, наслаждение, между, нужда, блуждать.* Такім чынам, у рускай мове словы тыпу *вождь, рождение* — старaславянізмы.

**§ 36. Змяненне спалучэння *тй (*tj). Узнікненне чаргавання т:ч.** Змяненне спалучэння **тй* — таксама агульнаславянская з'ява, але вынікі гэтага змянення розныя ва ўсіх славян:

| | | |
|---|---|---|
| **тй (*tj)* | *ч* | — у ўсходніх |
| | *ц* | — у заходніх |
| | *щ(шт)* | — у паўднёвых |

Прыклады з сучасных славянскіх моў:

бел. (усх.-сл.): *мачаха, скарачу, заплачу, свечка;*
польск. (зах.-сл.): *macocha, skrócę, zapłacę, świeca;*
балг. (паўдн.-сл.): *мащеха, съкращавам, заплащам, свещ.*

Такім чынам, змяненне **тй→ч* у мове ўсходніх славян выклікала гістарычнае чаргаванне *т:ч (кароткі — скарачэнне, плата — плачу, лётаць — лячу).* Такое чаргаванне заканамерна ўласцівае і ўкраінскай, і рускай мовам. Але ў рускай мове замест чаканага *ч* нярэдка сустракаем *щ: сокращение, освещение, воплощение, просвещение;* гэта — запазычаныя рускаю моваю старaславянізмы.

**§ 37. Змяненне спалучэнняў «губны +й(*j*)». Узнікненне чаргавання губнога са спалучэннем «губны+*л′*».** Спалучэнні «губны *(б, в, м)+й (j)»* у праславянскай мове былі на пачатку і ў сярэдзіне слоў. Ні ў адной славянскай мове такія спалучэнні не захаваліся. На пачатку слова яны паслядоўна змяніліся на спалучэнні «губны+ + *л′*» ва ўсіх славян (напрыклад, у словах *блюда, пляваць)*.

Што ж да спалучэнняў «губны+ *й(j)»* у сярэдзіне слова, то:

ва ўсходніх і паўднёвых славян паслядоўна развілося спалучэнне «губны+*л′»* (гэты *л′* называюць l-epentheticum): бел., руск., укр. *люблю, сыплю, купля;* з паўднёваславянскіх моў толькі ў сучаснай балгарскай непаслядоўна маем «губны + *л′»: объявление, оскърбление, изумление* (але *земя, купя);* мяркуюць, што ў частцы слоў у балгарскай мове l-epentheticum пераважыў страту;

у заходніх славян губны асіміляваў *й (j)* і памякчыўся: польск. *ziemia, lubię, sypię.*

Узнікла гістарычнае чаргаванне губнога са спалучэннем «губны+*л′»: б : бл′, в : вл′→в : ўл′, м : мл′, п : пл′*; паводле ўзору (пасля з'яўлення губнога *ф* з пранікненнем запазычанняў тыпу *графіць)* узнікла чаргаванне *ф : фл′: размова — размаўляць, грабу — граблі, лавіць — лаўлю, карміць — кармлю, купіць — куплю, графіць — графлю.*

Зычны l-epentheticum пры вызначэнні марфалагічнай структуры слова ад кораня не аддзяляецца: *сыпл-ю, ламл-ю, грабл-і, зямл-я*[8].

**§ 38. Змяненне спалучэнняў *лй (**lj*), *нй (**nj*), *рй (**rj*).** Сярод спалучэнняў, змененых пад уплывам наступнага *й (j),* адзначаныя займаюць асобнае месца: толькі ў іх зычны, памякчоны наступным *й (j),* супаў са сваім жа парным мяккім: *л→л′, н→н′, р→р′*, прычым наступны *й (j)* асіміляваўся папярэднім *л, н, р: *лй→л′й→л′, *нй→н′й→н′, *рй→р′й→р′*. Некалькі прыкладаў: **полйǫ→пол′ǫ→пол′у (→пал′у), *гонйǫ→*гон′ǫ→гон′у (→ган′у), *творйǫ→твор′ǫ→твор′у (→твару).*

Так узнікла гістарычнае чаргаванне *л : л′ (палоць — палю), н : н′ (гнаць — ганю), р : р′.*

---

[8] У словах тыпу *руплівы, сарамлівы* зычны *л* не адносіцца да кораня, ён — частка суфікса; параўн.: *туж-лів-ы, палах-лів-ы, свар-лів-ы.*

Асобна трэба сказаць пра чаргаванне *р : р'*. Узнікшы ў агульнаславянскай мове, яно яшчэ ў старажытнай беларускай мове страцілася ў сувязі з зацвярдзеннем *р*. Былыя *вечеръ, вечеря* атрымалі гучанне *вечар, вячэра*.

**§ 39. Змяненне ў групах *дт (*dt), *тт (tt). Узнікненне гістарычнага чаргавання *д : с', т : с'*.** У сучаснай беларускай мове ёсць гістарычнае чаргаванне *д : с', т : с'*, якое можна бачыць на прыкладах: *пляту — плесці, кладу — класці, праду — прасці, мяту — месці*. Гэта гістарычнае чаргаванне з'явілася вынікам змянення, выкліканага дзейнасцю закону адкрытага склада.

Формы *пляту* і *плесці* ўтвораны ад *плет-*. У інфінітыве *(плесці)*, з яго сталаю прыметаю *-ти*, былі побач два *т*: **плетти*. Першы склад *плет-* быў закрыты, і ў спалучэнні *тт* адбылася дысіміляцыя; папярэдні выбухны *т* замяніўся фрыкатыўным, працяжным *с'*, які, як вядома, прыцягнуўся да наступнага склада: *пле-сти*. У выніку першы склад стаў адкрытым і ўзнікла чаргаванне *т : с'*.

Гэта самае адбылося і ў форме *кладти*, дзе зычны *д*, прыпадобніўшыся да наступнага *т*, супаў з *т*, а потым замяніўся працяжным *с'*: **кладти→*клатти→класти*[9] *(→класці)*.

Разгледжанае чаргаванне ёсць і ў такіх, напрыклад, парах, як *ведаць — вестка, валодаць — воласць, страдаць — страсці, іду — ісці, праду — прасці, ненавідзець — нянавісць, клятва — клясці*.

Дысіміляцыя ў групах **дт, *тт* — гэта агульнаславянскае фанетычнае змяненне.

**§ 40. Спрашчэнне ў спалучэннях (групах) зычных. Узнікненне чаргавання зычнага з нулём гука.** Спрашчэнне ў групах зычных, якое разумеюць як страту аднаго зычнага з групы, — агульнаславянскае змяненне. У агульнаславянскім **сънпъ* першы склад быў закрыты, яго «замыкаў» зычны, што знаходзіўся перад наступным зычным (група **пн)*; у выніку дзейнасці закону адкрытага склада першы зычны (*п*) выпаў, усе склады сталі адкрытыя: **сънпъ→сънъ*[10].

У агульнаславянскую эпоху змяніліся таксама групы **бв, *бн, *дн, *дм, *пн* і інш.

---

[9] З часам зычны *т'* у гэтым слове, як і ўсякі *т'*, змяніўся, ператварыўшыся ў афрыкату *ц'*: *класці*. У сучасных *кладзеш* і *класці* чаргуецца не *д : с'*, а *дз' : с'*, дзе *дз'* — з былога *д'*.

[10] Далейшыя фанетычныя працэсы яшчэ змянілі гукавы склад гэтага слова: *сънъ→сон*.

**бв→б: *обвозъ→обозъ (→абоз);*

**бн→н: *гыбнǫти* (параўн.: *гібець, пагібель)→гынǫти (→гінуць);*

**дн→н: кыднǫти* (параўн.: *кідаць)→*кынǫти (→кінуць);*

**пн→н: *(за) топнǫти→* (параўн.: *тапелец)→*(за)тонǫти (→(за)тануць);*

**дм→м: *пледмен* (параўн.: *плод)→*племę (→племя).*

З далёкай дапісьмовай эпохі да нас дайшло чаргаванне зычнага з нулём гука: *кід-аць — кі-нуць, пагляд-аць — гля-нуць* і інш. Так узніклі варыянты кораняў: *кід-* і *кі-, гляд-* і *гля-, тап* і *то-* (не пад націскам *та-*)..

Яшчэ пра спрашчэнне ў групах зычных. Толькі што ішла размова пра агульнаславянскае спрашчэнне. У гісторыі славянскіх моў вядома таксама спрашчэнне ў спалучэннях зычных як з'ява ўсходнеславянская, г. зн. у дапісьмовую эпоху адбылося і неагульнаславянскае спрашчэнне ў групах зычных. Маюцца на ўвазе спалучэнні **дл* і **тл,* а таксама — **дм* у слове *сем.*

У формах дзеясловаў *кладу* і *клала, пляту* і *пляла* чаргуюцца *д* і *т* з нулём гука. З пункту гледжання сучаснасці тут маем варыянты кораня: *клад-* і *кла-, плят-* і *пля-*. Такія варыянты таксама ўзніклі ў сувязі з дзейнасцю закону адкрытага склада. І ў форме *кладу* і ў форме *клала* быў корань *клад-: *клад-ǫ, *клад-ла;* і ў форме *пляту* і ў форме *пляла* быў корань *плет-: *плет-ǫ, *плет-ла.* Першы склад у формах *клала, пляла* быў закрыты: *клад-ла, плет-ла.* Закон адкрытага склада вымагаў, каб усе склады былі адкрытыя; у згаданых і падобных выпадках страціўся зычны *д* або *т*, у выніку: **клад-ла→клала, *плетла→пляла.* Так атрымалася спрашчэнне спалучэнняў **дл* і **тл* у формах былых нескланяльных дзеепрыметнікаў на *-л-* і ўзнікла чаргаванне зычных *д* і *т* з нулём гука[11].

У заходнеславянскіх мовах спалучэнні **дл, *тл* у формах дзеяслова тыпу *клала, мяла, пляла* і ў іншых катэгорыях слоў захаваліся.

Такім чынам:

ва ўсходнеславянскіх мовах: бел. *клала, пляла, ель*

---

[11] У выніку далейшых змяненняў зычных *д* і *т* узнікла чаргаванне *дз', ц'* з нулём гука: *кладзеш — клала, пляцеш — пляла.*

*(елка), сала, мыла;* руск. *клала, плела, сало, мыло;* укр. *клала, плела, сало, мило;*

у паўднёваславянскіх: балг.: *ела (ель), сало;*

у заходнеславянскіх: польск. *kłałem, plółłem, jodła, sadło, mydło, modły*; чэшск. *vedla, pletla, jedle, sadlo.*

Асобна трэба спыніцца на змяненні групы *дм* у лічэбніку *сем (сёмы)*, што паходзіць з агульнаславянскага *седмь*. Ва ўсходніх славян яшчэ ў дапісьмовую пару ў слове *седмь (седмъи)* зычны *д* выпаў, атрымалася *семь (семъи)*. Старажытныя ўсходнеславянскія помнікі пачатку пісьмовай пары і падаюць *семь, семъи (семыи)*. У іншых славянскіх моўных групах у гэтым слове зычны *д* захаваўся: балг. *седем,* польск. *siedem*. Адкуль жа ідуць супярэчлівыя *семь* і *седьмой* у рускай мове? Парадкавы лічэбнік *седьмой* у рускай мове — са стараславянскай мовы. У беларускай і ўкраінскай мовах ужываецца заканамерная ўсходнеславянская форма без *д:* бел. *сёмы*; укр. *сьомий.*

У беларускай мове ёсць групы слоў са спалучэннямі зычных *дл, тл*. Гэта словы тыпу: 1) *светлы, мятла, сядло;* 2) *здагадлівы, цнатлівы, зіхатлівы;* 3) *кавадла, быдла, заядлы.*

У групе слоў першага тыпу спалучэнні зычных *дл, тл* узніклі пасля страты рэдукаваных: *свѣтьлъи→светлы.* Групу другога тыпу складаюць словы, утвораныя пры дапамозе суфікса *-лів-*. Словы апошняй групы — запазычанні з польскай мовы.

**§ 41. Змяненне ў спалучэннях **гв* (**gv*), **кв* (**kv*) перад *ѣ* з дыфтонга *oi͡*.** Пачатковыя **гв, *кв* перад *ѣ* з дыфтонга *oi͡* аднолькава змяніліся ў мове ўсходніх і паўднёвых славян *(*гв→зв, *кв→цв):*

**гвѣзда→звѣзда (→звязда);*

**квѣтъ→цвѣтъ (→цвет);*

**квѣлити→цвѣлити (→цвяліц'*[12]).

Параўн.: ст.-сл. *звѣзда, цвѣтъ;* сучасныя балг. *звезда, цвят.*

Такое змяненне не развілося ў заходнеславянскіх мовах, у іх захаваліся пачатковыя **гв, *кв (*gv, *kv):* польск. *gwiazda, kwiat;* чэшск. *gvězda, květ.*

У сучаснай беларускай мове паралельна сустракаем:

---

[12] *Цвяліць* — 1. насміхацца, здзекавацца; 2. дражніць (з уласных запісаў на Магілёўшчыне).

*кветка, квецень, квітнець* і *цвісці, зацвітаць, адцвітанне.* Бытаванне слоў з праславянскім **кв* побач са змененым усходнеславянскім *цв (*кв→цв)* можна растлумачыць суседствам беларускай мовы з польскаю і ўплывам апошняй. Можна думаць і інакш: магчыма, у старажытнасці не на ўсёй беларускай тэрыторыі **кв* змянілася на *цв*. Прафесар Ф. П. Філін адзначае, што ў дыялектах усходнеславянскіх моў захавалася спалучэнне *кв.*

**§ 42. Поўнагалоссе.** Старажытныя спалучэнні тыпу **торот (*torot), *толот (*tolot), *терет (*teret), *телот (*telot)* называюць поўнагалоснымі. Поўнагалоссе — фанетычная асаблівасць толькі ўсходнеславянскіх моў. Яно не ўласціва ні заходнеславянскім, ні паўднёваславянскім мовам. Напрыклад: усх.-сл. (старажытныя): *борода, борона, золото, голова, берегъ;* зах.-сл. (польск.): *broda, brona, złoto, głowa, brzeg;* паўдн.-сл. (балг.): *брада, брана, злато, глава, бряг.*

Спалучэнні **оро, *оло, *ере, *ело* ў беларускай мове набылі фанетычныя варыянты:

**оро: ора, аро, ара (горад, сорам, гародзіш, бессаромны, гарады, сарамяжы);*

**оло: ола, ало, ала (солад, золата, салодкі, пазалота, саладкаваты, залацісты);*

**ере: ера, ярэ, яро (серада, бераг, сярэдні, узбярэжны, асяродак, бяроза);*

**ело: ала (ашаламіць).*

Поўнагалоссе не развілося ні ў адной, апрача ўсходнеславянскіх, індаеўрапейскай мове. Гэта з'явілася зыходным пры пошуках адказу на пытанні: з чаго і ў выніку чаго ўзнікла поўнагалоссе? Гісторыкі заўважылі, што нямецкаму *Berg* адпавядае ўсходнеславянскае *берегъ,* літоўскаму *karve — корова,* французскаму *Karl — король;* рэканструявалі (аднавілі) праславянскія формы: **борда, *гордъ, *борна, *голва, *золто, *болто, *бергъ, *мелко.* Першы склад у гэтых (і падобных) словах быў закрыты. Дзейнасць закону адкрытага склада прывяла да змянення: пасля плаўных *р, л* развіваўся рэдукаваны *ъ* ці *ь,* які яшчэ ў дапісьмовы час пад уплывам складаўтваральнага плаўнага падоўжыўся і паступова супаў адпаведна з *о* ці *э (е):*

**борна→*боръна→*борона (→барана);*
**гордъ→*горъдъ→городъ (→горад);*
**холдъ→*холъдъ→холодъ (→холад);*

**золто→*золъто→золото (→золата);*
**бергъ→*берьгъ→берегъ (→бераг);*
**мелко→*молко→молъко→молоко (→малако);*
**шел′мъ→*шелмъ→шелъмъ→шеломъ (→шалом).*

Асобнага тлумачэння вымагае змяненне агульнаславянскага **телт,* якое ва ўсходніх славян набыло гучанне **толот* або **телот,* але не **телет.* У дыялектах агульнаславянскай мовы-асновы, з якіх узнікла ўсходнеславянская мова, зычны *л* у спалучэнні **телт* зацвярдзеў, пад уплывам цвёрдага лабіялізаванага *л* галосны *э (е)* лабіялізаваўся і перайшоў у *о: *мел′ко→*мелко→*молко.* Спалучэнне **толт* перажыло далейшае змяненне: **толт→*толът→*толот.* Такім чынам: **мелко→*молко→*молоко (→малако).* Калі ж у спалучэнні **телт* першым зычным быў мяккі шыпячы, то *э(е)* не пераходзіў ў *о,* а пасля зацвярдзелага *л* узнікаў *ъ,* які пераходзіў у *о: *шел′мъ→шелмъ→*шелъмъ→шелом.*

Былыя праславянскія **торт, *толт, *терт, *телт* не захаваліся таксама ў заходнеславянскіх і паўднёваславянскіх мовах. Дзейнасць закону адкрытага склада ў гэтых мовах выклікала перастаноўку папярэдняга плаўнага і наступнага галоснага. У выніку ў польскай мове, напрыклад, атрымалася:

**борда→брода (broda);*
**голва→глова (głowa);*
**золто→злото (złoto);*
**бергъ→брегъ→бжег (brzeg);*
**мелко→млеко (mleko).*

У балгарскай мове галосны *о* падоўжыўся і супаў з *а (*толт, *торт→тлат, трат):*

**голва→глова→глава;*
**золто→злото→злато;*
**болто→блото→блато;*
**гордъ→гродъ→град;*
**ворна→врона→врана;*
**бергъ→брегъ→брягъ.*

Перанятае са старажытнай усходнеславянскай мовы поўнагалоссе шырока ўжывалася ў старажытнай беларускай мове; яго адлюстроўваюць беларускія пісьмовыя помнікі: *полочаны, полочьскую* (Гр. Герд.), *бороните* (Гр. Як.), *волости* (Гр. 1300), *оборонять* (Даг. Пол.) *стерега, Новугородку, у Городьнѣ, городы, Дорогичинъ* (Вілен. л.), *соромотили* (Стр. Хр.), *молодицу* (Тры кар.), *выволокли* (Кн. пас.), *молоденьцомъ* (Руф), *нагорожэня*

*(узнагароджання)* (Ст. літ. 1566), *молодшое, жеребицу* (Акт. Брэсцк.) *волоцюга, морокъ, головнѣишее, (з тамтои) стороны, полонъ, полонѣ, толокно, соромъ, солодкость, ворогъ, солома* (Зіз. Лекс.), *огородныя* (Баркул. л.), *ворогъ, ворогую* (Бяр. Лекс.).

Калі параўнаць колькасць слоў з поўнагалоснымі спалучэннямі ў сучасных беларускай і рускай літаратурных мовах, то такіх слоў выявіцца больш у беларускай мове; у рускай ім звычайна адпавядаюць словы з няпоўнагалоснымі спалучэннямі.

| У беларускай мове | У рускай мове |
|---|---|
| *асалода* | *наслаждение* |
| *бярэмя (абярэмак)* | *бремя* |
| *варожасць* | *враждебность* |
| *варожы* | *враждебный* |
| *вораг* | *враг* |
| *галосны* | *гласный* |
| *галоўны* | *главный* |
| *кароткі* | *краткий* |
| *скарачэнне* | *сокращение* |
| *норавы* | *нравы* |
| *палон* | *плен* |
| *палонны* | *пленный* |
| *прыбярэжны* | *прибрежный* |
| *салодкі* | *сладкий* |
| *серада* | *среда* |
| *сярэдні* | *средний* |
| *скарачэнне* | *сокращение* |
| *сарамоцце* | *срамота* |
| *сорам* | *срам* |
| *узнагарода* | *награда* |

Яшчэ словы з няпоўнагалоссем: *время, вратарь, здравый, младенец, нравиться, праздный, праздник, странный, пространство, прах, прохлаждаться* і іншыя, што ўжываюцца ў рускай мове.

Названыя тут словы з няпоўнагалоснымі спалучэннямі — гэта запазычанні са стараславянскай мовы, якая зрабіла вялікі ўплыў на рускую; у рускай мове, напрыклад, нават назва дня *серада* замянілася стараславянскім *среда;* вітанне *здравствуй(те)* — таксама старасла-вянізм.

§ 43. **Змяненне пачатковых спалучэнняў *орт (*ort), *олт (*olt).** Праз параўнальнае вывучэнне славянскіх і іншых індаеўрапейскіх моў вызначана, што словы тыпу *розум, робіш, лодка, локаць, ратай* у эпоху агульнаславянскай мовы-асновы мелі іншы пачатак. Як і нямецкае *Arbeit,* наша *робіш* пачыналася са спалучэння **орб* (ці **арб);* як і нарвежскае *olda,* пачыналася з **old* наша слова *лодка;* як і літоўскае *ortojas,* пачыналася з **орт* (ці **арт)* наша *ратай*[13]. Што ж адбылося? У сувязі з дзейнасцю закону адкрытага склада пачатковы галосны і наступны плаўны памяняліся месцамі, **орт, *олт* змяніліся на *рот (рат), лот (лат).* На месцы былых **орт, *олт* замацаваліся пачатковыя *рот* ці *рат, лот* ці *лат* ва ўсіх славянскіх мовах. Толькі ў адзінкавых выпадках адсутнічае паказаная перастаноўка, напрыклад у старaславянскай мове: *алъкати, алъчьнъ, алъдии;* тут пасля плаўнага *л* развіўся рэдукаваны галосны.

Пры ўзыходным націску (узыходнай інтанацыі) на пачатковым *о* са спалучэнняў **орт, *олт* узніклі *рат, лат.* Былое **ордло (→орло)* змянілася на ўсходнеславянскае *рало* (бел. *рала),* заходнеславянскае *radło* (польск.), *rádlo* (чэшск.), паўднёваславянскае *рало* (балг.).

Пры зыходным націску (зыходнай інтанацыі) спалучэнні **орт, *олт* змяніліся на *рот, лот.* Так, былое **олкъть* змянілася ва ўсходніх славян на *локъть* (бел. *локаць,* руск. *локоть);* у заходніх — *łokieć* (польск.), *loket* (чэшск.); ў паўднёваславянскіх мовах тут узнікалі *рат, лат:* ст.-сл. *лакть, рабъ, работа.*

У беларускай мове заканамерна замацаваліся ўсходнеславянскія *розум, роўны, роўнасць, розныя, розніца, робіш, лодка.* У ненаціскных *рот, лот* у сувязі з аканнем у беларускай мове ўзнік галосны *а: розум — разумны, роўны — параўнаць, роскідка — раскідаць.* У рускай мове ў сувязі з аканнем таксама з'явіліся варыянты прыстаўкі *роз* і *рос: розыск, росписи, раздавать, разогнать, разгромить.* Ёсць, аднак, у рускай мове група слоў, у якіх на месцы ўсходнеславянскіх *рот, лот* вымаўляецца *рат, лат: разница, разум, равенство, равный,*

---

[13] *Каб я быў крылатай птушкай, не ляцеў бы я ў гай, пеў бы песні весялушкай там, дзе слёзы лье ратай* (М. Чарот).

*работа* і некаторыя іншыя. Гэта — стараславянізмы ў рускай мове, вынік уплыву стараславянскай мовы.

**§ 44. З гісторыі насавых галосных. Узнікненне чаргавання галоснага з насавым зычным або галоснага са спалучэннем «галосны+насавы зычны».** У агульнаславянскай мове былі два насавыя галосныя — *ǫ (он)* і *ę (эн)*. Іх узнікненне тлумачыцца дзейнасцю закону адкрытага склада, утварэннем з двух гукаў аднаго. Калі спалучэнне «галосны+насавы зычны» *(он, ом, ън, ъм, ен, ем, ін, ім, ьн, ьм)* знаходзілася перад наступным зычным *(*мента, *пенть, *жьнти)* або на канцы слова *(*сёмен, *имен, *идон)*, насавы зычны закрываў склад; спалучэнне галоснага з насавым зычным змянялася, з двух гукаў утвараўся адзін гук — галосны, які вымаўляўся ў нос: **(по)чьнти→*(по)чęти, *мента→*мęта, *пенть→*пęть, *жьнти→*жęти, *сёмен→сѣмę, *имен→*имę, *идон→*идǫ*. Калі ж спалучэнне «галосны+насавы зычны» стаяла перад галосным, то яно захоўвалася, насавы галосны не ўтвараўся: *имене* (форма роднага склону назоўніка *імя), починати*.

Такім чынам, у агульнаславянскай мове ўзнікла чаргаванне насавога галоснага са спалучэннем «галосны+насавы зычны»: **почęти — починати, *жęти — *жьнǫ, *възęти — *възьмǫ, *имę — имене*.

У IX—X стст. у агульнаўсходнеславянскай мове насавыя *ǫ, ę* перажылі дэназалізацыю — змяненне, у выніку якога ператварыліся ў ненасавыя; *ǫ* супаў з *у*, *ę* — з *а(я)*: **сǫдъ→судъ, *голǫбь→голубь, *жęти→жати, *възęти→възяти*. Адпаведна змянілася і чаргаванне: калі раней чаргаваўся насавы галосны са спалучэннем« галосны+насавы зычны», то з X ст. чаргуецца галосны *а* або *у* са спалучэннем «галосны+насавы зычны»: **възęти — *възьмо (ę : ьм), *почęти — починати (ę : ин); възяти — възьму (а : ьм), почати — починати (а : ин)*.

Насавыя галосныя засведчылі пісьмовыя помнікі на стараславянскай мове; насавы *ǫ* абазначаўся літарай ѫ (ётавы — ѭ), насавы *ę* — ѧ (ётавы — ѩ).

У мове нашых заходніх суседзяў — палякаў насавыя галосныя захаваліся: *bądź (ą=ǫ), sǫd, wodą, pamięć, pięć, część, szczęście*.

Ужо гаварылася, што ў IX—X стст. ва ўсходнеславянскай мове насавы *ǫ* супаў з *у*, а насавы *ę* — з *а*. У мове беларускай народнасці ў некаторых словах на месцы *а* з *ę* з'явіўся галосны *э (е): запрэгчы, дрэнь (дрэнны)*,

*агледзець (агледзіны), трэсці (растрэсці)* і некаторых іншых. Галосны *э (е)* узнік, відаць, пад уплывам такіх дзеясловаў, як *забегчы, залегчы, залезці,* а таксама *несці, занесці, месці, падмесці.*

**§ 45. З'яўленне *о* на месцы пачатковага *йэ, (*je).** Сучасныя беларускія словы *алень, адзін (адзіны, адзінкавы, адзіночны, адзінка), восень, возера, вожык, ажына, асятрына* і некаторыя іншыя ў агульнаславянскай мове мелі пачатковае спалучэнне *йэ (*je).* Гэта пачатковае *йэ захавалася ў паўднёва- і заходнеславянскіх мовах: *польск. jeden, jesień, jezioro;* балг. *един, есен, езеро.* Ва ўсходніх славян адбылася страта пачатковага *й (j),* а *э (е)* перайшоў у *о.* Такі пераход звычайна адбываўся пры ўмове, калі ў наступным складзе быў галосны *і* ці *э (е).* Такім чынам, агульнаславянскія *ѥлень, ѥсень, ѥдинъ, ѥзеро* змяніліся ў мове старажытных усходніх славян на *олень, осень, одинъ, озеро.* Што да *единый, единица, единство* ў рускай мове, то гэта запазычанні са стараславянскай.

У мове беларускай народнасці пачатковае *о* не пад націскам змянілася на *а* (аканне): *олень→ален', одинъ→адзін, озера→азёры, осетрь→асётр,* а перад пачатковым націскным *о* развіўся прыстаўны *в: вожык (ожикъ←йежь), восен' (осень←ѥсень).*

Паказаны пераход *йэ ў *о* пашырыўся і на запазычаныя (у грэкаў) у далёкай старажытнасці імёны: *Елена→Олена→Алена, Евстафиос→Остап→Астап, Ефраим→Охрем→Ахрэм.*

**§ 46. Цвёрдыя, мяккія і памякчоныя зычныя.** У агульнаславянскай мове паводле цвёрдасці і мяккасці зычныя былі цвёрдыя, мяккія і памякчоныя. Заднеязычныя *г, к, х* былі толькі цвёрдыя. Зычныя *б, в, д, з, л, м, н, п, р, с, т* перад галоснымі задняга рада *а, о, у, ы, ъ, ǫ* былі цвёрдыя, а перад галоснымі пярэдняга рада *і, э, ę, ě, ь* — памякчоныя, г. зн. цвёрдыя зычныя былі парныя з памякчонымі: *б — б·, в — в·, д — д·, з — з·, л — л·* і інш. Мяккія былі ўсе шыпячыя, а таксама *р, л, н,* якія стаялі ў слове перад наступным *j (й).* Такім чынам, парныя паводле цвёрдасці-мяккасці былі толькі тры гукі: *р, л, н* (у пазіцыі перад галоснымі задняга рада) і *р', л', н'* (у пазіцыі перад наступным *j*). Парнасці цвёрдых і мяккіх зычных, уласцівай сучаснай беларускай мове, у агульнаславянскай мове не было.

Ва ўсходнеславянскай мове, да ўтварэння трох асоб-

ных усходнеславянскіх моў, адбылося змяненне памякчоных зычных, у выніку якога яны сталі мяккімі. Узніклі пары паводле цвёрдасці-мяккасці зычных: *б — б′, в — в′, г — г′, д — д′, з — з′, к — к′, л — л′, м — м′, н — н′ п — п′, р — р′, с — с′, т — т′, х — х′*. Такая парнасць цвёрдых і мяккіх гукаў захавалася ў рускай мове. У беларускай мове палаталізацыйныя працэсы працягваліся. Адбылося далейшае памякчэнне свісцячых *з* і *с*. Без асаблівай цяжкасці можна заўважыць большую ступень мяккасці *з′, с′* у беларускай мове, чым у рускай (у адных і тых словах): *сем — семь, вясёлы — веселый, пасёлак — поселок.* Месца ўтварэння беларускіх мяккіх *з′, с′* больш набліжанае да сярэдняга паднябення, чым адпаведных рускіх *з′, с′*. У беларускай мове з былога мяккага *д′* развіўся больш мяккі свісцячы зычны *дз′*, а з мяккага *т′* — больш мяккі свісцячы зычны *ц′* (так званае дзеканне і цеканне, гл. § 84): *дз′ац′эл* — з *д′ат′эл, дз′эн′* — з *д′эн′, дз′в′эс′ц′э* — з *д′в′эс′т′э.*

**§ 47. Чаргаванні галосных.** З агульнаславянскай мовы перайшлі як спадчына ва ўсходнеславянскую гістарычныя чаргаванні галосных. Пераважная большасць іх так ці інакш дайшла да нас у беларускай мове.

Коратка пакажам некаторыя з гэтых чаргаванняў:

*э (е) : о — везти* і *возъ, плести* і *плотъ, нести* і *носити, вести* і *водити* (сучасн. *везці* і *воз, плесці* і *плот, несці* і *насіць, весці* і *вадзіць);*

*ь : о — бьрати* і *съборъ, шедли* і *ход* (сучасн. *браць* і *збор, ішлі* і *ход);*

*ь : і — събьрати і събирати* (сучасн. *сабраць* і *збіраць);*

*ъ : ы — мъеши* і *мыти, въеши* і *выти* (сучасн. *мыеш* і *мыць, выеш* і *выць*);

*ѣ : а — сѣсти (сѣдти) і садити, лѣзти* і *лазити* (сучасн. *сесці* і *садзіць, лезці* і *лазіць);*

*ы : у — *выкнǫти* і *наука, дыхати* і *духъ* (сучасн. *прывыкнуць* і *навука, дыхаць* і *дух);*

*ę : ǫ→а : у — *вęзати* і **ǫзлъ→везати* і *узлъ; *трęсти* і **трǫсъ→трясти* і *трус* (сучасн. *вязаць* і *вузел, трэсці* і *трус).*

## ФАНЕТЫЧНЫЯ ЗМЯНЕННІ ПІСЬМОВАЙ ЭПОХІ

### Рэдукаваныя *ъ, ь*

**§ 48. Характарыстыка рэдукаваных ъ, ь.** Гукі *ъ, ь* — галосныя няпоўнага ўтварэння, іх называюць рэдукаванымі. Галосны задняга рада *ъ* быў блізкі да *о,* але карацейшы за *о* і невыразны; галосны *ь* — карацейшы за *э (е)* і таксама невыразны. Рэдукаваныя *ъ, ь* па-рознаму вымаўляліся ў залежнасці ад пазіцыі. Калі рэдукаваны знаходзіўся на канцы неаднаскладовага слова (*смакъ, пьнь*) ці перад складам з галосным поўнага ўтварэння (г. зн. перад складам з любым галосным, толькі не з рэдукаваным), то ён быў асабліва кароткі і невыразны. Такі рэдукаваны акрэсліваюць як рэдукаваны ў слабай пазіцыі — як слабы рэдукаваны. А рэдукаваны пад націскам (*мъ́хъ, пь́нь*), а таксама перад складам са слабым рэдукаваным быў у моцнай пазіцыі, г. зн. моцны рэдукаваны. Рэдукаваны быў у слабай пазіцыі таксама перад наступным складам з рэдукаваным у моцнай пазіцыі. Практычна вызначэнне пазіцыі рэдукаваных у слове зручней пачынаць з канца слова. У слове *ло́къть* рэдукаваны *ь* быў у слабай пазіцыі, бо знаходзіўся на канцы слова, рэдукаваны *ъ* — у моцнай пазіцыі, бо стаяў перад складам са слабым рэдукаваным *ь*. У слове *кънижька* абодва рэдукаваныя былі ў слабай пазіцыі, бо пасля іх ішлі склады з галоснымі поўнага ўтварэння *і, а*. У слове *съмь̀рть* канцавы *ь* быў у слабай пазіцыі, *ь* у другім складзе — у моцнай пазіцыі, бо знаходзіўся пад націскам (а таксама перад складам са слабым рэдукаваным), рэдукаваны *ъ* — у слабай, бо ў наступным складзе быў рэдукаваны *ь* у моцнай пазіцыі.

На прыкладах лёгка заўважыць, што пры змене слова моцны рэдукаваны мог апынуцца ў слабай пазіцыі і наадварот. Так, у форме *съ́нъ* рэдукаваны *ъ* пасля *с* быў у моцнай пазіцыі — пад націскам, а ў форме *съну* — у слабай, бо наступны склад меў галосны поўнага ўтварэння *у*; *ъ* быў у слабай пазіцыі пасля *с* і ў форме *сънъ́мь* (творны склон), бо знаходзіўся перад складам з моцным (націскным) *ъ*. Яшчэ прыклад: *пь́нь* і *пьнь́мь;*

у першай форме *ь* пасля *п* быў моцны, у другой — слабы (перад складам з моцным рэдукаваным). Такім чынам, у старажытнай мове было фанетычнае (пазіцыйнае) чаргаванне моцнага рэдукаванага са слабым.

**§ 49. Лёс рэдукаваных *ъ, ь*.** На пачатку пісьмовага перыяду ўсходнеславянскай мовы-асновы рэдукаваныя *ъ, ь* былі асобнымі фанемамі. З сярэдзіны XI ст. гэтыя гукі пачалі змяняцца, у выніку к канцу XII ст. іх не стала. У слабай пазіцыі *ъ, ь*, паступова аслабляючыся, зусім страціліся, зніклі; у моцнай пазіцыі, паступова ўзмацняючыся, яны супалі з галоснымі поўнага ўтварэння: *ъ→о, ь→э (е): сънъ→сон, пьнь→пен′, сънъмь→сном, пьньмь→пнем′→пнём, локъть→локот′→локац′.*

З часам у беларускай мове галосныя *о, э (е),* што развіліся адпаведна з *ъ, ь,* перажылі новае змяненне, у выніку на месцы былога *ъ* сустракаем не толькі *о,* а на месцы *ь* — не толькі *э (е)*. Так, у слове *кубак (кубъкъ)* канцавы *ъ* страціўся, а пасля *б* супаў з *о*, які з развіццём акання супаў з *а*. Такім чынам: *кубъкъ→кубок→кубак,* г. зн., на месцы былога *ъ* маем галосны *а (ъ→о→а)*. Сучасная форма роднага склону *ручак* — з былога *ручькъ,* дзе слабы рэдукаваны *ъ* страціўся, моцны рэдукаваны *ь* паступова супаў з *э (е),* які ў сваю чаргу змяніўся на *о*, а потым — на *а: ручькъ→ручек→ручок→ручак (ь→э→о→а)*.

Страту слабых і ўзмацненне моцных *ъ, ь* нельга разглядаць як два асобныя працэсы, гэта два бакі аднаго працэсу — змянення гэтых галосных няпоўнага ўтварэння. Прычыну страты (падзення) і праяснення рэдукаваных дасюль з пэўнасцю не ўдалося высветліць. Прывядзём толькі адно з вядомых меркаванняў. У агульнаславянскай мове-аснове націск быў іншы, чым у сучасных беларускай, рускай, украінскай мовах, — ён меў музычны характар; націскны склад (націскны галосны) адрозніваўся ад ненаціскных не толькі сілаю голасу, а і павышэннем ці паніжэннем тону. У адных славянскіх мовах (беларуская, руская) націск стаў дынамічным: націскны склад адрозніваецца ад ненаціскных большаю напружанасцю артыкуляцыі, большаю выдыхальнаю сілаю. У другіх славянскіх мовах (напрыклад, у сербахарвацкай) ён стаў дынамічна-музычным. Змяненне ў характары націску прывяло да пераразмеркавання выдыхальнай сілы пры вымаўленні слова, адны склады ўзмацняліся, другія паслабляліся. У выніку рэдукаваныя

ў моцнай пазіцыі яшчэ больш узмацняліся і паступова супалі з галоснымі поўнага ўтварэння, рэдукаваныя ў слабай пазіцыі паступова паслабляліся і нарэшце зніклі.

Страта рэдукаваных *ъ, ь* выклікала новыя фанетычныя змяненні ў словах. Гэтыя змяненні адбіліся і на вакалізме і на кансанантызме. Узніклі новыя фанетычныя асаблівасці, якія захаваліся ва ўсіх усходнеславянскіх мовах (напрыклад, беглсць галосных). Пасля страты рэдукаваных з'явіліся таксама фанетычныя асаблівасці, уласцівыя не ўсім усходнеславянскім мовам (напрыклад, падаўжэнне зычных).

## Вынікі страты рэдукаваных *ъ, ь* у вакалізме

**§ 50. Бегласць галосных.** Бегласць галосных — гэта гістарычнае чаргаванне галоснага з нулём гука: *свісток — свісткі, кніжак — кніжка, ваўчок — ваўчка, пень — пнём.* Бегласць галосных — адзін з непасрэдных вынікаў страты і праяснення рэдукаваных галосных. У адной і той аснове рэдукаваны мог быць то ў моцнай, то ў слабай пазіцыі: *сътьня — сътó, коньць — коньця́.* Моцны праясніўся ў галосны поўнага ўтварэння, слабы страціўся: *сотня — сто, канец — канца.* Такім чынам на змену чаргаванню моцнага рэдуканага са слабым і прыйшло чаргаванне галоснага з нулём гука.

З нулём гука галосны чаргуецца таксама ў словах тыпу *бајэ́ц — байца́, акра́јэц — акрайца, кіјо́к — кіјка́, гајо́к — гајка́.* Галосныя *э (е)* і *о(ё)* адпавядаюць моцнаму рэдукаванаму *ь*, а нуль гука — слабаму: *бојьць — бојьца́.*

У сучаснай беларускай мове ведаем прыназоўнікі *пад* і *пада, з* і *са,* прыстаўкі *пад-* і *пада-, з-* і *са-* і падобныя. *Пад* і *пада (пад-* і *пада-)* нельга разглядаць як асобныя прыназоўнікі (прыстаўкі), гэта — варыянты прыназоўнікаў (прыставак), якія не адрозніваюцца сваім значэннем. Параўн.: *над намі* і *нада мною, з намі* і *са мною, пад вамі* і *пада мною; збіраць* і *сабраць, адбіраць* і *адабраць, падбіраць* і *падабраць.*

Да змянення рэдукаваных прыназоўнікі (прыстаўкі) *над (над-)* і *нада (нада-), пад (пад-)* і *пада (пада-), з (з-)* і *са (са-)* не адрозніваліся гукавым складам. Напрыклад, *пад (пад-)* і *пада (пада-)* — з *подъ.* Рэдука-

ваны, на які канчаўся прыназоўнік (прыстаўка), мог быць то ў моцнай, то ў слабай пазіцыі:

*събьра́ти→соб'рат'→сабрац';*
*събира́ти→сбират'→з'бірац';*
*надъ мънóю→надо мною→нада мною;*
*надъ→над намі.*

Змяненне рэдукаваных *ъ, ь* прывяло да ўзнікнення варыянтаў кораня (*пен' — пн-я, сон — сн-у, за-мок — за-мк-нуц'*) і суфікса (*гуд-ок — гуд-к-а, рэч-ак — рэч-к-а*).

Асобныя словы маюць варыянты кораня нават у адной і той граматычнай форме, напрыклад: *лёну* і *ільну, моху* і *імху*. Гэтыя два варыянты адрозніваюцца наяўнасцю прыстаўнога галоснага (гл. § 51) і наяўнасцю ці адсутнасцю галоснага ў корані:

*ль́н-у→лéн-у→лёну;*
*льн-ý→л'н-ý→іл'н-ý;*

*мъ́ху→мóх-у;*
*мъхý→мх-ý→імх-ý.*

Абодва гэтыя варыянты літаратурныя, але перавагу мае першы: *лёну, моху*.

Сустракаюцца ў мове выпадкі адсутнасці беглясці галосных там, дзе яна павінна была ўзнікнуць. У слове *шьвьць* у моцнай пазіцыі быў толькі другі з трох рэдукаваных, таму чакалася *швец*, але замацавалася ў беларускай мове *шавец*. Тут адбылося выраўноўванне кораня ў назоўным склоне паводле ўскосных склонаў (*шьвьця* — Р., *шьвьцю* — Д. і г. д.), дзе рэдукаваны пасля *в* быў слабы і страціўся, а пасля *ш* — моцны, гэты моцны затым змяніўся: *ь→э→а*, г. зн. у формах ускосных склонаў заканамерна ўзнік у корані *а: шав(ў)-ца, шав(ў)-ц-у* і г. д. Так замест *швец* замацавалася *шавец*, дзе галосны *а* (пасля *ш*) не беглы. Гэтак адбылося і ў цэлай групе слоў, якія з'яўляюцца тапонімамі: *Мінск, Пінск, Смаленск, Бабруйск, Глуск, Клецк, Слуцк, Друцк, Полацк, Лагойск, Віцебск* і інш. Растлумачым, як прыклады, толькі два першыя: *Мінск — з Мѣньскъ, Пінск — з Пиньскъ*. Заканамерна ў назоўным склоне павінна была ўзнікнуць аснова *Менеск, Пінеск*. Ва ўскосных склонах узнікала аснова: *Мѣньск-а→Менск-а, Мѣньск-у→Менск-у; Пиньск-а→Пінск-а, Пиньск-у→Пінск-у* і г. д. Аснова назоўнага склону (*Менеск, Пінеск*) выраўнавалася паводле асновы ўскосных склонаў, беглясці не стала.

Ад разгледжаных прыкладаў, дзе няма беглага га-

лоснага, трэба адрозніваць словы тыпу *корань — кораня, камень — каменя, попел — попелу, лёд — лёду, роў — рова, рэмень — рэменя*, у якіх таксама няма бегласці. У гэтых словах галосны *э (е), о* паходзіць не з рэдукаванага *(камень, по(е)пелъ, ледъ, ровъ)*, значыць, тут заканамерна не павінна была ўзнікнуць бегласць. У рускай мове ў гэтых словах бегласць узнікла *(пепел — пепла, ров — рва)* на ўзор слоў *пень — пня, день — дня.*

**§ 51. Прыстаўныя галосныя.** Адным з вынікаў падзення рэдукаваных *ъ, ь* было развіццё прыстаўных[14] галосных. Узнікшы ў XIII ст., прыстаўныя галосныя з'яўляюцца асаблівасцю і сучаснай беларускай фанетычнай сістэмы. Прыстаўныя галосныя не атрымалі развіцця ў такіх суседніх славянскіх мовах, як руская, польская.

На картах свету на любой мове чытаем назву беларускага горада *Орша*, у якой галосны *о* прыстаўны, не «спрадвечны» *(Орша — з Ръша)*, г. зн. назва горада ўвайшла ў тапаніміку свету з беларускаю фанетычнаю асаблівасцю. Пасля страты слабага рэдукаванага *ъ* (у пазіцыі перад складам з галосным поўнага ўтварэння) узнікла спалучэнне (група) зычных, у якім першы быў плаўны *р*. Перад такога тыпу пачатковымі спалучэннямі і развіўся новы галосны, які называюць прыстаўным.

У гісторыі беларускай мовы вядомыя два прыстаўныя — *о* і *і*:

*Ръша→Рша→$^{о}$Рша→Орша;*

*льгота*[15]*→л′гота→$^{і}$л′гота→іл′гота.*

Прыстаўныя галосныя ўзніклі ў такіх словах, як *Орша, аржаны (а←о), ільготы, ільняны, іржавы, ільвіца, ірдзець, ірваць, іржышча, ілгаць, ільсніцца* і інш.

Ужыванне прыстаўных галосных з часам пашырылася, яны развіліся перад новымі спалучэннямі зычных, якія пачыналіся не толькі плаўнымі *р, л, я* і санорнымі *м, в: імшары* і *імшары (мъш-), імчацца (мъч-), імгненны (мьг-), айторак (вът-)* і інш. Прыстаўныя галосныя стагоддзямі ўжываліся ў вуснай мове, пранікалі ў яе пісьмовую форму. Прыклады з беларускіх тэкстаў XV—XVI стст.: *били и ирвали* (Зб. 391), *ильняными* (Зб.

---

[14] Прыстаўныя гукі называюць яшчэ пратэтычнымі (грэч. *prothesis* — 'надстаўка'). Іх нельга лічыць асобнымі марфемамі пры вызначэнні марфалагічнай структуры слова.

[15] Назоўнік *ільгота* таго самага кораня, што і прыметнік *лёгкі*, прыслоўе *лёгка*, назоўнік *палёгка*, дзеяслоў *аблегчыць;* усе яны — ад кораня *льг-*.

262), *иржыщу* (Ковен. 1566), *иржа* (Цяпінскі), *илвовъ* (Тайна. т.), *надъ ильвомъ* (Атыла), *иржа* (Баркул. л.), *naszto było irwać jabłyk* (Кам. зб. Мараш.). Прыстаўныя замацаваліся як арфаграфічная і арфаэпічная нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Прыстаўныя галосныя з'явіліся і не перад новымі спалучэннямі зычных. Так, напрыклад, прыстаўны галосны ўзнік у словах *груша→ігруша, стужка→істужка, скрыпка→іскрыпка, рабіна→арабіна. Дар'я→Адар'я, ішоў (ішла. ішло. ішлі)* і інш. Наяўнасць прыстаўных у гэтых словах, апрача апошняга, не стала літаратурнаю нормаю, хоць і сустракаецца ў друку *ігруша, Адар'я, арабіна;* прыстаўны тут не агульнабеларуская з'ява. Што ж да *ішоў (ішла, ішло, ішлі),* то гэтая дзеяслоўная форма заўсёды і ўсюды ўжываецца з прыстаўным *і,* але развіўся ён (яшчэ ў старажытнасці)[16] не фанетычным шляхам, а ў выніку ўплыву адной асновы на другую. Дзеяслоў *ісці (іду, ідуць)* у адных формах мае корань *ід- (іс-, ідз-),* у другіх — корань *-ш-* ці *-шо-* (у формах прошлага часу і ўмоўнага ладу корань *-ш-* ці *-шо-* — з былога *шьд-);* пад уплывам форм *іду, ідуць, ісці* ў прошлым часе (і ўмоўным ладзе) з'явіўся прыстаўны *і: ішоў, ішла, ішло, ішлі.*

**§ 52. Устаўныя галосныя.** Устаўныя галосныя, як і прыстаўныя, з'явіліся ў пэўных фанетычных умовах. Гэтыя ўмовы з'яўлення ўстаўных галосных можна высветліць на такіх словах, як *вузел, вецер, вугаль, віхор, свёкар.* Ва ўсіх іх на канцы быў рэдукаваны, а перад ім — група зычных з апошнім санорным: *узлъ, вѣтръ, угль, вихрь, свекръ.* Калі рэдукаваны знік, на канцы слова аказалася гэта група зычных. У ёй і ўзнік устаўны галосны *о* ці *э (е): узлъ→(в)узел, вѣтръ→вецер, угль→(в)угаль, вихрь→віхор, свекръ→свёкар, рубль→рубель, журавль→журавель, бобръ→бабёр* (у гаворках і *бобер), корабль→карабель, сестръ* (родны склон множнага ліку) *→сясцёр, осмь→восем.*

Устаўныя галосныя чаргуюцца з нулём гука *(бабёр — бабры, віхор — віхры, агонь — агні),* як і *о, э (е),* што развіліся з рэдукаваных *(сон — сны).*

Запазычаныя словы, якія канчаюцца на групу зычных з санорным, у народна-дыялектнай мове не захоўваюць гэтай групы. Так, напрыклад, запазычанае ў ста-

---

[16] У Баркулабаўскім летапісу (XVI ст.) чытаем: *цѣлую неделю снегъ... кгвалтовныи ишолъ; которые ишли на низъ.*

ражытнасці ад грэкаў імя *Петр* у беларускіх гаворках набыло некалькі фанетычных варыянтаў, але абавязкова не з канцавым *тр; Пётра* (на захадзе і паўночным захадзе Мінскага р-на), *Пятро* (у Любанскім і Слуцкім раёнах),*Пятрусь, Пятрок, Пятрук* (у іншых раёнах). Запазычаныя ў нядаўні час словы *літр, метр* на значнай частцы Беларусі маюць гучанне *літра, метра* (і ўжываюцца як назоўнікі жаночага роду); сустракаецца і другі варыянт — *літар, метар.* Што змяненне *метр→метра (цэлая метра)* выклікана характарам канцавога спалучэння, пацвярджаецца і старажытным змяненнем у словах незапазычаных: *плѣснь→плесн′→плесня; Заславль→Заслаўл′→Заслаўе*; слова *вепрь* дайшло да нас таксама са зменены марфалагічным складам і не канчаецца на групу зычных з плаўным — *вяпрук.*

**§ 53. Падаўжэнне галосных *о, э (е)* у новым закрытым складзе.** Перш чым паказаць названае змяненне, прыгадаем, што: 1) галосныя *о, э (е)* у дапісьмовую пару былі даўжэйшыя за *ъ ь,* але карацейшыя за астатнія галосныя, таму *о, э (е)* называюць нармальна кароткімі; 2) страта рэдукаваных выклікала змяненне ў структуры складоў, узніклі новыя закрытыя склады *(гукъ→гук).*

Пасля страты рэдукаваных галосныя *о, э (е)* у новых закрытых складах падоўжыліся: *волъ→во̄л, конь→ко̄н′.* Падоўжаны галосны *о* ў беларускіх гаворках поўдня, паўднёвага захаду дайшоў да нас як гук, адрозны ад *о:* ён вымаўляецца то як сярэдні паміж *о* і *у* — «закрыты» гук *о(ô),* то як дыфтонг *у͡о* (ці *у͡э, у͡і*). Так, у гаворках Акцябрскага, Глускага, Любанскага раёнаў маем: *двôр, кôт;* паўднёвай Брэстчыны: *ку͡он′, ку͡эн′, ку͡ін′.*

Падоўжаны галосны *э (е)* у гаворках поўдня вымаўляецца як *э,* набліжаны да *і,* ці як дыфтонг *і͡е: пêч* або *пі͡еч, сêм* або *сі͡ем.*

Згаданыя дыфтонгі развіваліся і ў мове ўкраінцаў; у паўночных украінскіх гаворках яны ёсць і сёння, у іншых дыфтонгі змяніліся на *і,* у выніку ўзнікла фанетычнае чаргаванне, уласцівае літаратурнай украінскай мове: *коня — кін′, вола — віл.* Цікава заўважыць, што тыя *о, э (е),* якія паходзяць з рэдукаваных *ъ, ь,* на *і* не змяніліся: *сънъ→сон.*

**§ 54. Змяненне рэдукаваных *ъ, ь* у спалучэннях з плаўнымі. Чаргаванне *ро : ры, ло : лы, ле : лі.*** Адроз-

ніваюцца два тыпы спалучэнняў рэдукаваных з плаўнымі: у адных спалучэннях на першым месцы быў плаўны (умоўна іх абазначаюць так: *трът, тлът, трьт, тльт,* дзе *т* — любы зычны гук); у другіх, наадварот, на першым месцы быў рэдукаваны *(търт, тълт, тьрт, тьлт)*.

Змяненне рэдукаваных у спалучэннях першага тыпу прывяло да ўтварэння чаргавання, уласцівага старажытнай і сучаснай беларускай мове — *ро : ры, ло : лы, ле : лі*[17]. Пакажам яго на такіх словах, як *гром — грымоты, крошка — крышыць, дрогнуць — дрыжаць, кроў — крывавы, дровы — дрывасекі, глотка — глытаць, блохі — блыха, блешня — блішчэць (блішчаць), блеск (бляск) — бліскавіца.*

Моцныя рэдукаваныя *ъ, ь* у спалучэннях *трът, тлът, трьт, тльт,* праясняючыся, супалі адпаведна з *о* і *э (е)*: *кръ́вь→кроў, въ́лна→воўна, гръ́мъ→гром, бль́скъ→блеск.* Калі ж рэдукаваны ў гэтых спалучэннях быў у слабай пазіцыі, ён страціўся: *дръжати→држати, трьвога→трвога, яблъко→яблко;* пасля плаўнага перад наступным любым зычным развіваўся галосны *ы* ці *і*: *држати→дрыжати→дрыжац′, трвати→трівати→трывац′, трвога→трівога→трывога.*

Паказанае змяненне рэдукаваных у спалучэннях *трът, тлът, трьт, тльт* адлюстравалі старажытныя беларускія помнікі: *покрышил* (Бава), *дрыжыць, дрыжачои* (Атыла), *блискаю(т) як блискавица* (Мам. паб.), *на твары рана кривавая, на хрибте рана синевая* (Кн. Слонім.).

У спалучэннях *търт, тълт, тьрт, тьлт* рэдукаваныя *ъ, ь* былі моцныя і пад націскам і не пад націскам. Што пад націскам рэдукаваныя былі моцныя — зразумела: *гъ́рло, къ́рмъ, тъ́ргъ.* Чым тлумачыцца моцная пазіцыя ненаціскных *ъ, ь,* у тым ліку перад складамі з галоснымі поўнага ўтварэння, у такіх словах, як *кърми́ти, дьржа́ти, вълчи́ха?* Рэдукаваны ў такіх выпадках узмацняўся за кошт складаўтваральнага плаўнага. Такім чынам, у словах тыпу *кърми́ти* рэдукаваныя былі моцныя і праясняліся ў *о, э (е).*

На гэтым, аднак, размову пра лёс рэдукаваных у спалучэннях *търт, тълт, тьрт, тьлт* спыніць нельга, бо ёсць

---

[17] Чаргаванне *ро : ры, ло : лы, ле : лі* ўласціва таксама мове ўкраінцаў: *кров — кривавий, блохи — блиха.* У рускай мове такое чаргаванне не развілося.

у беларускай мове выпадкі іншага змянення гэтых рэдукаваных. У словах тыпу *чырвоны (з чьрвонъи), тырчаць (з търчати), кілзаць (з кълзати), пырскаць (з пърскати), чыркануць (з чьркануги), почырк* рэдукаваны страчваўся, а потым узнік галосны *ы* ці *і*, як і ў спалучэннях *трът, тлът, трьт, тльт (глътати→глтати→глытац')*.

§ 55. **Другое поўнагалоссе.** Першае поўнагалоссе, як вядома, узнікла ў старажытнай мове ўсходніх славян у дапісьмовую пару са спалучэнняў **ор, *ол, *ер, *ел,* калі гэтыя спалучэнні знаходзіліся паміж двух зычных; яно з'явілася адным з вынікаў дзейнасці закону адкрытага склада. Другое поўнагалоссе развівалася ў пісьмовую пару ў сувязі са змяненнем рэдукаваных *ъ, ь,* прычым у дакладна акрэсленай пазіцыі. Узнікла яно на месцы спалучэння рэдукаванага з плаўнымі *р, л,* калі гэта спалучэнне знаходзілася паміж двух зычных, а ў наступным складзе выпадаў слабы *ъ* або *ь*. Моцны рэдукаваны перад плаўным праясняўся адпаведна ў *о* ці *э (е)*, а пасля плаўнага развіваўся таксама галосны *о* ці *э (е)*. Сучаснае *горан* паходзіць з *гърнъ,* у ім канцавы слабы рэдукаваны адпаў, рэдукаваны перад *р* быў моцны і праясніўся ў *о,* пасля *р* развіўся новы *о,* у выніку з былога *ър* узнікла *оро,* якое змянілася на *ора* (аканне): *гърнъ→горн→горон→горан.* Гэтаксама: *дзёран* — з *дьрнъ. жарало* — з *жьрло, малан(ка)* — з *мълнъ(ка), човен* — з *чьлнъ.* Другое поўнагалоссе маем і ў словах *несмяротны* (параўн. *съмьрть), вяроўка* — з *вьрвъка* (параўн. *вервы* — 'вяроўка, на якой падвешваюць калыску', Глускі р-н), *качарэжнік* (параўн. *кочьрга), астalоп* — з *стълпъ.*

Другое поўнагалоссе адносна не частая з'ява ў беларускай мове. У словах тыпу *верх* (з *вьрхъ), корм* (з *кърмъ), горб* (з *гърбь), торг* (з *търгъ*) яно або не развілося, або не замацавалася. Параўнаўча шырэй другое поўнагалоссе развілося ў паўночных вялікарускіх гаворках: *верех (верх), гороб (горб), кором (корм), смеретушка* і інш.

Вынікі страты рэдукаваных *ъ, ь* у кансанантызме

§ 56. **Узнікненне новых груп зычных.** Як ужо адзначалася, дзейнасць закону закрытага склада прывяла да таго, што ў агульнаславянскай мове-аснове спалучэнні

(групы) зычных у словах былі рэдкаснаю з'яваю, захаваліся толькі пэўныя і нешматлікія групы зычных (*слава, звѣрь*). Страта рэдукаваных прывяла да ўтварэння новых груп зычных, шматлікіх і разнастайных. У адных з іх апынуліся побач такія зычныя, якія маглі вымаўляцца і вымаўляюцца без змянення: *съто→сто, льга→л'га, мъного→многа.* У другіх групах сутыкнуліся зычныя, якія не маглі захавацца без змянення. Некалькі прыкладаў: *късде→кде, дъхорь→дхор', събоку→сбоку.* Кожнае з гэтых трох спалучэнняў (*д, дх, сб*) не магло не змяніцца. У спалучэнні *кд* адпаў *к* (*късде→кдзе→дзе*), у спалучэнні *дх* звонкі *д* прыпадобніўся да глухога *х* і супаў са сваім парным *т* (*дъхорь→дхор'→тхор*), у спалучэнні *сб* гук *с* прыпадобніўся да звонкага *б* і супаў са сваім парным гукам *з* (*събоку→сбоку→збоку*).

**§ 57. Спрашчэнне груп зычных.** Яшчэ ў агульнаславянскую эпоху адбылося спрашчэнне спалучэнняў (груп) зычных, выкліканае дзейнасцю закону адкрытага склада. Адбылося спрашчэнне і ў пісьмовую пару — як вынік страты рэдукаваных. Практычныя школьныя граматыкі звужана падаюць колькасць спрошчаных груп зычных і звычайна абмяжоўваюцца пералікам наступных: *здн→зн, стл→сл, рдц→рц.* Фактычна іх значна больш:

*ждьн→ждн→жн: кождьнъи→кожны;*
*здьн→здн→зн: бороздьна→баразна, поздьно→позна;*
*зтьв (стьв)→ств→св: лѣз(с)тьвиця→лесвіца;*
*кѫд→кдз→дз: късде→дзе;*
*лвът→лвт→вт→ўт: полвътора→паўтара;*
*рвьш→рвш→рш: первьшая→першая;*
*рдьц→рдц→рц: сьрдьце→сэрца;*
*лньц→лнц→нц: сълньце→сонца;*
*рньч→рнч→нч: гърньчаръ→ганчар;*
*стьл→стл→сл: ростьлина→расліна, съчастьливъи→шчаслівы;*
*стьн→стн→сн: вѣстьникъ→веснік, шестьнадесяте→шаснаццац';*
*стьц→стц→сц: мѣстьце→месца;*
*тъщ→тщ(тшч)→шч: натъще→нашча;*
*пьп→пп→п: пьпьрьць→пперец'→перац.*

Нягледзячы на ўстойлівасць пісьмовай традыцыі і захаванне марфалагічных напісанняў, у помніках сустракаем: *почесно* (ад *чьст-ь*), *сэрца, сэрцу* (Трыстан),

*гончар* (Ст. літ. 1588), *жалосно* (Баркул. л.). Сучасная арфаграфія замацавала перадачу разгледжанага змянення на пісьме: *карысны, капусны, радасны, няшчасны, выязны, дзе, кожны, расліна, лесвіца слаць (пасцель), сонца, сэрца, першая, баразна, паўтара, месца* і інш.

**§ 58. Страта канцавога *л*.** Ужо вялася размова пра новыя групы зычных з канцавым плаўным (гл. § 52). У адных выпадках паміж зычным і канцавым плаўным узнікаў устаўны галосны: *вѣтръ→ветр→вецер, рубль→рубл→рубел'*. У другіх выпадках канцавы плаўны *л* адпаў, фактычна адбылося спрашчэнне новай канцавой групы зычных з апошнім у ёй гукам *л:*

*неслъ→несл→нёс;*
*тьрлъ→терл→цёр;*
*везлъ→везл→вёз;*
*сѣклъ→сѣкл→сек;*
*(по)мьрлъ→(по)мерл→памёр;*
*пеклъ→пекл→пёк;*
*греблъ→гребл→гроб.*

Прыведзеныя словы — гэта былыя нескланяльныя дзеепрыметнікі, якія запанавалі як форма дзеяслова прошлага часу. Гэтая форма мае сталую марфалагічную прымету — суфікс *-л-* ці яго варыянт *-ў (рабі-л-а, рабі-ў)*. Выходзіць, што частка дзеясловаў прошлага часу ў мужчынскім родзе не мае гэтага суфікса. Зусім няцяжка бачыць, што не маюць суфікса *-л-* (*-ў*) толькі тыя дзеясловы прошлага часу мужчынскага роду, аснова інфінітыва якіх канчаецца на зычны гук: *нес-ці — нёс, вез-ці — вёз, бег-чы — бег, стрыг-чы — стрыг, лег-чы — лёг.*

Страта канцавога *л* у разгледжаным становішчы адбылася не толькі ў дзеяслоўнай форме прошлага часу. Некалькі прыкладаў: *Мьстиславль* (город) *→Мстиславл'→Мсціслаў*; *Браславль→Браслаў;* побач з *журавель* у беларускіх гаворках ёсць яшчэ *жураў* (з *журавль*) і *жораў* (з *жеравль*).

**§ 59. Замена зычнага *j* (ётам).** Пасля страты рэдукаваных у некаторых групах адзін з зычных замяніўся гукам *j (й)*. Так, напрыклад, у слове *Лагойск* зычны *j (й)* з'явіўся на месцы *ж (Логожьскъ)*, у слове *Прапойск* (цяпер г. Слаўгарад) — на месцы *ш (Пропошьскъ)*, у слове *Заслаўе*[18] *(Заслаўjэ)* — на месцы *л (Изяславль)*.

---

[18] Былая форма мужчынскага роду набыла канчатак *-е*, відаць, на ўзор *(мѣсто) Борисово, (мѣсто) Городьно.*

**§ 60. Змяненне *в* на *ў*.** Беларускай мове на працягу ўсёй яе гісторыі ўласцівыя гукі *в* і *ў* (так званы *ў* нескладовы) і чаргаванне *в : ў*. Гісторыкі ўсходнеславянскіх моў звязваюць развіццё пераходу *в* у *ў* з падзеннем рэдукаваных: *кръвь→кров→кроў, кривьда→кривда→крыўда*. Гук *ў* узнік на месцы былых *въ, вь:* пасля страты рэдукаваных на канцы слова або перад наступным зычным апынуўся *в: сыновъ→сынов→сыноў, чиновъ→чинов→чыноў, воловъ→волов→валоў, правьда→правда→праўда, травъка→травка→траўка, на вьсѣ→на ўсе*[19], *вьдова→вдова→ўдава*.

Прыгаданае тлумачэнне змены *в→ў* нельга, аднак, лічыць здавальняючым. У дзвюх суседніх літаратурных мовах — рускай і польскай — змяненне *в* на *ў* не развілося: *кроф', трафка, правда* — у рускай мове; *kref (krew), trafka (trawka), prawda* — у польскай.

Значыць, адной толькі стратаю *ъ, ь* змена *в→ў* не вытлумачваецца. Ёсць меркаванне: у асобных дыялектах агульнаславянскай мовы былі пэўныя папярэднія ўмовы для развіцця пасля страты рэдукаваных *ъ, ь* пераходу *в* у *ў*.

Папярэднюю — да страты рэдукаваных — умовою змянення *в→ў* быў характар *в* у дыялектах агульнаславянскай мовы. Гаворкі, з якіх развілася беларуская мова, мелі гук *в* губна-зубны і *в (w')* — губна-губны. Абодва *в* ёсць у сучасных беларускіх гаворках і ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Перад лабіяльнымі галоснымі *у, о (вуха, вусень, волаты, павольны)* вымаўляецца білабіяльны зычны *в*, а перад іншымі галоснымі — *в* губна-зубны *(вілы, вельмі)*. Незалежна ад таго, які зычны — *в* ці *w* вымаўляўся ў спалучэнні з наступным рэдукаваным, пасля страты рэдукаванага ў пазіцыі перад зычным і ў абсалютным канцы слова стаў вымаўляцца білабіяльны *w' (ў) ловъко→лоўка, ровьный→роўны, дръвъ→дроў, воловъ→валоў*. Зычны *ў* — звонкі гук, заўсёды цвёрды, г. зн. не мае адпаведнага парнага мяккага зычнага. Ён належыць у беларускай мове да санорных зычных.

Змена *в→ў* шырока адлюстравалася ў старажытных беларускіх помніках. Шматлікія выпадкі гэтай з'явы перадаюць помнікі яшчэ XIII ст. Так, у смаленскай грама-

---

[19] У фанетычных адносінах прыназоўнікі тыпу *да, па, на, з* і іншыя не аддзяляюцца ад наступнага слова.

це 1229 г. чытаем: *уздумалъ* (з былога *въздумалъ*), *у Ризѣ* (з *въ Ризѣ*), *у дыбу* (з *въ дыбу*). Яшчэ прыклады: *а рижане оу Ризѣ* (Даг. Пол.), *оу Полоцку, оу семую суботу былъ тот Воидило оу великой моци* (Вілен. л.), *и стала есми оудовою, оу ндлю* (Ж. Алякс.), *по Вельи оуниз, оуверхъ* (Гр. 1387), *ȣ Клецку* (Будны).

Змена *в*→*ў* у старажытных беларускіх помніках абазначалася, аднак, далёка не паслядоўна: спецыяльнай літары не было і *ў* перадавалі літараю *у* (*оу*, *ȣ*) ці *в*.

**§ 61. Змяненне цвёрдага *л* на *ў*.** У гісторыі беларускай фанетычнай сістэмы трэба адрозніваць два змяненні *л*→*ў*. Першае з іх — фанетычнае, калі пераход *л*→*ў* адбыўся ў дакладна акрэсленай пазіцыі; такое змяненне не прывяло да ўзнікнення чаргавання *л* : *ў*. Другое змяненне *л*→*ў* адбылося нефанетычным шляхам, а на ўзор, паводле аналогіі; гэта змяненне прывяло да ўзнікнення чаргавання *л* : *ў*.

Фанетычнае змяненне цвёрдага *л*→*ў* развілося толькі ў групах *тълт, тьлт,* г. зн. пасля рэдукаванага, калі спалучэнне рэдукаванага з *л* знаходзілася паміж двух зычных: *воўна* — з былога *вълна, маўчаць* — з *мълчати, жаўна* — з *жьлна, тоўсты* — з *тълстъи, доўг* — з *дългъ, поўны* — з *пълнъи, жоўты* — з *жьлтъи, воўк* — з *вълкъ*.

Большасць гісторыкаў мовы лічыць, што змяненне *л*→*ў* з'явілася вынікам змянення рэдукаваных: пераход *ъ*→*о* і *ь*→*э* (*е*)→*о* выклікаў лабіялізацыю наступнага цвёрдага *л* і змяненне яго на *ў*. Некаторыя даследчыкі лічаць інакш. Так, напрыклад, П. Юргелевіч, паказваючы, што змяненне *л*→*ў* адбылося толькі ў спалучэннях *тълт, тьлт,* сцвярджае, што працэс гэты адбыўся да страты *ъ, ь* і змянення іх на галосныя поўнага ўтварэння. П. Юргелевіч, такім чынам, лічыць, што змяненне *л*→*ў* адбылося яшчэ да распаду ўсходнеславянскай мовы, у яе дыялектах, з якіх пасля развіліся беларуская і ўкраінская мовы (ва ўкраінскай графіцы няма асобнай літары для абазначэння зычнага *ў*, і абазначаецца ён літараю *в*: *повний, жовтий, товстий*).

Прывядзём прыклады, у якіх зычны *ў* паходзіць з *л*: *воўк — ваўчок, ваўкаваты, ваўкаўня, ваўкарэзіна; поўны — поўнік, напоўнены, паўната; жоўты — жаўтачка, жаўтуха, жаўток, жоўць, жаўцізна; доўгі — доўг, даўжыня, падаўжэнне, доўжань* (пчалярскае), *уздоўжкі, даўжэразны; тоўсты — утоўшчкі, таўшчыня, таўстун, таў-*

*стуха.* Як бы ні змянялі словы, у якіх *ў* паходзіць з *л*, чаргавання *л* з *ў* няма.

Змяненне *л* на *ў* у пэўнай меры адлюстравана ў помніках. Я. Карскі піша, што першыя прыклады, у якіх пісцы абазначаюць гэта змяненне, сустракаюцца ў тэкстах XV ст., прычым *ў* перадаюць літараю *в*: *Витовта* (1442), *Вовчькевичъ* (1497), *не вдовзѣ* (1498). Яшчэ два прыклады: *моучком,* дзе *ў* з *л* абазначаецца літараю *у* (Мялешка), *вовн*8 (Стрыйкоўскі).

Змяненне *л→ў* нефанетычным шляхам развілося ў былых нескланяльных дзеепрыметніках мужчынскага роду тыпу *робилъ, пыталъ,* якія сталі з часам асноўнаю формаю прошлага часу. Няцяжка бачыць, што зычны *л* у прыгаданых і шматлікіх іншых словах знаходзіўся не пасля рэдукаванага і не перад зычным, г. зн. тут не было ўмоў для фанетычнага змянення *л→ў,* як не было гэтых умоў у словах тыпу *дол, стол, вол, гарэлка* (з *горѣлъка), палка* (з *палъка), вельмі* (з *вельми), толькі.* Чым тлумачыцца з'яўленне *ў* з *л* у форме тыпу *быў, меў, стаў?* У старажытнай мове былі дзеепрыметнікі незалежнага стану на *-въ* тыпу *читавъ, знавъ, бывъ,* у якіх заканамерна адбылося змяненне *въ→в→ў.* На гэты ўзор з'явіўся *ў* і ў адзначаных дзеяслоўных формах на *-лъ: меў (имѣлъ), быў (былъ), стаў (сталъ).*

Пераход *л→ў* у формах тыпу *рабіў, спяваў, гуляў* пісьмовыя помнікі, нягледзячы на перашкоды традыцыйнасці пісьма, адлюстравалі параўнаўча паўней, лепей, чым пераход *л* у *ў* у словах тыпу *воўна, доўга.*

Што ж да помнікаў, напісаных лацінкаю, то яны досыць стройна паказваюць наяўнасць *ў* (праўда, яны таксама абазначаюць гэта *ў* літараю *в (w)* з былога *л.* Так, у «Лісце да Абуховіча» чытаем: *dołozyw, napołochaw.*

У сучаснай беларускай мове чаргаванне *л : ў* у формах тыпу *блiснула* і *бліснуў, адпачыла* і *адпачыў* — жывая, нічым не абмежаваная з'ява.

**§ 62. Зацвярдзенне губных перад зычнымі і на канцы слова.** У словах тыпу *сем, канём, сям'я, цёмны, голуб, б'ю, п'ю* ў старажытнасці губныя былі памякчоныя: *голубь, бью, семь, коньмь, сѣмь* и *тьмьнъи, пью.* Пасля страты рэдукаванага *ь* губны апынуўся або перад зычным, або на канцы слова. У абодвух выпадках губны зацвярдзеў:

*тьмьнъи→тем'нъи→цёмны,*
*семь→сем'→сем.*

У помніках XIV ст. сустракаюцца напісанні *дамъ, кровъ, убъешь,* якія сведчаць пра старажытнасць зацвярдзення губных на канцы слова і перад наступным зычным.

**§ 63. З'явы прыпадабнення (асіміляцыі) у новых групах зычных.** Узнікненне новых спалучэнняў (груп) зычных стварыла ўмовы для шырокага развіцця асіміляцыйных змяненняў, уплыву аднаго з суседніх гукаў на другі. Адрозніваюць рэгрэсіўную і прагрэсіўную асіміляцыі. Пры рэгрэсіўнай асіміляцыі папярэдні гук змяняецца пад уплывам наступнага; так, напрыклад, у слове *бъчела→бчела* звонкі зычны *б* пад уплывам наступнага глухога *ч* стаў вымаўляцца літаральна так, як гук *п* (*б* супаў з гукам *п*): *пчала.* Пры асіміляцыі прагрэсіўнай пад уплывам папярэдняга гука змяняецца наступны. Яе можна паказаць на змяненні таго самага слова *бъчела* ва ўкраінскай мове, дзе глухі зычны *ч* прыпадобніўся да папярэдняга звонкага *б* і супаў са сваім звонкім парным *дж: бъчела→бджола.*

**§ 64. Прыпадабненне цвёрдых зычных да мяккіх.** У шматлікіх выпадках пасля страты рэдукаванага *ъ* цвёрды зычны апынуўся ў непасрэдным суседстве з наступным мяккім і, прыпадабняючыся да наступнага мяккага, супаў са сваім парным мяккім:

*сънѣдаю→снѣдаю→с'недаю;*
*съвѣдъка→свѣдка→с'ведка;*
*дъвѣсътѣ→ двѣстѣ→дз'вес'це;*
*съметана→сметана→с'мятана;*
*сънюю→сню→с'ню;*
*съмьрть→смерт'→с'мерц'.*

Папярэдні цвёрды звонкі перанёс падвойнае прыпадабненне да наступнага мяккага глухога, папярэдні цвёрды глухі — падвойнае прыпадабненне да наступнага мяккага звонкага, у тым ліку да санорнага:

*събираю→сбираю→з'біраю;*
*съмѣна→смѣна→з'мена;*
*съберечи→сберечи→з'берагчы;*
*съјѣздъ→сјѣзд→з'језд;*
*сънизати→снизати→з'нізац';*
*сънести→снести→з'нес'ці;*
*сълѣзти→слѣзти→з'лез'ці.*

Паказаная асіміляцыйная мяккасць у беларускай мо-

ве набыла вельмі выразны характар. Узмоцненая мяккасць свісцячых (дыялектолагі часта абазначаюць яе падвойным значком мяккасці [″]) назіраецца ў гаворках усіх раёнаў Беларусі, у тым ліку і ў самых усходніх (Мсціслаўскім, Клімавіцкім, Крычаўскім і інш.), і ў самых заходніх.

У некаторых помніках мяккасць свісцячых перад наступнымі мяккімі абазначаецца мяккім знакам: *басьни* (Будны), *опосьле, есьти, дьве* (Цяпінскі), *зьехалъ* (Бар-кул. л.), *зь ягнеты* (Акт. Мінск.). Фальклярысты, дыялектолагі, этнографы ў XIX—XX стст. часта таксама абазначалі асіміляцыйную мяккасць знакам *ь*: *сьціснуў, сьпіць*. Таму невыпадкова працяглы час арфаграфічнаграфічнаю нормаю беларускай літаратурнай мовы былі напісанні тыпу *сьню, расьсеяць, сьмятана*.

Вымаўленне свісцячых зычных *з, с* перад мяккімі без прыпадабнення, без асіміляцыйнай мяккасці не адпавядае сучаснай норме і ўспрымаецца як загана ў вымаўленні.

Мяккасць свісцячых зычных перад наступнымі мяккімі ўласцівая і такім спалучэнням зычных, паміж якіх не было рэдукаванага: *снѣгъ→с′нег, смѣхъ→с′мех, слива→с′ліва, класти→клас′ці, гости→гос′ці, пѣснь→пес′ня*[20].

У частцы беларускіх гаворак Гомельскай і Магілёўскай абласцей развілася асіміляцыйная мяккасць перад заднеязычнымі *г, к, х*:

*съкынути→скинути→с′кінуц′;*
*съхынути(ся)→схинутися→с′хінўцца;*
*съгынути→сгинути→з′гінуц′.*

Мяккасць свісцячых перад заднеязычнымі не агульнабеларуская, а дыялектная асаблівасць.

**§ 65. Прыпадабненне свісцячых зычных да шыпячых.** Разгледзім гэта прыпадабненне на пачатковай групе

---

[20] Развіццё мяккасці свісцячых зычных і вельмі прыкметнае супрацьпастаўленне цвёрдых мяккім стварылі магчымасць выражэння родавай формы характарам асновы (цвёрдая ці мяккая пры адным і тым канчатку). У беларускіх гаворках сустракаем:

Р. *двух* (м., н. р.) і *дз′вюх* (ж. р.), *двох* (м., н. р.) і *дз′вёх* (ж. р.);
Д. *двум* і *дз′вюм, двом* і *дз′вём;*
Т. *двума* і *дз′вюма, двамі* і *дз′вямі, двама* і *дз′вяма;*
М. *двух* і *дз′вюх, двох* і *дз′вёх.*

Гэтак і ў скланенні *абóдва (абáдва)* і *абéдзве.*

У літаратурнай мове замацаваліся варыянты *двух* і *дз′вюх* (Р.), *двум* і *дз′вюм* (Д.), *двумá* і *дз′вюмá* (Т.), *двух* і *дз′вюх* (М.).

зычных *сч,* што ўзнікла ў слове *съчастьк* пасля страты рэдукаванага *ъ.* Першы зычны ў гэтай групе свісцячы, другі шыпячы; свісцячы, прыпадобніўшыся да *ч,* супаў са сваім парным шыпячым *ш (с→ш);* так на месцы *съч* атрымалася *шч.*

Асіміляцыйнае змяненне свісцячых у спалучэнні з шыпячымі адлюстравалася ў пісьмовых помніках: *рошширило, иж жонами, навышшого.*

Прыпадабненне свісцячых да шыпячых і вымаўленне спалучэнняў *шч, ждж* і іншых у словах тыпу *рашчысціць (росчистити), прыяжджаць (приѣзжати), ш чаго (съ чего)* застаецца жывою нормаю арфаэпіі. На пісьме гэта прыпадабненне не абазначаецца, выключэннем з'яўляюцца словы *шчасце (шчаслівы, няшчасны, шчасны), нішчымны (нішчымніца), дашчэнту, нашчадак, рошчына.*

**§ 66. Прыпадабненне шыпячых зычных да свісцячых. Зліццё свісцячых.** Яшчэ ў помніках пачатку XIII ст. (напрыклад, у смаленскай грамаце 1229 г.) знаходзім напісанні тыпу *ризкихъ, рискому* (з *рижьскыхъ, рижьскому).* Гэтыя напісанні адлюстравалі прыпадабненне шыпячых да наступных свісцячых. Калі пасля страты рэдукаванага *ь* шыпячы апынуўся перад свісцячым, то, прыпадабняючыся да яго, супадаў са сваім парным свісцячым.

Сустрэтае ў помніку слова *князство* перадае змяненне *ж* на *з.* Гэты *з* у сваю чаргу таксама змяніўся, ён прыпадобніўся да глухога *с,* супаў са сваім парным глухім *с;* павінен быў атрымацца падвойны зычны *с* (адзін — зменены зычны кораня, другі — зычны суфікса), але для гэтага тут не было ўмоў, і два *с* зліліся ў адзін гук *с (сс→с).* Такім чынам, на месцы спалучэння *жьс* пасля страты рэдукаванага ўзнік зычны *с: кънpainжьство→княжство→княсство→княства.* Гэтак атрымалася і ў словах *хараство* (з *хорошьство), птаства* (з *пъташьство), мноства* (з *мъножьство), рыскі* (з *рижьскъи).*

У словах тыпу *ткацкі, рыбацкі*[21] змянілася былое спалучэнне *чьс: чьс→чс→цс→ц.*

У выніку фанетычных змяненняў узнік *ц* і ў серыі прыметнікаў тыпу *слуцкі.* Змяненне гэта абазначаецца

---

[21] У слове *рыбацкі* былое спалучэнне гукаў *чьс* змянілася на *ц: чьс→чс→цс→ц,* змяніўся былы суфікс *-ьск-.* Няправільна лічыць, што прыметнік *рыбацкі* ад асновы *рыбак:* зычны *к (рыбак)* перад суфіксальным *ь* памякчыўся і супаў з *ч,* г. зн. *рыбацкі* — з *рыбачьскъи.*

і на пісьме: *случьскъи→слуцкі,* а таксама *клімавіцкі, касцюковіцкі, асіповіцкі, баранавіцкі, калінкавіцкі, журавіцкі, пухавіцкі, жухавіцкі, радашковіцкі* і інш. Прыпадабненне шыпячых да свісцячых адлюстравалася ў помніках: *логозкая дань* (Гр. 1387), *ризкихъ* (Гр. 1300), *свислоцкого* (Кн. пас.), *празскомъ* (Скарына, Юдзіф), *князства* (Км.-Чарнаб.), *на князстве* (Рачынскі с.), *товарыствѣ* (Стрыйкоўскі), *царя грецкого* (Троя), *убозства, князство* (Ст. літ. 1588), *князскій* (Бяр. Лекс.).

Спынімся яшчэ на дзеяслоўнай форме тыпу *калоцішся, хаваешся.* Ні ў адной беларускай гаворцы ў гэтай форме не захавалася спалучэнне *шс* (з *шьс*). Шыпячы *ш* у выніку поўнага прыпадабнення да наступнага свісцячага супаў з гукам *с'*, узнік падвойны *с'*, які, дарэчы, не адрозніваецца ад падоўжанага *с'*, бо вымаўляецца так, як і падоўжаны *с'* у словах *калоссе, Беларуссю, кассё.* Так змянілася *шс* у большасці беларускіх гаворак. У частцы ж гаворак поўдня Беларусі вымаўляецца цвёрды *с (сс): вучысса, цікавісса.*

Прыпадабненне шыпячых да свісцячых у сучаснай арфаграфіі ў адных выпадках абазначаецца: *прыгоства, убоства, княства, ткацкі, слуцкі, сымонавіцкі, калінкавіцкі, баранавіцкі;* у другіх — не абазначаецца: вымаўляем *праскі, парыскі, рыскі, сураскі, вучысся,* але пішам *пражскі, парыжскі, рыжскі, суражскі, вучышся.*

**§ 67. Прыпадабненне звонкіх зычных да глухіх.** З падзеннем рэдукаваных узнікалі групы зычных «звонкі+ +глухі». Так атрымалася ў словах *кънижька, съвѣдъка, бъчела, дъхорь.* Папярэднія звонкі, прыпадабняючыся да наступнага глухога, супаў са сваім парным глухім: *кънижька→книжка→кнішка (ж→ш); съвѣдъка→сведка→светка (д→т); дъхорь→дхор'→тхор (д→т); бъчела→бчела→пчала (б→п).*

Глухія, што ўзніклі на месцы звонкіх у выніку прыпадабнення, зрэдку абазначаюцца ў старажытных беларускіх пісьмовых помніках: *считкѡмъ* (Гр. 1498), *свѣтков* (Кн. пас.), *светчить* (Скарына, Апост.), *светками* (Ст. літ. 1588), *тхоры* (Прывілей Мінску).

Прыпадабненне звонкіх да глухіх зычных у сучаснай арфаграфіі ў большасці выпадкаў не перадаецца: *кніжка (кнішка), падкінуць (паткінуць), абсыпаць (апсыпаць),* але *расказаць (рас- —* з *раз-), усход (ус- —* з *въз-).* У корані разгледжанае прыпадабненне абазна-

чаецца на пісьме толькі ў словах *пчала, тхор, натхненне* і некаторых іншых.

**§ 68. Прыпадабненне глухіх зычных да звонкіх.** У такіх словах, як *съборъ, събочити, съдужати, съдоровьѥ,* да страты рэдукаваных зычны *с* быў глухі, ён спалучаўся з наступным галосным і вымаўляўся выразна, як і ў словах *садъ, судъ;* выразна вымаўляліся зычныя *с′, т* у словах *косьба, отъдати.* Калі ж пасля гэтых зычных рэдукаваныя страціліся, узніклі новыя спалучэнні «глухі+звонкі». Развілося асіміляцыйнае змяненне: глухі, прыпадабняючыся да звонкага, супаў са сваім парным звонкім: *съборъ→сбор→збор, събочити→сбочити→збочыць, съдоровьѥ→здоровьѥ→здароўе, съдужати→сдужати→здужаць, отъдамъ→отдам→аддам, косьба→кос′ба→каз′ба, просьба→прос′ба→проз′ба.* Гэта супадзенне развілося і перад наступным санорным: *сълѣзу→слѣзу→з′лезу.*

Некалькі прыкладаў адлюстравання гэтага змянення ў беларускіх пісьмовых помніках: *з бортью* (Гр. Анофр.), *зъ братьею* (Вілен. л.), *збеглисе, збежаніе, зверхоу* (Стр. Хр.), *ѡдъ днѧ, з розоума, згинула надея* (Ж. Алякс.), *згинула, збѣгло сѧ людей, з мачохою, з нихъ, з великою покорою, вызволена, з доброю, змилуися* (Трыстан), *зь ягнеты, з дѣтми, з многими, з малым войском, з братею* (Рачынскі с.), *збудовалъ, звѧзалъ* (Цяпінскі), *зберȣ, збирати* (Руф), *збурывшы* (Атыла).

Прыпадабненне глухіх да звонкіх часткова замацавалася і ў сучаснай арфаграфіі: пішам *з* у слове *збіць* (з былога *събити*), *ад* у слове *адбіць* (з былога *отъбити*).

Асіміляцыйнае змяненне *с* на *з, т* на *д* у былых прыстаўках *съ-, отъ-* перад звонкім кораня садзейнічала выпрацоўцы прыставак *з-* і *ад-* ці *ада-* (ненаціскны *о* ў прыстаўцы *отъ-* супаў з *а*). Такое змяненне адбывалася спачатку толькі перад звонкімі зычнымі: *съдати→сдати→здаць, отъдати→отдати→аддаць,* а потым і перад санорнымі: *зламаць (←съломати), зрэзаць (←сърѣзати), звезці (←съвезти), змена (←съмѣна), з’ехаць (←съѣхати), адрэзаць (←отърѣзати), адліць (←отълити), ад’ехаць (←отъѣхати), адмяніць (←отъмѣнити).*

Такім чынам, прыстаўкі *з-, ад-* фанетычна ўзніклі перад звонкімі зычнымі, потым сталі ўжывацца перад санорнымі. Так адбылося і з прыназоўнікамі *з* і *ад (ада),* праўда, у з’яўленні прыназоўніка *з* адыграла ролю і тое, што ў беларускай мове са старажытных часоў прыназоў-

нікі *с* і *изъ* зліліся ў адзін прыназоўнік *з*, які мае яшчэ варыянт *са: са мною (съ мъною)*.

Ужо заўважана, што прыпадабненне глухога да звонкага замацавалася і ў арфаграфіі, але непаслядоўна. Не зважаючы на вымаўленне *маладз'ба, проз'ба, каз'ба*, пішам *малацьба, просьба, касьба*.

**§ 69. Прыпадабненне ў спалучэнні *дн*.** У выніку прыпадабнення зычнага *д* да наступнага *н* (*бѣдьнъи→бедны*) у частцы беларускіх гаворак развіўся цвёрды падвойны зычны *н*: *анна* (з *одьна*), *халонны* (з *холодьнъи*). Змяненне *дн* на *нн* — дыялектная з'ява. У літаратурнай мове толькі ў слове *сёння* вымаўляецца і пішацца *нн* на месцы былога *дьн*: *сего дьн(я)→сегодня→с'онн'а*.

**§ 70. Зліццё свісцячых *сс→с*, *зс→с*, *цс→ц*.** Пасля страты рэдукаваных узнікалі групы з двух свісцячых зычных. Калі такая група была не ў інтэрвакальнай пазіцыі, два свісцячыя зліваліся: *русьскъи→русскый→рускі*. Вынікі зліцця абазначаюцца і на пісьме: *рускі, залескі, палескі*. Зліццё свісцячых адбылося і ў выпадках, калі свісцячы *с* утвараўся з шыпячага ў выніку прыпадабнення: *убожьство→убож'ство→убосство→убоства* (гл. § 66).

У старажытных беларускіх тэкстах сустракаем: *руски, логозкая дань* (Гр. 1387), *французских, французское земли* (Атыла), *блиско* (Рымша), *свята руского* (Еўлашэўскі), *пр8ском8* (Баркул. л.).

**§ 71. Узнікненне падоўжаных зычных.** У фанетычнай сістэме беларускай мовы зычныя адрозніваюцца паводле даўжыні. Побач з зычнымі *дз' (z'), з', л', н', с', ц', ж, ч, ш* звычайнай даўжыні маюцца падоўжаныя (доўгія) зычныя:

*дз' (z')* і *ддз'* : *судзіць* і *суддзя;*
*з'* і *зз'* : *казённы* і *маззю;*
*л'* і *лл'* : *колем* і *коллем;*
*н'* і *нн'* : *астыне* і *снеданне;*
*с'* і *сс'* : *вясёлы* і *кассё;*
*ц'* і *цц'* : *(у) жыце* і *жыццё;*
*ж'* і *жж'* : *рэжа* і *Падбярэжжа;*
*ч* і *чч*: *рэчак* і *Зарэчча*;
*ш* і *шш* : *ціша* і *заціша*.

Падоўжаныя зычныя на пісьме абазначаюцца падвойным напісаннем літары: *падарожжа, застрэшша, заданне* і г. д., толькі *дз' (z')* абазначаецца трыграфічна — *ддз* (*каладдзё*).

Падаўжэнне зычных і наяўнасць падоўжаных зычных у беларускай мове — адзін з вынікаў страты рэдукаваных і асіміляцыйнага змянення зычнага ў спалучэнні з наступным *j*. Сучасным *зз', лл'* і іншым адпавядае старажытнае ўсходнеславянскае спалучэнне «памякчоны зычны+ слабы рэдукаваны *ь+j*», якое знаходзілася паміж двух галосных (у інтэрвакальнай пазіцыі): *зелле* — з былога *зельѥ*, *збожжа* — з *събожьѥ*, *пытанне* — з *пытаньѥ*, *суддзя* — з *судьꙗ*, *гаццю* — з *гатью (ю — jу)*, *каменне* — з *каменьѥ*, *вяселле* — з *весельѥ*, *застрэшша* — з *застрѣшьѥ*. Калі рэдукаваны *ь* страціўся, памякчоны зычны апынуўся перад *j*; пад уплывам яго папярэдні зычны яшчэ больш памякчыўся і асіміляваў, «увабраў у сябе» наступны *j*, з двух зычных гукаў (*ж'j, з'j, л'j* і г. д.) утварыўся адзін, але падоўжаны.

Не кожнаму былому спалучэнню «памякчоны зычны+слабы рэдукаваны *ь+j*» адпавядае сучасны падоўжаны зычны. Для развіцця яго абавязковаю ўмоваю была інтэрвакальная пазіцыя спалучэння[22]. Калі спалучэнне было не паміж галосных, таксама адбылася асіміляцыя, але падоўжаны не ўзнікаў. Так, напрыклад, атрымалася ў слове *съчастьѥ*, дзе «*т'+ь+j*» стаяла не паміж галосных; у форме творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў III скланення тыпу *косцью, карысцью*: *съчастьѥ→счаст'jэ→шчасце, костьjу→кост'jу→косцю, корыстьjу→корыст'jу→карысцю.*

Такім чынам, у беларускай мове падоўжыліся былыя памякчоныя і мяккія зычныя *л, н, д, т, з, с, ж, ч, ш,* калі яны ў спалучэнні з наступнымі *ьj* знаходзіліся ў інтэрвакальнай пазіцыі. Як вядома, былыя памякчоныя *д, т* у беларускай мове яшчэ больш памякчыліся, змяніўшыся ў спецыфічна беларускія, вельмі мяккія афрыкаты *дз' (z'), ц'*. Таму адпаведна на месцы «*д+ь+j*», «*т+ь+j*» развіліся падоўжаныя не *д, т,* а *дз' (z'), ц'*: *судьꙗ→суд͡з'а (суддзя), сѣтьjу→сец͡'у (сеццю).*

Не ўсе зычныя падоўжыліся. Не падоўжыліся перш

---

22 У беларускім вымаўленні і напісанні: *свіння, свінні, свінню, свіннёю(-ёй)*, але *свіней*; г. зн. то з падоўжаным гукам *н* і падвойным напісаннем літары, то (у форме роднага склону множнага ліку) з непадоўжаным *н*. У формах *свіння, свінні* і г. д. рэдукаваны *ь* быў у слабай пазіцыі і на месцы былога *ньj* узнік падоўжаны *н'*, а ў форме *свіней* у тым самым спалучэнні рэдукаваны *ь* быў у моцнай пазіцыі і змяніўся на *э (е)*: *свіньjь→свіней* (канцавы *ь* страціўся).

за ўсё заднеязычныя *г, к*[23], *х*. Тлумачыцца гэта тым, што ў агульнаславянскай мове *г, к, х* былі толькі цвёрдыя; калі яны спалучаліся з наступным *ь* (як і з любым пярэднім галосным), то памякчаліся і супадалі з шыпячымі: *гь→жь, кь→чь, хь→шь* (першая палаталізацыя). А мяккія «вытворныя» *ж, ч, ш* станавіліся падоўжанымі, калі ў спалучэнні з наступнымі *ьj* знаходзіліся паміж галосных. Такім чынам: *събогьѥ→събожьѥ→збожжа, (за)тихьѥ→затишьѥ→зацішша.*

Не падоўжыліся губныя зычныя. Як ужо адзначалася (§ 62), памякчоныя губныя зычныя пасля страты рэдукаванага перад наступным зычным, у тым ліку перад *j*, зацвярдзелі, і новае спалучэнне «губны+*j*» не падоўжылася: *сѣмьjа→сѣмjа→сямjа, любовьjу→любоўjу.*

У пераважнай большасці беларускіх гаворак не падоўжыўся зычны *р: перьѥ* (параўн. *зельѥ)→пер'ѥ→перjэ, звѣрьѥ →звяр'jo→звярjo.* Толькі ў частцы паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак сустракаецца падоўжанае *р: звяррё, перря (пер'е).*

Падоўжаныя зычныя адлюстраваліся ў беларускіх помніках XIV, XV і наступных стагоддзяў. Быў знойдзены спосаб перадачы іх — падвойнае напісанне адпаведнай літары: *корэнне, зеллемь, збавенне.* Такое напісанне і зараз з'яўляецца арфаграфічна-графічнаю нормаю.

Падаўжэнне зычных абазначалася далёка не ва ўсіх старажытных беларускіх тэкстах. Часта на месцы былога спалучэння «мяккі зычны +*ь*+*j*» сустракаецца напісанне зычнага з наступным *і (ї, и)* ці *ь: збежанїе, весельє, выхованью, кохание, коханье,* або абазначэнне падоўжанага адной літарай, якая пісалася ў радку ці над радком: *выхованя, списаня, фарбованя* (Акт. Магіл.), *выкрика$^{н}$емъ, обачива$^{н}$е, покара$^{н}$емъ, занедба$^{н}$е* (Цяпінскі), *нагорожэ$^{н}$ѩ, сказа$^{н}$ѩ, сумле$^{н}$е, хова$^{н}$емъ, збо$^{ж}$емъ* (Ст. літ. 1566).

**§ 72. Распадабненне (дысіміляцыя) у новых групах зычных.** Як відаць з § 63—71, прыпадабненне ў новых групах зычных — вельмі пашыраная з'ява. Распадабненне ж, наадварот, сустракаецца зусім не часта. Яго можна бачыць у займенніках *хто, што.* У старажытнай агульнаславянскай і ўсходнеславянскай мове яны мелі

---

[23] У слове *мяккі (мяккаваты, мяккасць)* зычны *к* падвойны: першы *к* належыць кораню, другі *к* — суфікс; сучаснае *мяккі* з *мякъкъи (←мękъкъи).*

іншы гукавы склад: *кьто, чьто*. У першым з іх пасля страты ъ побач апынуліся два выбухныя зычныя — *кт*. Выбухны *к* замяніўся фрыкатыўным *х;* такім чынам, *кьто→кто→хто*. Страта рэдукаванага *ь* і дысіміляцыя ў спалучэнні *чт* змяніла былое *чьто* на *што* (*чьто→что→што*). Так узнікла чаргаванне *х : к* у формах займенніка *хто* (*х-то — к-аго, к-аму* і г. д.) і чаргаванне *ш : ч* у формах займенніка *што* (*ш-то — ч-аго, ч-аму* і г. д.).

У старажытных беларускіх тэкстах напісанне *хто, што* сустракаецца вельмі часта, а ў дзелавых яно пануючае.

**§ 73. Змяненне звонкіх зычных на канцы слова.** Страта канцавых рэдукаваных выклікала змяненне звонкіх зычных, якія апынуліся ў абсалютным канцы слова: яны супалі са сваімі парнымі глухімі: *дубъ→дуб→дуп, лугъ→луг→лух, медъ→мед→мёт*, узнікла чаргаванне звонкага з глухім: *дубы — дуп, лугі — лух, мёду — мёт, вужы — вуш, козы — кос*. Звонкі *в* у беларускай мове чаргуецца са звонкім *ў*: *крыві — кроў, карова — кароў*, з'яўляецца санорным, не мае адпаведнага парнага глухога. У рускай мове звонкі *в* выступае ў пары з адпаведным глухім *ф*: *кровавый — кроф', глава — глаф, трава — трафка*.

### Рэдукаваныя *ы, і* (напружаныя *ъ, ь*) і іх лёс

**§ 74. Паходжанне рэдукаваных *ы* (*ы*$_р$), *і* (*і*$_р$).** Ва ўсходнеславянскай мове былі *ы, і* доўгія (*рыба, горы, сынъ, ликъ, липа, листъ*) і *ы, і* кароткія, рэдукаваныя (*крыю, шия, чии*). Рэдукаваныя *ы, і* называюць яшчэ напружанымі *ъ, ь*, бо гэтыя *ы, і* паходзяць адпаведна з *ъ, ь*, што былі ў спалучэнні з наступным *j*.

**§ 75. Лёс рэдукаваных *ы, і*.** Паходжанне і змяненне рэдукаваных *ы, і* зручней паказаць на поўнай прыметнікавай форме. Гэтая форма (*молодыи, слѣпыи*) утварылася шляхам зліцця кароткага прыметніка і ўказальнага займенніка мужчынскага роду *jь*. Займеннік гэты меў аснову *j* і канчатак *ь*, на пісьме абазначаўся літараю *и*. Такім чынам, форма *слѣпыи* ўзнікла з *слѣпъ* і займенніка *и* (*jь*); рэдукаваны ъ пры зліцці двух слоў апынуўся ў моцнай пазіцыі, бо стаяў перад складам з канцавым слабым *ь*. Перад *j* рэдукаваны ъ змяняўся на рэдукаваны *ы*(*ы*$_р$): *слѣпы*$_р$*jь*. У беларускай, а таксама ва ўкраін-

скай мове $ы_р$ падоўжыўся і супаў з *ы* звычайным. У рускай мове $ы_р$, як і моцны ъ, змяніўся на *о: доброй*[24], *чистой, молодой, слепой, золотой, такой, глухой, дорогой.* У словах тыпу *слѣпыјь, такыјь* адбыліся і іншыя змяненні. Яшчэ ва ўсходнеславянскай мове страціўся канцавы *ь*, на канцы слова апынуўся зычны *j*, які абазначаўся на пісьме літараю *и* ці *й*, потым гэты зычны адпаў і ў беларускай мове замацаваліся *сляпы, залаты, малады, глухі, такі.* У рускай і ўкраінскай мовах зычны *й* (былая аснова ўказальнага займенніка *јь*) захаваўся, стаўшы часткаю канчатка:

| | |
|---|---|
| *слѣпъјь→слѣпы*$_р$*јь* | бел. *слепый→сляпы*<br>укр. *сліпий*<br>руск. *слепой* |
| *такъјь→такы*$_р$*јь* | бел. *такый→такі*<br>укр. *такий*<br>руск. *такой* |

Рэдукаваны *ь* у пазіцыі перад *j* змяніўся на $и_р$, які ў беларускай мове, як і ва ўкраінскай, супаў з *и (і)*, а ў рускай — з *э (е)*. Пакажам на прыкладзе. Сучасны займеннік *чый* паходзіць з *чьјь*; моцны рэдукаваны *ь* змяніўся на $и_р$, канцавы *ь* страціўся: *чьјь→чи*$_р$*й*. У мове беларусаў $и_р$ супаў з *и (і)* звычайным *(чій)*, а пасля зацвярдзення *ч* галосны *і→ы*, у выніку: *чый*. У рускай мове *чи*$_р$*јь→чей*. Такі самы *і* ўзнік у словах тыпу *летні, сіні:*

| | |
|---|---|
| *лѣтьньјь→лѣтьни*$_р$*јь* | бел. *летній→летні*<br>укр. *літній*<br>руск. *летней* |
| *синьјь→сини*$_р$*јь* | бел. *сіній→сіні*<br>укр. *синій*<br>руск. *синей* |

У словах тыпу *летней, синей* у рускай літаратурнай мове галосны *э (е)* не пад націскам вымаўляецца як сярэдні паміж *і* і *э* гук, а на пісьме (пад уплывам стараславянскай пісьмовай традыцыі) абазначаецца літараю

---

[24] Ненаціскны *ы* з былога $ы_р$ у рускай мове з часам змяніў сваё гучанне, змянілася і абазначэнне яго на пісьме: *доброй→добрый, чистой→чистый.*

*и: синий, летний, зимний.* Пад націскам *э (е)* захаваўся: *чей, бей, пей:*

*бъјu→бu$_р$јu* { бел. *бій→бі* / укр. *бій→бий* / руск. *бей*

*шъја→шu$_р$ја* { бел. *шия→шыя* / укр. *шия* / руск. *шея*

Такім чынам, фанетычнае адрозненне, якое назіраецца ў беларускай і рускай мовах:

у форме прыметнікаў і прыметнікавых слоў назоўнага (вінавальнага) склону мужчынскага роду тыпу *малады — молодой, святы — святой, густы — густой, глухі — глухой, другі — другой, такі — такой;*

у дзеясловах абвеснага ладу тыпу *выю—вою, выеш — воешь, мыю — мою, мыеш — моешь, крыю — крою;*

у дзеясловах загаднага ладу тыпу *мый — мой, брый — брей, шый — шей, бі — бей, пі — пей;*

у асобных словах тыпу *шыя — шея, чый — чей —* тлумачыцца розным лёсам рэдукаваных *ы, і.* Гэта адрозненне развілося на працягу XII—XIII стст. Змяненне *ы$_р$, и$_р$* на *ы, і,* хоць і непаслядоўна, адлюстроўваюць беларускія пісьмовыя помнікі: *тыи, шию* (Гр. 1300); *шии* (Стр. Хр.); *золотыи, помые* (Ж. Алякс.); *чыіа* (Акт. Магіл.); *шыи* (Атыла); *выю* (Зіз. Лекс.); *што ꙑ тобѣ дамъ, ток ѣжъ и пи; тыи день; злыи; пане, не заби Трыщана, але заби мене* (Трыстан).

### ФАНЕТЫЧНЫЯ ЗМЯНЕННІ, НЕ ЗВЯЗАНЫЯ СА СТРАТАЮ РЭДУКАВАНЫХ

**§ 76. Змяненне галоснага *ѣ*.** Гэты галосны пачаў змяняцца яшчэ ва ўсходнеславянскай мове, але не ва ўсіх дыялектах адначасова, і вынікі яго змянення не аднолькавыя. Галосны *ѣ* вымаўляўся як дыфтонг *і͡э (і͡е)*. У адных гаворках усходнеславянскай мовы паступова ўзмацняўся першы элемент дыфтонга, у другіх — другі. У выніку галосны *ѣ* ва ўсходніх славян стаў вымаўляцца або як *і*, або як *э (е)*. Так, ва ўкраінскай мове *ѣ* (дыфтонг *і͡е*) змяніўся на *і: літо, вітер, сіно, летіла, дідусь, у Київі, у літі.* Супадзенне *ѣ* з *і* таксама ўласціва паўночнарускім гаворкам. У беларускай мове, як звычайна пішуць,

галосны *ѣ* супаў з *э (е)*. Гэта сцвярджэнне, аднак, патрабуе ўдакладнення.

1. Змяненне *ѣ* на *э (е)* у беларускай мове — працэс вельмі працяглы. Распачаўшыся ў гаворках, дзе гарады Полацк, Віцебск, Орша, Мсціслаў, Дуброўна, Сянно і іншыя, змяненне *ѣ*→*э (е)* з часам пасоўвалася на поўдзень і паўднёвы захад, але і сёння яшчэ не закончылася. Беларускія помнікі адлюстроўваюць яго яшчэ з XIII—XIV стст. Так, у смаленскай грамаце 1229 г. пісец часта піша *е* на месцы *ѣ*, а на месцы *е* — *ѣ*: *вѣремьнемь, будѣте, останѣть, смольнѣскь, всѣму* (ва ўсіх гэтых словах *ѣ* — на месцы *е*); *всемъ, ѥхали, темь, оу ризе* (ва ўсіх гэтых словах на месцы *ѣ* — *е* ці ѥ). Некаторыя дзелавыя помнікі XVI ст. практычна не ўжываюць літары *ѣ*.

2. На значнай частцы тэрыторыі бытавання сучаснага паўднёва-заходняга беларускага дыялекту былы *ѣ* адрозніваецца ад *э (е)*, г. зн. не супаў з *э (е)*. У адных раёнах (Клецкі, Светлагорскі, Слуцкі, Капаткевіцкі, Ляхавіцкі) галосны *ѣ* вымаўляецца як гук *э (е)*, набліжаны да *і*, гэты *э (е)* называюць *э (е)* «закрыты» і абазначаюць яго так: *э̂ (ê)*; у другіх раёнах, галоўным чынам на паўднёвай Брэстчыне, *ѣ* вымаўляецца як дыфтонг *і͡е* або яго варыянты.

3. У беларускай мове ёсць група слоў, у якіх *ѣ* супаў з *і*. У ліку іх: *Мінск* (з *Мѣньскъ*), *усміхацца* (параўн. *смех, смешна*), *цвісці, расцвітаць, цвілы, світаць, світанне* (параўн. *светлы, сусвет*), *звінець*.

У рускай літаратурнай мове таксама ёсць словы з *і* на месцы *ѣ*: *свидетель* (ад таго кораня, што і *с-вед-ка* — 'той, хто ведае'), *мизинец* (параўн.: бел. *мезенец* і *мезены*; усх.-сл. *мѣзиньць*), *сидя, сидеть* (параўн.: бел. *седзячы, сядзець*) і некаторыя іншыя.

Галосны *э (е)* з *ѣ*, як правіла, не перайшоў у *о* (гл. § 77).

**§ 77. Змяненне *э (е)* на *о (ё)*.** У гэтым параграфе разгледзім адно з самых складаных пытанняў гістарычнай фанетыкі. Размову пачнём з назіранняў над словамі з сучаснай беларускай мовы, у якіх ёсць чаргаванне *э : о (е : ё)*:

*вяселле (в'ас'эл̄'э) — вясёлы (в'ас'олы);*
*дзень (дз'эн') — падзёншчык (падз'оншчык);*
*несці (н'эс'ці) — нёс (н'ос);*

*месці (м'э́с'ці) — мёў (м'оў);*
*шэсць (шэс'ц') — шосты;*
*бярэзнік (б'арэз'нік) — бяроза.*

Гэта такое гістарычнае чаргаванне, пры якім назіраецца мена галоснага *э (е)* з галосным *о (ё)*. І адзін і другі галосны ў гэтых прыкладах націскны, але першы з іх стаіць пад націскам пасля мяккага або зацвярдзелага зычнага перад мяккім, а другі — таксама пад націскам і пасля мяккага ці зацвярдзелага, але перад цвёрдым зычным. Такое чаргаванне не спрадвечнае, яго не было ў агульнаславянскай мове-аснове, яно пачало развівацца ва ўсходнеславянскай мове з XII ст. Што гэта чаргаванне не спрадвечнае, відаць і з таго, што ў далёкай старажытнасці памякчоны зычны не спалучаўся з наступным галосным *о*, такім чынам, на месцы сучаснага *о (ё)* пасля мяккага ці зацвярдзелага (былога мяккага) зычнага быў іншы галосны — *э (е)* або *ь*. З гэтага вынікае наступнае: у сучаснай беларускай мове ёсць *о* спрадвечнае: *добры, востры,* ёсць *о* з *ъ: мъхъ→мох, сътьня→сотня,* ёсць *о* з *э: н'эсці→н'ос,* ёсць, нарэшце, *о* з *ь,* прычым *ь* спачатку перайшоў у *э (е): овьсъ→овес, жучькъ→жучек,* а потым гук *э (е)* змяніўся на *о: ов'э́с→ав'о́с, жуч'э́к→жучок.* Няцяжка бачыць, што пераход *э (е)* у *о (ё)*[25] працягваўся і пасля змянення (страты ці праяснення) рэдукаваных *ъ, ь.*

Гісторыкі фанетыкі вызначаюць два перыяды ў гісторыі пераходу *э (е)* у *о (ё)*. Першы перыяд быў агульнаўсходнеславянскі, сказаць інакш, змена *э (е)* на *о (ё)* распачалася да ўтварэння трох асобных усходнеславянскіх моў. У гэты перыяд пераход *э (е)* у *о (ё)* адбываўся толькі пасля спрадвечных мяккіх перад наступнымі цвёрдымі зычнымі і не абавязкова пад націскам. Гэта паказваюць і помнікі XI—XIII стст. і сучасная ўкраінская мова, у якой, дарэчы, галосныя *о, э* захоўваюцца ў ненаціскной пазіцыі: *шовковий, чоловік, чого, чому, чоло, пшоно, його, чотири, жонатий.*

---

[25] Пераход *э (е)* у *о (ё)* мае сваё тлумачэнне. Зычныя перад галоснымі непярэдняга рада былі цвёрдыя лабіялізаваныя. Пад уплывам гэтых зычных галосны *э (е)* з пярэдняга рада пераходзіў у непярэдні рад і лабіялізаваўся; так змяніўшыся, галосны *э* супаў з *о,* які раней ужываўся толькі на пачатку слова ці пасля цвёрдых зычных: *огнь, нога, окъно.* (Гл.: А. А. Шахматов. Очерк древнейшего периода истории русского языка. Пг., 1915, с. 133—135; В. В. Иванов. Историческая грамматика русского языка, с. 192.)

Вынікі пераходу *э (е)* у *о (ё)* пасля спрадвечных мяккіх захаваліся ў беларускай мове толькі пад націскам: *чорт, нічога, чужога, шосты, пайшоў,* а ў ненаціскной пазіцыі гэты *о,* як і ўсякі галосны *о,* змяніўся (аканне): *шоўк→шаўковы, чорт→чарцяня, чалавек* (з *чоловекъ←человѣкъ*).

Другі перыяд змены *э (е)* на *о (ё)* пачынаецца з пераходу памякчоных зычных *в, з, с* і іншых у мяккія перад галоснымі пярэдняга рада. Змяненне гэтых *э (е)* на *о (ё)* не агульнаўсходнеславянская асаблівасць, яна ахапіла толькі дыялекты, з якіх развіліся беларуская і руская мовы. У мове ўкраінцаў *э (е)* захаваўся: *овес (ове́с).*

Спынімся на адлюстраванні змены *э (е)→о (ё)* у беларускіх помніках. Найбольш паслядоўна галосны *о* з *э (е)* паказаны ў словах пасля шыпячых (і пад націскам і не пад націскам): *нашому, вашому, цоловати, чотыриста, чоломъ*[26], *шолъ, в тым жо, хочомъ* (Гр. 1300), *ничого, сторожою* (Вілен. л.), *чому, свѣчо* (Ж. Алякс.), *шостый* (Скарына, Юдзіф), *молоденьцомъ* (Руф), *шостый* (Ст. літ. 1566), *чорны* (Акт. Магіл.), *товаришовъ* (Кн. пас.).

Што да змянення *э (е)→о (ё)* пасля іншых зычных, то яно адлюстравана ў помніках горш: традыцыйнае пісьмо, традыцыйнае абазначэнне гукаў замінала перадачы новага ў мове; змяненне галоснага *э (е)* пасля шыпячых не выклікала цяжкасці пры перадачы на пісьме, а пасля *л, н* і іншых зычных цяжкасць была вельмі відавочная. Але час ад часу яна так ці інакш не абыходзіцца: *кнѧзѧ Семона, сто рублевъ, зъ лугами хмеловыми, слозы*[27], *всіо, бабіонка, хасціолу, з рублевъ, дзіонъ, нидаліока, усіо* (Шк. камед.); тут *мо, ло* чытаюцца як *мё, лё,* а *сіо, біо, ціо, дзіо, ліо* — як *сё, бё, цё, дзё, лё.*

Беларускія помнікі, напісаныя лацінкаю, паўней засведчылі *о* з *э (е)* пасля неспрадвечна мяккіх; гэтаму садзейнічала і выкарыстанне польскай пісьмовай практыкі, дзе мяккасць зычных перад галоснымі абазначаецца літараю *і: werebiow, zawsiody, jowchima, jost* (Ліст).

Падкрэслім: націскны галосны *э (е)* перад наступным цвёрдым зычным перажыў пераход у *о (ё).* З пункту гледжання сучаснай мовы такі пераход назіраецца

[26] Першыя пяць прыкладаў з кн.: Я. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа. М., 1955, с. 171.

[27] Першыя чатыры прыклады з кн.: Я. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, с. 177—178.

непаслядоўна. Ён адбыўся ў словах тыпу *ацѐліцца — ацёл (ац'ол), мѐсці — мёў (м'оў), насѐльніцтва — пасёлак (пас'олак), шэсць — шо́сты, сярэ́дні — асяро́дак, ажэ́ніцца — жо́нка.* З другога боку, галосны *э (е)* захаваўся і не супаў з *о* ў словах *лес, рэдка, рэчка, першы, нясеш, адзежа,* хоць *э (е)* і знаходзіцца ў пазіцыі пасля мяккага ці зацвярдзелага (г. зн. былога мяккага) зычнага перад наступным цвёрдым. У прыгаданых і шматлікіх іншых прыкладах з пункту гледжання сучаснасці ўмовы пераходу ёсць, а гістарычна гэтых умоў не было.

У словах *лепшы, дзед, лета, сена, стрэх* (родны множнага), *ехаць, ем, бедны, сеў, сценка, хлеб, сядзеў, ляцеў, смех, вера, дзеўка, праверка* і іншых галосны *э (е)* паходзіць з *ѣ*, які ў часы, калі ўзнікала змяненне *э (е)* на *о (ё),* адрозніваўся ад *э (е)* і, такім чынам, не пераходзіў у *о (ё).*

У словах тыпу *нясеш, ідзеш, бярэш*[28], *цяпер, першы, верхні, касец, маладзец, меншы, церці, карэц* захаваўся *э (е)* таму, што наступны зычны быў мяккі: *берешь, корьць.*

Не адбыўся пераход *э (е)* у запазычаных словах: *метрыка, прафесар, генетыка, сцэна, манера, ракета, камета, планета, электрыка* і інш.

У беларускай мове ёсць выпадкі ўзнікнення *о (ё)* на месцы *э (е)* пры адсутнасці неабходных фанетычных умоў. Так, напрыклад, у слове *клёнік* галосны *о (ё)* несапраўдны. Як растлумачыць яго з'яўленне? У форме *клён (з кленъ)* націскны *э (е)* перад наступным цвёрдым заканамерна перайшоў у *о (ё).* У памяншальнай форме *клёнік* галосны *о (ё)* з'явіўся на ўзор (паводле аналогіі) слова *клён.* Форма *(на) лёдзе* ўзнікла на ўзор формы *лёд; (на) бярозе* — на ўзор *бяроза, бярозу, бярозы, бярозамі* і г. д.; *гульнёю* ці *гульнёй (гул'н'ојý, гул'н'ој), раллёю* ці *раллёй (рал̄'о'ју, рал̄'ој)* — на ўзор *вадою* ці *вадой, хадою* ці *хадой.*

У словах *гнёзды, сёдлы* галосны *о (ё)* з'явіўся нефанетычным шляхам на месцы былога *ѣ.* На ўзор *сёлы, сёстры* стала *гнёзды, сёдлы* замест чаканага *гнезды, седлы* (з *гнѣзда, сѣдьла*).

**§ 78. Змяненне канцавога *э (е)* на *о (ё)*.** Ва ўсіх выпадках на месцы сучаснага канцавога *о (ё)* пасля мяк-

[28] Інакш у рускай мове: *несешь→нес'ош, идешь→ид'ош, молодежь,* дзе зычныя *ж, ш* зацвярдзелі раней, чым у беларускай мове.

кіх і зацвярдзелых (былых мяккіх) зычных быў галосны *э (е): жыц'о* — з *житьѥ*, *гал'о* — з *гольѥ*, *плячо* — з *плече, ужо* — з *уже, усё* — з *вьсе, маё* — з *моѥ, тваё* — з *твоѥ*, *сваё* — з *своѥ*. У гэтых і падобных словах, у якіх націскны галосны *э (е)* стаяў пасля мяккіх (у тым ліку пасля шыпячых) на канцы слова, пераход адбыўся на ўзор слоў з канцавым *о* пасля цвёрдых зычных (тыпу *акно, гняздо, сядло, кубло, крыло, вясло*). У частцы паўднёва-заходніх беларускіх гаворак (напрыклад, каля Турца, Карэліч, Міра) адбыўся пераход у *о (ё)* ненаціскнога канцавога *э (е): вясе́лё, пыта́нё, зада́нё, чака́нё.*

**§ 79. Аканне.** Гэта фанетычная асаблівасць з'яўляецца і арфаэпічнай нормай беларускай літаратурнай мовы; замацавалася аканне і ў беларускай арфаграфіі. Калі гаварыць крыху спрошчана, аканне — гэта супадзенне ненаціскных галосных *о, э, а* з *а: рогі* — *рагамі, жэрдка* — *жардзіна, вар* — *варыць*. Такое азначэнне падыходзіць да акання, скажам, Дзяржынскага, Пухавіцкага раёнаў, да акання беларускай літаратурнай мовы, але не падыходзіць да акання Расонскага, Гарадоцкага, Мсціслаўскага раёнаў. У гаворках гэтых раёнаў ненаціскныя галосныя *о, е, а* не заўсёды вымаўляюцца як *а*: *на гары́, на гару́, гары́, гаро́й,* але *гъра́* ці *гыра́, в'асны́, в'асно́й,* але *вісна́*. Гэта значыць, тут не пад націскам сустракаем не толькі *а* (з *о, э, а*), а і *ъ* або *ы,* а пасля мяккіх зычных — *і* (*сістра́*). Таму аканне ў беларускай мове — гэта неадрозненне галосных *о, э, а* ў ненаціскной пазіцыі.

Праблема паходжання акання (наяўнасць акання і окання) ва ўсходнеславянскіх мовах вельмі складаная. Спынімся на дзвюх, найбольш вядомых гіпотэзах паходжання гэтай асаблівасці вакалізму. Адны сучасныя вучоныя, напрыклад Р. І. Аванесаў, лічаць, што аканне развілося ў пісьмовую пару, з'явілася вынікам змянення характару націску і рэдукцыі ненаціскных галосных: узнікненне экспіраторнага націску прывяло да пераразмеркавання выдыхальнай сілы пры вымаўленні складоў, адны склады ў слове (словах) узмацніліся, другія — аслабіліся, у выніку гэтага аслаблення ненаціскныя *о, э, а* супалі ў вымаўленні з *а*. Аўтары і паслядоўнікі гэтай гіпотэзы (яе называюць рэдукцыйнаю) лічаць, што ў дапісьмовую і пачатку пісьмовай пары ва ўсходніх славян акання не было, што яно развівалася ў XIII і наступных стагоддзях.

Другія вучоныя выказваюць іншае меркаванне. Так, напрыклад, Ф. П. Філін лічыць, што аканне і аканне ўзніклі ў VII—VIII стст. і з'явіліся вынікам змянення агульнаславянскага *a*, які абазначае Ф. П. Філін спалучэннем *a°* (Происхождение русского, украинского и белорусского языков. М., 1972). Ненаціскное *a (a°)* у адных гаворках змянілася на *a*, у другіх — на *o*.

Даследчыкі старажытнай беларускай мовы (А. Сабалеўскі, Х. Станг[29]) выявілі адлюстраванне акання ў беларускіх пісьмовых помніках яшчэ XV ст. Выпадкі адлюстравання акання ў XV ст. сведчаць, што гэта фанетычная рыса беларускага вакалізму ўзнікла ў мове раней. У тэкстах XVI ст. напісанне *a, я* (ѧ, ꙗ) на месцы этымалагічных *o, э (e)* у ненаціскных складах сустракаецца крыху часцей: *кали, магли, стаить, при вѧликой дарозѧ, сабою, сагнути, здарова, грамаде, ападали, таго, скуръ дублѧныхъ, дастаточне, вызвалѧти, маланьꙗ, нагах, сенажати, карою, гарѧчесть*[30], *таварыш* (Кн. пас.), *збежища дорогъ* (Цяпінскі), *ѿганѧти* (Сапега), *почала цаловати* (Трыстан). Але ні ў адным помніку XVI—XVII стст., напісаным кірыліцай, аканне шырока не абазначаецца.

Прыкметна паўней абазначаецца гэта змяненне ў беларускіх тэкстах, напісаных лацінкаю, і ў некаторых тэкстах, напісаных кірыліцаю ў XVIII ст. Так, напрыклад, у камедыі са зборніка К. Марашэўскага (толькі ў шасці яе радках) сустракаем: *majo, chadżu, pieraz, caluheńki, aniemieli, tapara, capa (цэп—цапа), małaczu, paudnia, adzin, pamahała, wiedama, żanockaja, kolka.*

У сучаснай беларускай мове аканне прагрэсіруе: у гаворках з няпоўным недысімілятыўным аканнем сустракаем на месцы канцавога ненаціскнога *o, э* галосны *a*: *смáчнаго→смáчнага, рóўно→рóўна.* Яно (аканне) паступова пашыраецца і на тэрыторыю гаворак з традыцыйным оканнем: *хвóрого→хвóрага.*

**§ 80. Страта канцавога *i*.** Страту канцавога *i* можна бачыць на асобных словах. Так, напрыклад, адпаў канцавы і (суфікс) у прыслоўі *досыць (досыц')*, якое ўтва-

---

[29] А. И. Соболевский. Смоленско-полоцкий говор в XIII—XIV вв. Русский филологический вестник, 1886, № 1, стр. 12; Chr. S. Stang. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk. Oslo, s. 41.

[30] Прыклады з кн.: А. Булыка. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы, с. 69.

рылася з *до сыти* (прыназоўнік *до*+родны прыназоўнікавы склон назоўніка *сыть*). Страту канцавога *і* можна паказаць таксама на групах дзеяслоўных форм. У старажытнасці інфінітыў паслядоўна канчаўся на *і (и)*:

а) *робити, ходити, мовити, казати, носити, мълчати, дръжати, трьвожити;*

б) *нести, красти, плести, мести, класти, вести, везти;*

в) *мочи, стеречи, стричи, лечи.*

Дзеясловы першай групы (самай шматлікай) у інфінітыве страцілі гэта *і: казати→казац', мовити→мовиц', мълчати→маўчац', робити→рабіц', клекотати→клекатац'.*

Інфінітывы, аснова якіх канчаецца на зычны (*нес-, крас-, плес-* і інш.), захавалі галосны *і: нести→несці, плести→плесці, вести→весці.*

Дзеясловы, у інфінітыве якіх аднавіўся заднеязычны асновы, захавалі *і*, які пасля зацвярдзення *ч* супаў з гукам *ы: легчи→легчы, берегчи→берагчы, стригчи→стрыгчы, секчи→секчы.*

Канцавы галосны *і* страцілі таксама шматлікія дзеясловы ў форме загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку пры націску на аснове: *ста́ни→стан', гля́ни→глян', кы́ни→кін', рѣжи→рэж (рэш), бу́ди→будз' (буц')*. Страта канчатка 2-й асобы адзіночнага ліку адбілася і на форме 2-й асобы множнага ліку: *стан' — стан'це, едз' — едз'це (ецьце), кін' — кін'це.*

Дзеясловы загаднага ладу з націскам не на аснове захавалі канчатак і: *нясі, ідзі, пляці, мяці.* Захаваўся канчатак *і* таксама ў дзеясловах з націскной асновай, калі яна канчаецца на групу зычных: *стукні, грукні, бразні, грымні.*

Асобна спынімся на дзеясловах тыпу *даваи→давай, читаи→чытай, ховаи→хавай.* Нельга лічыць, што ў гэтых і падобных дзеясловах галосны *і* змяніўся на *й;* тут таксама адбылася страта канчатка *і*. Што ж да *й (j)*, то на гэты *й* канчалася ў старажытнасці і канчаецца сёння аснова дзеяслова: *хавај-уц' — хавај, чытај-уц' — чытај, прымај-уц' — прымај.*

Страта канцавога *і* храналагічна не супадае са стратаю рэдукаваных *ъ, ь*. Страта *і (и)* — вельмі працяглы працэс; у адных гаворках ён адбыўся вельмі даўно, у другіх пазней, у трэціх і сёння сустракаем *размаўляці, маўчаці, рабіці* (напрыклад, у Скідэльскім і Свіслацкім раёнах Гродзеншчыны).

**§ 81. Страта канцавых *у*, *э* (*е*).** У беларускай літаратурнай мове, у яе гаворках назоўнікі жаночага роду, а таксама прыметнікі і словы прыметнікавага тыпу ў творным склоне адзіночнага ліку маюць фанетычныя варыянты канчатка: *-ою (-аю, -яю)* і *-ой (-ай, -яй)*, якія адрозніваюцца не толькі тым, што галосны канчатка націскны або ненаціскны:

*дарагою цаною — дарагой цаной;*
*добраю зямлёю — добрай зямлёй;*
*вясёлаю гульнёю — вясёлай гульнёй;*
*ранняю парою — ранняй парой.*

Гэтыя варыянты ідуць ад старажытных *-ою (-оју)* і *-эю (-эју)*: *цѣною (-оју), землею (-эју)*.

Вялікая частка паўднёвага захаду Беларусі захоўвае форму канчатка з *у*: *вад-оју, зямл'-оју, гул'н'-оју, нов-ају, добр-ају*. На паўночна-ўсходняй частцы Беларусі ўжываецца варыянт без *у* ў канчатку; галосны *у* тут страціўся: *вадоју→вадој, зямл'оју→зямл'ој, ран'н'-ају→ран'н'ај*.

Абодва фанетычныя варыянты (*-ою* і *-ой*, *-аю* і *-ай*) з'яўляюцца літаратурнымі, г. зн. аднолькава правільна напісаць ці сказаць: *маладою бульбаю* і *маладой бульбай, ранняю раллёю* і *ранняй раллёй, празрыстаю крыніцаю* і *празрыстай крыніцай, якою часінаю* і *якой часінай, адною* і *адной, такою* і *такой*.

У літаратурнай мове ёсць два фанетычныя варыянты канчатка поўных прыметнікаў і прыметнікавых слоў жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку — *-ое (-ае, -яе)* і *-ой (-ай, -яй)*:

*чужое (зямлі) — чужой (зямлі);*
*да самае (суботы) — да самай (суботы);*
*з тае (пары) — з той (пары);*
*з кожнае (пядзі) — з кожнай (пядзі).*

Варыянты гэтыя адрозніваюцца не толькі націскам і захаваннем *о* ці пераходам яго ў *а*, а і колькасцю гукаў; у першым тры гукі, у другім — два: *малад-оjэ* і *малад-ој, добр-ајэ* і *добр-ај*. У старажытнасці поўныя прыметнікі і прыметнікавыя словы жаночага роду ў родным склоне адзіночнага ліку мелі канчатак *-оѣ (-ојѣ), -еѣ (-еjѣ)*. Галосны *ѣ*, як вядома, супаў з *э(е)*, і з'явіўся канчатак *-ое (-оjэ), -ае (-ајэ)*: *молодоѣ→маладое, чужеѣ→чужое, самоѣ→самае.*

Такі канчатак захоўваецца і сёння на значнай частцы паўднёвага захаду Беларусі, ужываецца ён і ў літара-

турнай мове: *Ад роднае зямлі, ад гоману бароў...* (Я. Колас) *Чужое зямлі нам не трэба...* (А. Бачыла)

У гаворках паўночна-ўсходняй Беларусі канцавы галосны *э (е)* у канчатку страціўся; *-ојэ→ој(-ой, -ай, -яй): залатой, маладой, самай.* Такі канчатак таксама ўжываецца ў літаратурнай мове: *Да святой нядзелі...* (Я. Купала)

У мове ўкраінцаў *ѣ* супаў з *і*, узнік канчатак *-ојі*, які на пісьме абазначаецца *-ої: родьноѣ→рідної (-ојі).*

**§ 82. Зліццё галосных.** На стыку марфем у словах тыпу *прыму* калісьці былі два галосныя *і (ии)*, першы быў часткаю прэфікса, другі — кораня: *прыму — з приму*. Так, у помніку «Страсці Хрыстовы» чытаем: *выслоухаи мѧ прошоу тѧ, сынȣ милыи, да приими мене,* у помніку «Жыццё Аляксея»: *приимавали.* Гэтыя два *і* зліліся ў адно *і*, якое пасля зацвярдзення *р* супала з *ы*. Магло адбыцца змяненне і ў іншай паслядоўнасці: пасля зацвярдзення *р* на месцы *і* ўзнік галосны *ы*, у такім разе ўтварылася спалучэнне з двух гукаў — *ыі*, якія зліліся ў *ы: приими→прыими→прымі.* Разгледжанае змяненне можна бачыць у такіх, напрыклад, словах, як *прымы, прымак, прызба*[31].

У частцы паўднёва-заходніх беларускіх гаворак (на тэрыторыі Капаткевіцкага, Петрыкаўскага, Глускага, Старадарожскага і іншых раёнаў) адбыліся змяненні ў канчатках *-аја (-ая), -ују (-ую):* страціўся інтэрвакальны *ј*, узніклі спалучэнні *аа, уу,* якія зліліся (сцягнуліся) адпаведна ў *а* і *у*. Такія змяненні развіліся ў формах назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікаў і прыметнікавых слоў: *новаја→новаа→нова, смачнаја→смачнаа→смачна, усякаја→усякаа→усяка, сёмаја→сёмаа→сёма, шостаја→шостаа→шоста, новују→новуу→нову, смачнују→смачнуу→смачну, усякују→усякуу→усяку, сёмују→сёмуу→сёму, шостују→шостуу→шосту.* Такія формы прыметнікаў і прыметнікавых слоў нельга лічыць кароткімі, гэта злітныя (або сцягнутыя) формы. Як вядома, кароткія формы адрозніваюцца ад поўных не толькі канчаткам, але і націскам: старажытная кароткая форма *нова́,* поўная — *но́вая,*

---

[31] Слова *изба* (з *истьба*), у якім рэдукаваны выпаў, а спалучэнне *ст'б* у выніку асіміляцыі і спрашчэння групы зычных атрымала гучанне *зб*, у беларускай мове не замацавалася (запанавала слова *хата* пры паралельным *дом*). З былога *истьба* у беларускай мове ёсць словы *істопка* (ці без *і* — *стопка*) і *прызба.*

*льгъка́ — льгъкая (лёгкая).* Злітная (або сцягнутая) форма — гэта не захаваная старажытная кароткая форма, а змененая поўная. Літаратурнаю нормаю, зразумела, з'яўляецца форма *новая (новаја), новую (новују)*. Форма ж *нова, нову* — дыялектная, яна толькі зрэдку сустракаецца ў вершаваных творах.

**§ 83. Змяненне *і* на *й*.** У такіх прыкладах, як *згубіла йголку, перайграць, дачка й сын, маці й дачка*, некаторыя лінгвісты звычайна бачаць пераход *і→й*. Гэта змяненне, відаць, адбылося інакш. Пасля слова, якое канчаецца на галосны, перад пачатковым *і* наступнага слова ўзнік прыстаўны *ј (й): згубіла јіголку.* Такі прыстаўны *ј* узнік таксама ў прыставачных словах тыпу *прајіграць* і перад злучнікам (часціцаю) *і: маці јі дачка, прыйшла јі мая чарга.* З часам ненаціскны галосны *і* страціўся і атрымалася: *згубіла йголку, прайграць, маці й дачка, прыйшла й мая чарга.*

Разгледжанае змяненне — норма сучаснай літаратурнай мовы, але на пісьме ў большасці выпадкаў яно не абазначаецца:

і ў вымаўленні і на пісьме: *пайсці, зайграць, выйграць;*

у вымаўленні: *па Йвана, за йголку, была й я на Нёмане, хата й склеп, схадзі й ты ў кіно,* а на пісьме: *па Івана, за іголку, была і я на Нёмане.*

**§ 84. Далейшае памякчэнне *д'*, *т'*. Узнікненне дзекання і цекання.** Дзеканне і цеканне атрымалі такія назвы ад наяўнасці ў беларускай мове афрыкат *дз'* і *ц'*. Калі параўнаць беларускую афрыкату *дз'* і адпаведны мяккі рускі гук *д'*, то можна выявіць, што беларускі гук *дз'* характарызуецца большаю ступенню мяккасці, чым рускі *д'*; зычны *д'* больш пярэдні, чым *дз'*; пры ўтварэнні *д'* кончык языка артыкулюе да альвеол, пры ўтварэнні *дз'* — да часткі нёба, блізкай да сярэдняй. Большаю ступенню мяккасці і месцам утварэння таксама адрозніваецца беларускі мяккі зычны *ц'* ад рускага мяккага *т'*. Былыя мяккія *д'* і *т'* яшчэ больш памякчыліся і сталі вымаўляцца як *дз'*, *ц'* у перыяд утварэння мовы беларускай народнасці.

Акадэмік Я. Ф. Карскі сведчыць, што дзеканне і цеканне развілося ў беларускай мове не пазней як у XIV ст.

---

[32] Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, с. 346.

Гэтая фанетычная беларуская асаблівасць адлюстравалася ў старажытных беларускіх пісьмовых помніках. Я. Ф. Карскі прыводзіць прыклады (найбольш старажытныя): *мець* (1300), *людзі* (1409)[32]. З помнікаў XVI—XVII стст. можна дадаць такія факты: *двадцаць* (Ст. літ. 1566), *мосць (міласць), дзюбали* (Мялешка). Увогуле ў старажытных беларускіх тэкстах, напісаных кірыліцай, дзеканне і цеканне, як і некаторыя іншыя асаблівасці беларускай мовы, адлюстраваліся слаба. Традыцыйнасць пісьма замінала перадачы таго новага, што ўзнікала ў фанетычнай сістэме беларускай мовы.

Паўней і шырэй перадаюць дзеканне і цеканне некаторыя старажытныя беларускія тэксты, напісаныя лацінкаю. У «Лісце да Абуховіча» знаходзім: *ludzie, dzied, dziwno, musić, и покут kycie;* у камедыі са зборніка К. Марашэўскага: *dzień, prapadzi, dzierawa, hledzić, siadzieć, poydzieć, czuwać, życio, padapruć, waryć.*

**§ 85. Развіццё прыстаўных (пратэтычных) зычных.** Яшчэ ва ўсходнеславянскай мове некаторыя галосныя не маглі пачынаць слова, перад імі ўзнікалі пратэтычныя зычныя. Так, напрыклад, перад пачатковым *а* ў словах *яблык, я (язъ), ягня* з'явіўся прыстаўны *j*, перад *ы* з індаеўрапейскага *у* доўгага — прыстаўны *в: выдра, прывычны.*

Прыстаўныя зычныя развіваліся і пашыраліся на беларускай моўнай глебе. Так, перад пачатковым *і* з'явіўся прыстаўны *j (й)*. Пісьмовая традыцыя не давала магчымасці адлюстраваць з'яўленне пратэтычнага *j (й)* перад *і*. Надзейнымі з'яўляюцца факты з жывых народных гаворак: *jікаўка* (а не *ікаўка), jімя* (а не *імя), jіскры* (а не *іскры), jірха.* Як піша П. Юргелевіч, «перад кожным *і* ў пачатку слова і пачатку склада захоўваецца ў беларускай мове гук *j (й)».*[33] Гэты пратэтычны *j (й)* выяўляе вялікую ўстойлівасць: можна назіраць захаванне яго пры страце таго ненаціскнога *і*, перад якім развіўся *j*: *на jігрышчы→на йгрышчы, па Jівана→па Йвана, заjіграць→зайграць, на jіголцы→на йголцы* (гл. § 83).

З усіх прыстаўных гукаў найбольш пашырыўся зычны *в*, які ўзнік перад пачатковымі *у, о*. Пісьмовыя помнікі, нягледзячы на традыцыйнасць пісьма, адлюстроўваюць гэтую беларускую асаблівасць зусім надзейна:

---

[33] П. Я. Юргелевіч. Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мінск, 1961, с. 79.

*оув озерищахъ* (Гр. 1377), *оув устьвицю* (Тры кар.), *у въ орши* (Км.-Чарнаб.), *у в опеку, у въ огородъ* (Акт. Магіл.), *увωтца* (Бава), *восен* (Баркул. л.).

Прыстаўны *в* з'явіўся таксама перад наступнымі *у, о* пасля галосных у сярэдзіне слова: *тиунъ→тивун→цівун, паукъ→павук, Родионъ→Родивон→Радзівон, Леонъ→Лявон.* У старажытным тэксце: *з братомъ своимъ Левоникомъ.*

Так у беларускай мове і замацаваліся: *вуха, вушак, вузкі, вуж, вужака, вудка, вугаль, вуголле, вугровіца, вучоба, навучыць, вузел, завушніца, вуліца, завулак, вусы, вусаты, вусач, вочы, завочны, навокал, волава, востры, навостраны, завостраны, наваколле.*

Асобна спынімся на адносна нядаўна запазычаных словах, у складзе якіх ёсць спалучэнні *іу, ыу,* прычым галосны *у ў* іх не змяняецца на *ў;* гэта словы тыпу *радыус, кансіліум.* Спалучэнні двух галосных *іу, ыу* не маглі захавацца без змянення: паміж галосных узнік прыдыхальны гук; такое фанетычнае спалучэнне абазначым *іўу, ыўу: радыўус, кансіліўум, калёквіўум, дэндрарыўум, прэзідыўум.* Гэты прыдыхальны зычны на пісьме не перадаецца.

**§ 86. Афрыката *дж*.** У § 35 ужо ішла размова пра ўзнікненне *дж* у старажытнай беларускай мове. У помніках XV ст. (значыць, зычны *дж* з'явіўся значна раней) сустракаюцца пераканаўчыя факты існавання гэтага гука, які абазначаўся на пісьме спалучэннямі літар *жд, дж, ждч, жч: приеждати, наежчати, дожчъ, заеждчати, дрожчи, дожчу, дожды, уезджати*[34], *прыеждчаючому* (Атыла), *зваджȣю, пораджкенье, сȣджȣ* (Зіз. Лекс.). Прыклады паказваюць, што яшчэ ў старажытнасці было знойдзена абазначэнне гэтай афрыкаты дыграфам *дж.*

**§ 87. Зычны *г*.** Пра змяненне гука *г* у гісторыі беларускай мовы гаварыць не прыходзіцца: ён не перажыў змянення. Як адзначае Я. Ф. Карскі, гук *г* у беларускай мове ніколі не быў выбухны; на працягу ўсёй гісторыі яе ўтварэння і развіцця гэты зычны быў фрыкатыўны або фарынгальны (прыдыхальны)[35]. Што гэты зычны ў ста-

---

[34] Прыклады з кн.: А. Булыка. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы, с. 123.

[35] Я. Ф. Карскі лічыць, што ў продкаў беларусаў *г* быў фрыкатыўны яшчэ ў X ст. (гл.: Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, с. 369).

ражытнай беларускай мове не быў выбухны, надзейна паказваюць помнікі: выбухны *г* у запазычаных словах часцей абазначаецца спалучэннем літар *кг*. Некалькі прыкладаў: *Скирикгаилу* (Гр. 1387), *Олкгирда* (Вілен. п.), *кганку* (Бава), *перькгримомъ* (Тры кар.), *кгвалтовника* (Ст. літ. 1588), *Якгейло, Кгинбунта, Авкгуштына* (Рачынскі с.), *кгвалтом, кгузиками* (Акт. Мінск.), *кгмаху* (Спосаб спраў). Выбухны *г* у запазычаных словах абазначаецца таксама літарамі *г (гетманъ)*, г′ (г′*валт*), *к (квалтъ)*, іншы раз спалучэннем *гг (Ггидиминъ)*.

Беларускія старажытныя тэксты, напісаныя лацінкаю, звычайна перадаюць характар *г*. Лацінскі шрыфт, у якім ёсць асобныя літары *g* і *h*, даваў магчымасць паразнаму абазначаць выбухны *g* і фрыкатыўны *h*. Так, напрыклад, у «Лісце да Абуховіча» чытаем: *Howorku, hnewaysie, hroszy, hetaja, knihi, hłyboko, ubohich, nahorodu, dohetyl, pomahaw, hnoju, mohu, druh, horsz, hustoje, niczoho, Gdańsku, Gonsiewski, wengrom, gałaguckiy, generałom.*

Да нашага часу дайшла зусім невялікая група запазычаных слоў з выбухным *г: ганак, гонта, газа, гузік, гвалт* і інш., прычым і з гэтых слоў некаторыя *(гузік, ганак)* нярэдка вымаўляюцца з *г* фрыкатыўным.

Беларускі звонкі *г* мае адпаведны парны *х: нага — нох, лёгенькі — лёхка.*

У рускай мове звонкі зычны *г* з'яўляецца выбухным *(g)*; фрыкатыўны *г (h)* у рускім літаратурным вымаўленні сустракаецца ў некаторых словах кніжнага і царкоўнага паходжання: *боhа, боhу* і г. д., *блаhо, блаhодать, блаhословить, блаhодарить* і інш. З'яўленне такога вымаўлення гэтых слоў (зычнага *г*) звязваюць з перыядам, калі ў Маскве жылі і працавалі ў свой час вучоныя і пісьменнікі з Беларусі і Украіны, напрыклад Сімеон Полацкі, Епіфаній Славінецкі (гл.: П. Я. Черных. Историческая грамматика русского языка. М., 1952, с. 134). У рускай мове парным да звонкага выбухнога *г (g)* з'яўляецца глухі *к: друга — друк, дуга — дук.*

§ 88. **Шыпячыя зычныя.** Усе без выключэння шыпячыя ў агульнаславянскай і ўсходнеславянскай мовах былі толькі мяккія, яны не мелі адпаведных парных цвёрдых. Што яны былі мяккія, відаць і з помнікаў першых стагоддзяў пісьмовай пары. У гэтых помніках не сустракаем спалучэнняў *жы, чы, шы, жъ, чъ, шъ;* паслядоўна адлюстроўваюцца *жи, чи, ши, жь, чь, шь*. Так, у Астра-

міравым евангеллі: *точило, грѣшьникоу, плачь, чьто;* у грамаце князя Мсціслава: *дължьни, при животѣ, пришьствиѧ.*

Ужо на мяжы XIII—XIV стст. старажытныя беларускія помнікі перадаюць змяненне шыпячых. Спачатку зрэдку, потым часцей сустракаем напісанні спалучэнняў *жы, чы, шы, жъ, чъ, шъ, жэ, шэ.* Такія напісанні і абазначаюць зацвярдзенне шыпячых[36]: *слышышь* (Гр. 1300), *иншыхъ, нагорожэнꙑ, вожэня, кошэня, нашымъ, нижэи, нашыми, маючы, першыхъ, инъшымъ, справуючы, выдаючы, замужъ* (Ст. літ. 1566).

Ужо ў XVI ст. усе шыпячыя, незалежна ад пазіцыі (перад галоснымі, перад зычнымі, на пачатку слова ці на канцы), зацвярдзелі: *чый, печ, жыў, шыў, жэрдка, мяшэчак, ідзеш, нож.* Зацвярдзелі і падоўжаныя зычныя, што ўзніклі на месцы былых спалучэнняў «шыпячы+ь+*j*»: *збожжа, застрэшша, Парэчча.* Незалежна ад паходжання зацвярдзела спалучэнне *шч: шчупак, пушча, плошча, пяшчотны, нашчадак, шчасце, падпішчык* (арфаграфічна *падпісчык), разношчык (разносчык), рашчысціць (расчысціць).* Зацвярдзела таксама афрыката *дж: гляджу, сяджу, ураджай, дагледжаны, прыладжаны.*

У рускай мове зацвярдзенне шыпячых адбылося непаслядоўна: *нош, реш (нож, режь),* але *печ', чисто, реч'ной.*

**§ 89. Зычны *ц*.** У сучаснай беларускай графіцы літара *ц* служыць для абазначэння двух зусім розных гукаў: цвёрдага *ц* і мяккага *ц (ц')*, якія не з'яўляюцца парнымі. Цвёрды *ц* вымаўляецца ў такіх словах, як *цэлы, ланцуг, капец, малайцы, маладзіца,* мяккі — у такіх словах, як *цясніна, хацінка, лецейка, паціху.* У гэтым параграфе размова будзе пра гісторыю *ц* цвёрдага (пра *ц'* гл. § 84).

Складаны зычны *ц* у агульнаславянскай і ўсходнеславянскай мовах, як і шыпячыя, быў мяккі, не меў парнага цвёрдага: *купьць, копьць, цѣна, коньць.* З XV ст. беларускія помнікі паказваюць зацвярдзенне гэтага гука: *купецъ, местьцꙋ* (Прывілей Мінску), *прецажоней* (Тры кар.), *райцы* (Акт. Магіл.), *цэною, тройцы* (Ст. літ. 1566).

У сучаснай беларускай мове, ва ўсіх яе гаворках зыч-

---

[36] Напісанні тыпу *чого, прышолъ, чоловѣка* (сведчаць пра ўзнікненне пасля шыпячых *о* з *э(е)* і не абавязкова пра зацвярдзенне шыпячых.

ны *ц* у любой пазіцыі толькі цвёрды. Вось чаму былы мяккі *ц* называем, як і шыпячыя, зацвярдзелым.

У § 64 гаворыцца пра развіццё мяккасці свісцячых у беларускай мове. Гэты працэс захапіў і цвёрды *ц*. У асобных словах ён перажыў новае змяненне — паўторнае памякчэнне. Гэта адбылося ў словах, дзе *ц* апынуўся перад наступным мяккім *в*: *ц'вет, ц'вісці, ц'вілы, ц'віль, зац'вітаць, ц'вяліць*.

**§ 90. Зычны *р*.** У сучаснай беларускай літаратурнай мове зычны *р* — цвёрды гук: *рама, рука, рэзаць, вячэра, курыць, перад*. З гістарычнага ж пункту гледжання ў беларускай мове трэба адрозніваць *р* цвёрды і *р* зацвярдзелы.

Яшчэ ў агульнаславянскай мове зычны *р* быў цвёрды ў такіх, напрыклад, словах, як *рыба, горы, рог, род, жар*. Перад галоснымі пярэдняга рада *і, э, е, ѣ, ь*, а таксама перад *ј (й)* зычны *р* памякчаўся: *передъ, старьць, рѣзати, *курјǫ→курю*. Помнікі першых стагоддзяў пісьмовай пары паказваюць *р* цвёрды і *р* мяккі: *добрѣ, сътворѧ* (П. Гасц.), *приметь, крьстъ* (Надпіс Ефр.), *Борисову* (Надпіс Раг.), *продати, раба* (Надпіс Ефр.).

Я. Ф. Карскі піша, што зацвярдзенне мяккага *р* назіраецца яшчэ з XIV ст.: *сентебра, терать, Дрыса*[37]. Можна з упэўненасцю лічыць, што зацвярдзенне *р* пачалося раней. Помнікі XV—XVI ст. вельмі часта паказваюць на зацвярдзенне былога *р* мяккага: *вечера, церъкви* (Будны), *трэтихъ, дерэва, добрэ, выберэм, писара* (Ст. літ. 1566), *вепръ, перъвей, тепер, тры* (Акт. Магіл.), *прышла, морыла, прывелі, прынесъ, крычати, прыйдеть, пры, на зоры* (Трыстан), *вдарыл, прынесла, прышли, царъ, прывела, прывыкъ* (Бава), *Рыму, рымское, прычыны, крывды, з мора* (Рачынскі с.).

Напісанне ў старажытных тэкстах *рибы, которие* — таксама сведчанне змянення *р'→р*: пісец не ведаў двух *р*, не адрозніваў *р* і *р'*.

Што да сучасных беларускіх гаворак, то большасці іх уласціва цвёрдасць *р*, але ў частцы паўночна-ўсходняга дыялекту і сёння *р* і *р'* з'яўляюцца парнымі: *рост* і *бярёза, (на) гару* і *курю, рак* і *вячэря* (Мсціслаўскі раён).

Як адзначаў Я. Ф. Карскі, цвёрдасць *р* у беларускую мову магла прыйсці з дапісьмовых часоў як дыялектная

---

[37] Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, с. 306.

з'ява з агульнаславянскай мовы-асновы. Гэта меркаванне пацвярджаецца наяўнасцю *р* цвёрдага (зацвярдзення *р*) у сербскай мове[38]. Няма мяккага *р* і ў мове нашых заходніх суседзяў — палякаў: былы мяккі зычны *р* вымаўляецца або як *ж* (*grzyb, dobrze* — пасля звонкіх зычных), або як *ш* (*trzeba, wieprz* — пасля глухіх зычных)[39].

У рускай мове захавалася парнасць *р : р'* (*рад* і *ряд, веру* і *верю, рысь* і *рис*). У мове ўкраінцаў таксама адбывалася зацвярдзенне *р*, але не з той паслядоўнасцю, як у беларусаў. Ва ўкраінскай мове зацвярдзеў *р* на канцы склада (слова) і перад зычнымі: *лікар, тепер, вірте, гіркий;* у іншых выпадках *р': рясний, трьох, порядок, курець, різати, річка.*

**§ 91. З'яўленне ўстаўных заднеязычных.** Як паказана ў § 30, ва ўсходнеславянскай мове інфінітывы дзеясловаў з асновай на заднеязычны (*маг-у, ляг-у*) канчаліся на *-чи,* дзе *ч* паходзіў са змененых *гт* або *кт: могти→мочи, легти→лечи.* У пісьмовую пару адбылося змяненне, у выніку якога перад *ч* з'явіўся ўстаўны заднеязычны, змянілася і марфалагічная будова інфінітываў. Пад уплывам асабовых форм (*магу, лягу, сцерагу*) у інфінітыве з'явіўся зычны *г: мочи→могчи→магчы, лечи→легчи→легчы, стерегчи→сцерагчы.* Гэтак адбылося і ў словах *стрыгчы, дапамагчы, бегчы, секчы* і інш. З'яўленне заднеязычнага прывяло да выдзялення ў беларускай мове асобнага суфікса інфінітыва *-чы,* не ўласцівага ніякай іншай славянскай мове; параўн., напрыклад, польск. *lec, moc, strzyc,* руск. *лечь, мочь, стричь;* укр. *легти, могти, стригти.*

**§ 92. Страта канцавога *j* (*й*).** Гэта з'ява была ўжо закранута, калі ішла размова пра ўтварэнне і лёс рэдукаваных *ы, і* (напружаных *ъ, ь*). Сучасныя беларускія *другі, тугі, сляпы* паходзяць з *другы$_р$jь* (на пісьме *другыи*), *тугы$_р$jь* (*тугыи*), *слѣпы$_р$jь* (*слѣпыи*).

Пасля страты канцавога *ь* і змянення *ы$_р$* на *ы* атрымалася: *тугый, слѣпый, такый, другый, семый, первьший, смачьный, змытый, написаный.* У прыметніках, парадкавых лічэбніках, дзеепрыметніках канцавы *j* (*й*), які быў калісьці асноваю займенніка *jь* (на пісьме — *и*), стра-

[38] Е. Ф. Карский. Белорусы. Язык белорусского народа, с. 306.
[39] У польскай графіцы зычныя *ж* і *ш,* што паходзяць з мяккага *р,* абазначаюцца дыграфам *rz.*

ціўся. Так узнікла беларуская форма прыметнікаў назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку мужчынскага роду і прыметнікавых слоў: *залаты, малады, разумны, ласкавы, каханы, паважаны, першы, шосты, сёмы, гэтакі, гэты, самы.*

Страта канцавога *j (й)* адбылася ў 2-й асобе загаднага ладу аднаскладовых дзеясловаў тыпу *бі, пі, ві, лі* з былых *бији, пији, вији, лији,* дзе спачатку страціўся канчатак *и,* а потым *j: бији→бијј→бі.*

Паказанае змяненне — старажытная асаблівасць беларускай фанетыкі. Яна адбілася і ў нашых помніках. Некалькі прыкладаў: *король... литовски, руски, польски* (Гр. 1387), *полоцки* (Даг. Пол.), *стары, велики, восковы, штучны, горшок медены, сукман чорны* (Акт. Магіл.), *ежъ и пи, Кривы город, велики Витовт, Полскы король* (Супр.), *taki, Moskowski* (Ліст), *łoński, pierszy, nieszczaśliwy, czorny* (Кам. зб. Мараш.).

З другога боку, у помніках не толькі XIII—XIV, а і наступных стагоддзяў, у тым ліку XVIII, сустракаюцца напісанні тыпу *які́й* (або *якый), посполитый, шостый, моцный, дужий* (або *дужый), менский* (або *менскій* ці *менскый*). Тлумачыцца гэта ў адных выпадках традыцыяй пісьма, у другіх — тым, што аўтары (пісцы) паходзілі з паўночна-ўсходняй Беларусі, дзе і сёння словы тыпу *такі, мяккі, салодкі, працавіты, літасцівы, бі, пі* канчаюцца на *j (й).*

Руская і ўкраінская мовы захавалі *j (й)* у разгледжаных формах: руск. *такой, первый, бей, пей;* укр. *такий, перший, бий, пий.*

Разгледжаная страта канцавога *j (й)* адбылася не толькі ў беларускай мове: польск. *dobry, stary, siódmy, jaki;* чэшск. *drahy, zubaty.*

**§ 93. Змяненне *гы→гі, кы→кі, хы→хі.*** Як вядома, у агульнаславянскай мове-аснове зычныя *г, к, х* былі толькі цвёрдыя, а ў спалучэнні з галоснымі пярэдняга рада ці з *j (й)* змяняліся, пераходзячы ў шыпячыя *(г→ж′, к→ч′, х→ш′)* або ў свісцячыя *(г→дз′→з′, к→ц′, х→с′).* Цвёрдыя *г, к, х* спалучаліся без змен з наступным *ы.* Вось чаму было: *кънигы, ногы, гынути, Кыевъ, рукы, кыдати, стрѣхы, хытръ.* Яшчэ ўсходнеславянскія помнікі пачынаюць адлюстроўваць непераходнае памякчэнне цвёрдых *г, к, х.* Адначасова з памякчэннем заднеязычных адбывалася і перанясенне ўтварэння га-

лоснага *ы* пасля іх у пярэдні рад: *ы→і (гы→гі, кы→кі, хы→хі)*. Працэс памякчэння заднеязычных і змены *гы→гі, кы→кі, хы→хі* быў працяглы і не закончыўся ва ўсходнеславянскай мове; у беларускіх помніках не толькі XIII—XIV, а і наступных стагоддзяў чытаем: *великыи Витовтъ* і *велики Витовтъ*; *Смоленскымь, Смоленьскыми, Резанскыа, Московскыи, татарскыа* і *многими, дорогими, Литовъскимь, Литовские земли* (Супр.). Напісанні тыпу *рукы, ногы* ў помніках XV—XVI стст., трэба думаць, — адлюстраванне традыцый пісьма больш старажытнай пары.

Непераходнае памякчэнне *г, к, х* з часам пашыралася, узнікалі не толькі спалучэнні *гі, кі, хі*, а і *ге, ке, хе*. Гэта адбылося ў памяншальных (памяншальна-пяшчотлівых) формах тыпу *мякенькі, лёгенькі, сухенькі, глухенькі* (былыя *льгонькъи, сухонькъи*). Узніклі гэтыя *ге, ке, хе* шляхам выраўноўвання (па аналогіі) з формамі тыпу *маленькі, любовенькі, старэнькі, маладзенькі*.

Такім чынам, у сучаснай мове ў словах тыпу *сухі, такі, тугі, гінуць, кінуць, схінуцца* галосны *і* з'явіўся на месцы былога *ы;* у словах тыпу *лёгенькі, сухенькі э(е)* — на месцы *о*.

У беларускай мове на стыку канцавога заднеязычнага і злучніка (часціцы) *і* маем паслядоўнае памякчэнне: *луг-і-поле (луг і поле), смех-і-грэх (смех і грэх), рак-і-рыба (рак і рыба), смык-і-скрыпка (смык і скрыпка)*[40].

**§ 94. Змяненне *дс→цц, тс→цц*.** У беларускай мове развіўся падоўжаны цвёрды *ц*, які на пісьме абазначаецца падвойнаю літараю *ц (цц)*, у лічэбніках з *адзінаццаці* да *дзевятнаццаці, дваццаць* і *трыццаць*, у зваротных дзеясловах — у інфінітыве *(сварыцца, хвалявацца, злавацца)* і 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку абвеснага ладу *(будуецца* і *будуюцца, змагаецца* і *змагаюцца, здараецца* і *здараюцца)*.

Лічэбнікі *адзінаццаць — дзевятнаццаць* утварыліся са спалучэнняў *одинъ на десяте, дъва на десяте, четыри на десяте*. Калі са спалучэння ўтварылася адно слова, абодва ненаціскныя галосныя *э (е)* у былым асобным слове *десяте* паступова рэдукаваліся і выпалі, былое

---

[40] У рускай мове інакш: *волк-ы-кот, слух-ы-дух;* на стыку марфем вымаўляюцца *гы, кы, хы*. (Гл.: В. В. Иванов. Историческая грамматика русского языка, с. 208).

*дзся́те* змянілася ў частку складанага слова *-д′сят′ (дванад′сят′, четырнад′сят′)*. Узнікла спалучэнне *д′с′*, якое перажыло новыя фанетычныя змяненні: *д′* прыпадобніўся да глухога сцісцячага *с′* і змяніўся на *ц′*, потым *ц′с′* — на *ц′ц′*; падоўжаны *ц′* зацвярдзеў. Гэтак змянілася *десяте* і ў складаных лічэбніках *дваццаць* (з *дъва десяте), трыццаць* (з *трие десяте*).

Пры ўтварэнні дзеяслоўнай зваротнай формы (яна падрабязна разглядаецца ў марфалогіі) зычны *т′*, які змяніўся на *ц′*, апынуўся непасрэдна перад *с′ (ся): бьрати ся→брат′ся→брац′ся, беруть ся→берут′ся→беруц′ся.* Спалучэнне *ц′с* змянілася далей: *ц′ц′→цц*.

Частка паўднёва-заходніх беларускіх гаворак дасюль захоўвае вымаўленне падоўжанага мяккага *ц* у разгледжаных зваротных дзеясловах: *вучы́ц′а (вучы́цьця), вý-чыц′а (вýчыцьця), вýчац′а (вучацьця).*

# ЛІТАРАТУРА


*Ленін У. І.* Творы, т. 20. Мінск, 1950.
*Ленін У. І.* Творы, т. 29. Мінск, 1951.
*Маркс К.* и *Энгельс Ф.* Сочинения, т. 16. М., 1960.
*Энгельс Ф.* Анты-Дзюрынг. Мінск, 1952.

*Анічэнка У. В.* Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мінск, 1969.

*Антонович А. К.* Язык судебной (актовой) книги каунасского земского суда 1566—1567 гг. Вильнюс, 1961.

*Антонович А. К.* Белорусские тексты, писанные арабским письмом. Вильнюс, 1968.

*Безпалько О. П., Бойчук М. К., Жовтобрюх М. А., Самійленко С. П., Тараненко І. И.* Історична граматика української мови. Київ, 1962.

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. II, VI.

*Борковский В. И., Кузнецов П. С.* Историческая грамматика русского языка. М., 1963.

*Булахаў М. Г.* Практыкаванні і матэрыялы па курсу гісторыі беларускай мовы. Мінск, 1969.

*Булыка А. М.* Развіццё арфаграфічнай сістэмы беларускай мовы. Мінск, 1970.

*Вайтовіч Н. Т.* Да пытання аб паходжанні беларускага дзекання і цекання. — Вуч. зап. Мінск, дзярж. пед. ін-та, вып. 1. Мінск, 1960.

*Вольскі В.* Нарысы гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму. Мінск, 1958.

Гісторыя БССР, т. 1. Мінск, 1972.

*Жураўскі А. І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1. Мінск, 1967.

*Иванов В. В.* Историческая грамматика русского языка. М., 1964.

История БССР, т. 1. Минск, 1954.

*Карский Е. Ф.* Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903; Белорусы. Язык белорусского народа. М., 1955; Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962.

Нарысы гісторыі беларускай мовы. Мінск, 1957.

*Падлужны А. І., Чэкман В. М.* Гукі беларускай мовы. Мінск, 1973.

*Суднік М. Р.* Да гісторыі фарміравання беларускай арфаграфічнай сістэмы. — Весці АН БССР, 1950, № 3.

*Филин Ф. П.* Происхождение и развитие русского языка. Л., 1954; Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972.

Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы, ч. 1. Мінск, 1961.

*Черных П. Я.* Историческая грамматика русского языка. М., 1952.

*Чэкман В. М.* Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці-мяккасці ў беларускай мове. Мінск, 1970.

*Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1964.

*Шахматов А. А.* Очерк древнейшего периода истории русского языка. Пг., 1915.

*Юргелевіч П. Я.* Нарыс сучаснай беларускай літаратурнай мовы з гістарычнымі каментарыямі. Мінск, 1961.

# СКАРАЧЭННІ

Акт. Брэсцк. — Актавая кніга Брэсцкага земскага суда (1590).
Акт. Магіл. — Актавая кніга Магілёўскага магістрата (1578).
Акт. Мінск. — Актавая кніга Мінскага гарадскога суда (1582—1588).
Атыла — Гісторыя пра Атылу (XVI ст.).
Бава — Аповесць пра Баву (XVI ст.).
Баркул. л. — Баркулабаўскі летапіс (канец XVI—пачатак XVII ст.).
Будны — «Катэхізіс», пераклад С. Буднага (XVI ст.).
Бяр. Лекс. — «Лексікон» Бярынды (1627).
Вілен. л. — Віленскі спіс летапісу (XIV—XV стст.).
Гр. Анофр. — Грамата князя Анофрыя польскаму манастыру (каля 1399).
Гр. Герд. — Грамата князя Гердэня (1264).
Гр. 1229 — Дагаворная грамата князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам (1229).
Гр. 1284 — Грамата смаленскага князя Фёдара Расціслававіча (1284).
Гр. 1300 — Грамата рыжан да віцебскага князя (1300).
Гр. 1387 — Грамата караля Уладзіслава князю Скіргайлу (1387).
Гр. 1498 — Грамата Янкі Багдановіча (1498).
Гр. Як. — Грамата полацкага епіскапа Якава (1300) .
Даг. Пол. — Дагавор Полацка з Рыгай (1407).
Еўлашэўскі — Гістарычныя запіскі Ф. Еўлашэўскага (канец XVI — пачатак XVII ст.).
Ж. Алякс. — Жыццё Аляксея (XV ст.).
Зб. 262 — Зборнік № 262 (прыклады з працы А. Булыкі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы, Мінск, 1970).
Зб. 391 — Зборнік № 391 (прыклады з працы А. Булыкі «Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы». Мінск, 1970).
Зіз. Лекс. — «Лексіс» Зізанія (1596).
Кам. зб. Мараш. — Камедыя ў зборніку К. Марашэўскага (XVIII ст.).
Км.-Чарнаб. — Веставыя водпісы Ф. Кміты-Чарнабыльскага (XVI ст.).
Кн. пас. — Кніга пасольскай метрыкі Вялікага княства Літоўскага (XVI ст.).
Кн. Слонім. — Кніга запісаў актаў Слонімскага земскага суда (1565—1566) (прыклады з працы І. Крамко «Сінтаксіс слонімскіх актаў XVI ст. (складаны сказ)». Мінск, 1970).
Ковен. 1566 — Кніга Ковенскага земскага суда (1566—1567).
Ліст — Ліст да Абуховіча (1655).

Мам. паб. — Сказанне пра Мамаева пабоішча (XV ст.).
Мялешка — Прамова Мялешкі (XVI ст.).
Надпіс Ефр. — Надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай (1161).
Надпіс Раг. — Надпіс на Рагвалодавым камені (1171).
П. Гасц. — Пісьмо Гасцяты да Васіля (канец XI ці пачатак XII ст.).
Прывілей Мінску — Прывілей месту Менскаму на права магдэбурскае (1499).
Рачынскі с. — Летапіс паводле спісу Рачынскага (XVI ст.).
Руф — Кніга «Руф», пераклад са старажытнай яўрэйскай мовы (XVI ст.).
Рымскі л. — Рымскі летапісец (XVI ст.).
Рымша — Эпіграма А. Рымшы на герб Л. Сапегі (1588).
Сапега — Прамова Л. Сапегі на Варшаўскім сейме (1588).
Скарына, Апост. — Прадмова Ф. Скарыны з кнігі «Апостал» (1525).
Скарына, Юдзіф — Пасляслоўе Ф. Скарыны з кнігі «Юдзіф» (1519).
Спосаб спраў — Спосаб спраў трыбунальскіх (1581).
Ст. літ. 1566 — Літоўскі статут 1566 г.
Ст. літ. 1588 — Літоўскі статут 1588 г.
Стр. Хр. — Страсці Хрыстовы (XV ст.).
Стрыйкоўскі — «Хроніка» М. Стрыйкоўскага (XVII ст.).
Супр. — Супрасльскі спіс летапісу (XV ст.).
Тайна т. — Тайна тайных (XVI ст.).
Троя — Аповесць аб Троі (XVII ст.).
Тры кар. — Аповесць пра трох каралёў-валхвоў (XV ст.).
Трыстан — Аповесць пра Трыстана (XVI ст.).
Цяпінскі — «Евангелле», пераклад В. Цяпінскага (каля 1570).
Шк. камед. — Школьная камедыя (XVIII ст.).

## ПАКАЗЧЫК СЛОЎ

## ЗМЕСТ

**ФАНЕТЫЧНЫЯ ЗМЯНЕННІ ПІСЬМОВАЙ ЭПОХІ**
**РЭДУКАВАНЫЯ ъ, ь**



**ВЫНІКІ СТРАТЫ РЭДУКАВАНЫХ ъ, ь У ВАКАЛІЗМЕ**



**ВЫНІКІ СТРАТЫ РЭДУКАВАНЫХ ъ, ь У КАНСАНАНТЫЗМЕ**

*На белорусском языке*

ЯНКОВСКИЙ Федор Михайлович
ИСТОРИЧЕСКАЯ ГРАММАТИКА БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА.
1 часть. Введение. Фонетика

Рэдактар *А. І. Марчанка.* Мастацкі рэдактар *В. М. Валянтовіч.* Тэхнічны рэдактар *М. М. Кіслякова.* Карэктар *В. І. Белановіч*

АТ 11563. Здадзена ў набор 26/IX 1973 г. Падпісана да друку 31/V 1974 г. Папера 84×108¹/₃₂. № 1. Друк. арк. 4,5 (7,56). Ул.-выд. арк. 8,34. Выд. № 72—79. Заказ 503. Тыраж 3000 экз. Цана 30 кап.

Выдавецтва «Вышэйшая школа» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Рэдакцыя літаратуры па філалогіі, культуры і мастацтву. Мінск, вул. Кірава, 24. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, вул. Красная, 23.

# ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Стар. | Надрукавалі | Трэба чытаць |
|---|---|---|
| 13, дваццаць першы радок зверху | голасны ъ | галосны ъ |
| 43, восьмы радок знізу | насад-жаецца | наса-джаецца |
| 68, дванаццаты радок зверху | (*гй : *ж*) **дръгйQ→ дръжу(→дрыжу), *лугйа→лужа;* | *(*кй : ч) *крикйQ→ кричу(→крычу), *плакйо→плачу;* |
| 79, шосты радок знізу | *sQd* | *sǫd* |
| 79, дванаццаты радок знізу | *възьмо* | *възмо* |
| 81, трэці радок знізу | *везати* | *вязати* |
| 91, дзесяты радок зверху | могло | магло |
| 93, дзесяты радок знізу | білабіяльны w (у) | білабіяльны w (у): |
| 139, першы радок знізу | *съчасть* ∋⊣ | *съчасть* ⊢∈ |
| 142, чацвёрты радок знізу | зычны | зычныя |